РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 200 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №20 (129). 18 МАЯ 1994 ГОДА.

Увечары 12 мая ў Нацыянальным тэатры імя Янкі Купалы адбыўся бенефіс непаўторнай *Стэфаніі Станюты.* Зачараваныя яе талентам гледачы з залы вярталі Актрысе тое, што яна несла ім праз усё сваё жыццё,— шчырую любоў.

Фота Генадзя ЖЫНКОВА.

СЁННЯ:



Толькі ў апошнія гады з музея невядома як, а часам нават і калі, бясследна зніклі унікальныя гістарычныя рэліквіі...

■ Стар. 3.

Аўгуст II Моцны: «Усё маё жыццё было адзіным неперарыўным грахом...»

■ Стар. 4,13.




■ Укладка

стар. 5 — 12.

У рубрыцы «Эксклюзіў» — інтэрв'ю з дачкой вядомага авангардыста беларускага паходжання Нікай СТРЭМІНСКАЙ

■ Стар. 13,14.

TV-ПРАГРАМА:

БТ, «Астанкіна», канал «Расія», Санкт-Пецярбург, 8-ы канал.

■ Стар.15.

ЧАС ВЫБАРАЎ

# АПОШНІ ШАНЦ

У першы ж дзень збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у прэзідэнты ля ўваходу ў Акадэмію мастацтваў я ўпэўнена падпісаўся на аркушы, дзе значылася імя Зянона Пазьняка. Тут жа сутыкнуўся са сваімі студэнтамі і выкладчыкамі: адны таксама без хвіліны разважанняў рабілі тое, што і я, іншыя (яны ўжо даўно ўсё зразумелі, што робіцца ў нашай краіне і куды трэба ісці далей), вагаліся. А адзін, з безумоўна самастойным мысленнем, з сумам сказаў: «Не падпісваюся, бо хачу быць па-за палітыкай». Я разумею яго, бо і сам мару быць апалітычным. І, дарэчы, нафантазіраваў сабе нейкі ідэальны ўзор мастацтва — абсалютна апалітычнае, якое даследуе псіхалогію чалавека самога па сабе, без усялякіх там сацыяльных алюзій. Але гэта ідэал, і, здаецца, ніколі і зусім недасягальны. Што ж я адказаў свайму студэнту? А тое, што сёння для ўсіх нас прэзідэнцкія выбары — гэта ўжо не палітыка, а апошні шанц, апошняя надзея на выжыванне. І кожны павінен зрабіць уласны выбар, каб не наракаць пасля, як рабіў класік айчыннай літаратуры: маўляў, шмат добрага даў Бог беларусам, адно толькі дурных начальнікаў пасылае. Вось і выберам жа, нарэшце, а мо нават і свабодна, сабе начальніка самі.

Час настаў. Далей няма куды. Першыя прэзідэнцкія выбары — гэта вялікая надзея на змену. Апошняе слова для мяне прынцыповае. У ім увесь сэнс. Не пераабраць на новы тэрмін, перасадзіўшы з аднаго крэсла ў больш камфортнае таго, хто давёў нас да апошняй рысы адчаю разам са сваёй камандай, а выбраць новага лідэра. Кожны грамадзянін мае права ўголас сказаць тое, што ён думае пра сваю ўладу. Скажу і я, тым больш, што Канстытуцыя гэта гарантуе. Але ж той, хто ўладарыў учора, уладарыць сёння і бессаромна збіраецца ўладарыць заўтра ўжо ў якасці прэзідэнта, пасмяяўся з нашай веры ў Асноўны Закон дзяржавы, а затым з лёгкасцю заявіў, што яе (Канстытуцыю!) можна памяняць. Мы прагнем законнасці, справядлівай і цвёрдай улады, і — уратуй, Божа! — пойдзем галасаваць за спадара Кебіча? Я ўздрыгваю, прыходжу ў роспач і жах, калі чую бадзёрыя галасы тэлемарыянетак, пра дзесяткі-сотні тысячаў подпісаў у падтрымку сённяшняга пакуль што (ці нібыта) прэм'ера. І тут жа супакойваюся, бо не веру, што наш народ, даведзены да галечы, беспрацоўя эксперыментамі-авантурамі (накшталт рублёвай зоны ці яшчэ смяшней — беларускага легкавіка), такі сляпы і глухі. Не веру, бо за дваццаць гадоў журналісцкай і навуковай практыкі вывучыў механізмы бальшавіцкай прапаганды-хлусні, бо добра ведаю сапраўднае аблічча і закулісныя прыёмчыкі ў Дзяржтэлерадыё. Нават рыбіна на недалікатныя нажыўкі не клюе, няўжо суграмадзяне клюнуць на бясплатны праезд пенсіянераў у прыгарадным транспарце, на тое, што «зарплата будзе расці, а кватплата — не», на замарожаныя цэны на чорны хлеб і да т.п.?! Такая прымітыўная гульня: у адным месцы забраць, у другое перакінуць. Мама паехала на лецішча бясплатна, а сыну недаплацілі за яго працу. Вось так усё ўжо больш за семдзесят гадоў — дармавая ахова здароўя, адукацыя і іншыя функцыі. Спрацоўвала: дэпутатамі станавіліся начальнікі розных узроўняў, калі пракладвалі асфальт у вёсцы ці прыганялі туды аўталаўку з імпартным абуткам. Вось і зараз: за дзяржаўны кошт пайшла-паехала прапаганда. Пакуль астатнія прэтэндэнты чакаюць сваіх дзвюх з паловай гадзінаў на выступ па тэлебачанні, дзяржтэлерадыёсалаўі штораніцы, штодзень, штовечар співаюць асанну Прэм'еру, які марыць стаць Прэзідэнтам. Ну, нібыта ў раі жывеш. А выйшаў на вуліцу — нават вераб'і не чырыкаюць.

Не! Я не буду галасаваць за спадара Кебіча, бо ён парушыў усялякую логіку жыцця. Звычайна, зайшоўшы ў тупік, людзі шукаюць выйсце, ён жа спрабуе прабіцца скрозь тупіковую сцяну. Магчыма, і праб'е яе, але далей пастка, у якой нас чакае доўгая і пакутлівая смерць. Я не буду галасаваць за спадара Кебіча, бо хачу дажыць адпушчанае мне Богам з пачуццём чалавечай годнасці, а не стаяць на каленях перад больш моцным суседам, які на тваю выцягнутую руку глядзіць з пагардай. Я хачу карміць сябе сам, каб і мне хапіла, і суседзяў пачаставаць, калі яны па-добраму завітаюць да мяне ў госці, на маё запрашэнне. А запросяць мяне — пайду, прыхапіўшы з сабой, як водзіцца сярод людзей, пляшку. Магчыма, спадару прэтэндэнту дзеля здзяйснення сваёй запаветнай мары (але што за ёй стаіць?..) і падабаецца прыніжацца. Мне — не! Я хачу мець свае грошы ў маёй кішэні, жыць ва ўласнай кватэры, а не кватарантам ці ў інтэрнаце, быць свабодным і адкрытым для ўсіх, сябраваць на роўных. Таму мая рука выкрасліць прозвішча Кебіча з бюлетэня.

Тое ж самае я зраблю і з прозвішчам яшчэ аднаго кандыдата — Аляксандра Лукашэнкі. Ужо хоць бы таму, што не веру правадыру бальшавікоў, «товарищу Ленину», які калісь вытлумачыў, хто можа кіраваць дзяржавай. Неадукаванасць заўсёды існуе з цэлай абоймай якасцей, якія ніяк не могуць стасавацца з такімі паняццямі, як інтэлігентнасць, такт, культура (у тым ліку і палітычная). Неяк у адным са сваіх шматлікіх інтэрв'ю спадар (ці «таварыш»?) Лукашэнка заявіў, што ў яго электарат увойдуць і работнікі культуры. А мне ўспомнілася, як гэты народны дэпутат з парламенцкай трыбуны абзываў людзей, што свабодна выказвалі свае думкі на пляцы Незалежнасці, натоўпам дый іншымі словамі. Хто ж быў там? Знакамітыя пісьменнікі, мастакі, рэжысёры, навукоўцы, журналісты, настаўнікі. Я там быў таксама, і ў свой электарат Лукашэнка мяне не запіша. Спадзяюся, і ніводнага чытача «Культуры». А ўвогуле тут не варта гвалціць сваю фантазію ў пошуках аргументаў.

Апошнім часам я задоўга да пачатку заняткаў са студэнтамі пад'язджаў да Акадэміі мастацтваў. Бывалі дні, калі тут адначасова збіралі подпісы за Карпенку, Шушкевіча, Пазьняка. Я назіраў, як часам людзі, нават у апошні момант, губляліся, каму з іх аддаць перавагу. Часцей падпісваліся адразу за трох. Разумею іх, падзяляю трывогі, пратэст. І спадзяванні. На дэмакратыю, на вартую чалавечага жыцця найвялікшую каштоўнасць — жыць у свабоднай, эканамічна моцнай, культурнай, немілітарызаванай дзяржаве. Кожны з гэтых кандыдатаў мае сваё разуменне шляху да запаветнай мары народа. Дарога будзе няпростая, могуць здарыцца памылкі, але яны шчырыя і сумленныя людзі сучасных еўрапейскіх поглядаў, без багажу «руководящих должностей» у тым грамадстве, якое зусім не выпадкова яны самі называлі хоць і прывабным эпітэтам «сацыялістычны», але ўсё ж лагерам.

Я веру ўсім тром, магчыма, менш Станіславу Шушкевічу, бо цяжка дараваць неправедзены рэферэндум ці падпісанне ім дамовы аб калектыўнай бяспецы. Глыбока паважаю Генадзя Карпенку, пра ўвагу якога да мастацтва я ўжо двойчы пісаў на старонках «Культуры». Але выбар трэба рабіць. І на першым этапе ўсё ж свой голас аддам за Зянона Пазьняка.

Чаму?

Таму што хачу, каб маёй краінай кіраваў чалавек, які верыць у Бога. Таму што ўсе мы — хрысціяне. Я спадзяюся, веру, што спадар Пазьняк ведае, як пракласці дарогу да Храма. Бо Храм для яго — гэта жыццё кожнага чалавека і ўсіх разам у грамадскай супольнасці паводле Хрыстовых запаветаў. Бо Храм для яго — наша Бацькаўшчына, Беларусь. Ён любіць яе, кахае. І не здрадзіць, пераможа д'ябальскія спакусы, якія падпільноўваюць нас штодня.

Я буду галасаваць за Пазьняка, бо маю свае вочы і свае вушы, каб бачыць і чуць, што ён хоча. На нашых вачах з патрыёта-рамантыка, беларускага Дон-Кіхота ён ператварыўся ў моцнага, загартаванага палітыка, бо змагаўся не з ветракамі, а з магутнай машынай лютасці, хлусні, крывадушша. Хоць і ліюць бруд на яго тэлебачанне ці «Советская Белоруссия», Пазьняк не запэцкаўся. А відушчыя бачаць, што ён не «фашыст», а мяккі добразычлівы чалавек у адносінах да добрых людзей, што для яго няма розніцы, хто ты — беларус, рускі, яўрэй, паляк. Крытэрый адзін — адчуваць сябе грамадзянінам Беларусі і служыць ёй.

І яшчэ. З гэтым імем я звязваю надзеі, што намі ні на якім узроўні больш не будуць кіраваць тыя, хто дзесяцігоддзямі здзекваўся з нас, кпіў з нас, давёў да галечы. Што прыйдзе новая каманда новых людзей, якая з'яднае народ вакол ідэі дзяржаўнасці, свабоды і павядзе ў сусветную супольнасць, дзе мы будзем роўна пачуваць сябе з іншымі народамі. Што нашы хлопцы не будуць праліваць сваю і чужую кроў на чужых землях.

Гісторыя нам дала яшчэ адзін шанц. На гэты раз, перакананы, апошні. Як скарыстаем яго?

Божа, дапамажы не памыліцца мне. Маім блізкім. Народу...

Вячаслаў **РАКІЦКІ**.

# ФРАНЦУЗСКАЕ СЛОВА НА СЦЭНЕ ТЮГа

Два дні на сцэне Тэатра юнага гледача гучала не беларуская мова, а французская. Тут праходзіў другі па ліку фестываль аматарскіх школьных і студэнцкіх франкамоўных тэатраў Беларусі, які праводзіўся пры садзеянні амбасады Францыі ў нашай краіне.

Акцёры студыі «Клас-А!» мінскай сярэдняй школы N 74, якія ігралі п'есу «Сястра мая Русалачка» Л.Разумоўскай паводле знакамітай казкі Г.-Х. Андэрсэна «Русалачка», спрабуючы сябе ў новым амплуа, цудоўна спраўляліся са сваімі ролямі. Сімпатыі выклікалі маленькі забаўны і памяркоўны кароль (Міхась Яўстратаў), няўрымслівая каралева (Святлана Сізанава), задуменны прынц (Віталь Клімчук), гратэскавая марская вядзьмарка (Наталля Шылава).



Каханне і забойства несумяшчальныя. Русалачка (Кацярына Агароднікава) дзеля кахання ахвяравала сабой і ператварылася ў марскую пену... Такі вось вечны сюжэт пра чалавечыя адносіны, дружбу і вернасць.

Тое, што на сцэне ігралі не прафесіяналы, ніхто не заўважаў. Так нязмушана і кранальна выконвалі свае ролі артысты-школьнікі. Прываблівалі ў спектаклі ў чымсьці нават авангарднае афармленне сцэны, арыгінальныя касцюмы, дакладна падабраная музыка. Пры ўсім тым, што п'еса ішла на французскай мове без перакладу, ненатуральнасці ў ігры акцёраў не было.



Работу тэатра-студыі «Клас-А!», пастаноўку і сцэнаграфію Таццяны Шылавай належным чынам ацаніла журы фестывалю, у склад якога ўваходзілі саветнік па культуры, навуцы і тэхнічным супрацоўніцтве французскай амбасады на Беларусі Аляксандр Талстой, аташэ па лінгвістыцы амбасады Марцін Ад-Лефеўр, асістэнт Мінскага лінгвістычнага універсітэта Карын Жалівэ, галоўны дэкаратар ТЮГа Ларыса Рулёва і акцёр гэтага тэатра Уладзімір Макараў. Тэатральная трупа мінскай школы N74 атрымала першае месца, а шаснаццацігадовая выканаўца галоўнай ролі Кацярына Агароднікава па дасягненні паўналецця атрымлівае магчымасць паехаць у Францыю. Другім прызам пазначана акцёрская работа першакурсніка Мінскага лінгвістычнага універсітэта Аляксандра Міхайлапа, які ў гэтым годзе будзе стажыравацца ў тэатральным атэлье горада Марыі ле Руа. Уладальніца трэцяй прэміі — таксама студэнтка лінгвістычнага універсітэта Вольга Коміч — паедзе на два тыдні ў Авіньён на знакаміты тэатральны фестываль.

Не засталіся па-за ўвагай і іншыя ўдзельнікі фэсту, што прыехалі ў сталіцу з многіх гарадоў нашай краіны. Пасол амбасады Францыі на Беларусі спадар Клод Жаліф урачыста ўручыў заахвочвальныя прызы прадстаўнікам Гродзенскага універсітэта, сярэдніх школ N 8 і 10 Гродна, N 3 Маладзечна, N 46 Гомеля і N 8 Жлобіна. Былі адзначаны работы аматарскіх тэатраў 20-й, 79-й, 148-й, 179-й мінскіх школ.

Пасля цырымоніі ўзнагароджвання спадар Клод Жаліф пракаменціраваў падзею карэспандэнту «Культуры»:

— Супрацоўніцтва паміж Францыяй і Беларуссю ажыццяўляецца ў розных сферах: палітычнай, эканамічнай, культурнай. Што тычыцца культурных стасункаў, то кантакты праходзяць у тэхнічным і эстэтычным планах. У дадзеным выпадку мы назіраем эстэтычнае ўзаемадзеянне. Я не думаю, што трэба тлумачыць ролю тэатра ў жыцці такога горада, як Мінск. Лічу, фэст, які наладзілі беларускія дзеці і моладзь на французскай мове, — гэта своеасаблівы сімвал узаемадачыненняў культур двух народаў. Тэатр, напэўна, самая даступная і самая рэальная сфера, якая аб'ядноўвае людзей.

Сваімі ўражаннямі падзялілася спадарыня Ані Жаліф, якая разам з мужам наведала фэст.

— Я вельмі люблю тэатр, вельмі люблю дзяцей, тым больш, калі гляджу спектаклі ў выкананні беларускіх дзяцей на французскай мове. Гэта вельмі і вельмі кранальна. Калі моладзь цікавіцца мастацтвам, гэта абавязкова дасць свой плён...



Фестываль у ТЮГу прайшоў у творчай і жывой атмасферы, як і належыць святам, у якіх прымае ўдзел падрастаючае пакаленне. Зараз гэтыя хлопчыкі і дзяўчынкі вучацца. Але вось пра што падумалася. Напэўна, нам варта павучыцца ў французаў адшукваць прыхільнікаў сваёй мовы і культуры, аб'ядноўваць іх вакол мастацтва, падтрымліваць іх энтузіязм і заахвочваць. І не шкадаваць часу і сродкаў. Нам карысна часцей праводзіць сярод школьнікаў і моладзі свае, беларускія, тэатральныя, песенныя, мастацкія і іншыя фэсты, выхоўваючы дастойных носьбітаў айчыннай культуры.



Наталля **КІРПІЧЭНКАВА**.

*На здымках:*

1. Уладальніца першага прыза — шаснаццацігадовая мінчанка Кацярына Агароднікава.
2. Пасол Францыі на Беларусі Клод Жаліф вітае юных аматараў тэатра.
3. Студэнт Мінскага лінгвістычнага універсітэта Аляксандр Міхайлап, чыя акцёрская работа адзначана другой прэміяй.

Фота Генадзя **ЖЫНКОВА**.

# МУЗЕЙНАЯ РЭЛІКВІЯ... НАПРАКАТ?

## Амаль неверагодная гісторыя

**Скажыце, вы чулі дзівосныя гукі скрыпкі славутага італьянскага майстра XVIII стагоддзя Фердынанда Гальяна? Так-так, таго самага майстра з сям'і Гальянаў, заснавальнікаў неапалітанскай школы майстроў смычковых інструментаў, чые імёны вядомы на ўвесь свет — пачынаючы з Аляксандра Гальяна (1660 —1725 гг.), ягоных сыноў Нікола (1695 — 1740 гг.) і Джэнара (1700 — 1770 гг.) і Фердынанда (1724 — 1781 гг.), сына Ніколы і праўнука Аляксандра. Інструменты гэтых патомных майстроў па стылю і асаблівасцях тэхнічнага выканання пачэсна займаюць залатую сярэдзіну паміж тварэннямі А.Страдывары і братамі Амаці ды Андрэа Гварнеры.**

**То можа вам пашчасціла калі не слухаць, дык хаця б бачыць увачавідкі скрыпку не менш знакамітага майстра XVII стагоддзя Якоба Штайнера? Ці звярнулі вы ўвагу на яе характэрныя асаблівасці: скажам, на грыф з чорнага дрэва і струнатрымацель ужо з іншага матэрыялу? Думаецца, і корпус скрыпкі сваёй пукатай адметнасцю надоўга пакіне ўражанне не толькі ў прафесіяналаў.**

**Тады, канечне ж, вы не чулі і не бачылі і скрыпкі італьянскага майстра смычковых інструментаў Джавані Паола Маджыні (1580 — каля 1630 гг.). Гэты інструмент сёння — найвялікшая рэдкасць, амаль унікальная з'ява. Ды і ўзрост інструмента ўсё ж — XVI стагоддзе! А дакладна — 1596 год! Колькі іх, задумаемся, зберaглося, захавалася ад таго часу? Адзінкі ці дзесяткі? А мастацкі іх узровень? Які непаўторны, чароўна-моцны, з нізкім, суровым альтавым адценнем голас у гэтай скрыпкі Маджыні!**

**Каб пабачыць, а мажліва калі-небудзь і пачуць гэтыя інструменты, унікальныя па сваіх гістарычных, мастацкіх, а значыць, і матэрыяльных каштоўнасцях, беларусам, аказваецца, не трэба ехаць на радзіму слынных майстроў — у Рым ці Неапаль, альбо ў вечны горад Парыж з мноствам іх музеяў і канцэртных залаў. Тым больш, што яшчэ невядома, ці ўсюды там гэтыя шэдэўры аўтарскага майстэрства ёсць. А вось у нас яны ёсць — у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Пакуль што, скажам так, маюцца ў наяўнасці...**

ГЭТА пачалося некалькі гадоў таму, неяк будзённа проста, быццам гэта не найвялікшыя, еўрапейскага ці нават сусветнага кшталту каштоўнасці, а звычайныя фабрычныя ці дробныя вырабы безыменных аматараў...

Тое, што ў музеі ёсць музычныя інструменты сусветнавядомых майстроў, ведамасным сакрэтам не было, бо прызначэнне музея якраз у адваротным. Праўда, знаходзіліся яны не ў экспазіцыі і не на выставе музычных інструментаў, якая была адчынена і нейкі час працавала ў нашым музеі. Яны захоўваліся (і цяпер знаходзяцца там) у надзейным спецсховішчы. Аднак, нягледзячы на цяжкасці, адну са скрыпак на адкрыццё выставы музычных інструментаў мы ўсё ж выстаўлялі, але са спецыяльнай аховай і толькі на кароткі час адкрыцця. Не аднойчы звярталіся мы за той ці іншай кансультацыяй альбо парадай і да выкладчыкаў і майстроў Беларускай кансерваторыі, як раней яна яшчэ называлася, чулі ад іх і просьбы і меркаванні: а ці нельга...

Натуральна, паўстае пытанне: а ці можна і ці мэтазгодна падобныя інструменты выдаваць напракат? Урэшце, чаго толькі не бывае. Прыгадаем кінафільм «Скрыпка Гварнеры». Вядомы скрыпач рыхтуецца да конкурснага выступлення. Побач ляжыць скрыпка славутага Гварнеры. І ў гэтыя хвіліны пад выглядам удзячных прыхільнікаў ягонага таленту заходзяць асобы з вялізнымі букетамі кветак, дораць іх расчуленаму музыку, і падмяняюць скрыпку Гварнеры на двайнік, на скрыпку-наваробку... А скрыпач, ужо іграючы, яшчэ доўга не мог зразумець, што ж гэта здарылася з ягоным Гварнеры.

Навошта я прыгадаў гэты «крымінальны» фільм?

Напачатку даслоўна працытую паперу, якая паступіла на імя дырэктара Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі сп. І.Загрышава ад Беларускай акадэміі музыкі за N 136 ад 3 сакавіка гэтага года. Вось яе змест: «У сувязі з удзелам студэнта IV курса Беларускай акадэміі музыкі (называецца прозвішча з ініцыяламі) у Міжнародным конкурсе імя Чайкоўскага рэктарат Беларускай акадэміі музыкі просіць выдаць для рэстаўрацыі скрыпку майстра Маджыні майстру-рэстаўратару (называецца прозвішча, імя і імя па бацьку).

Захаванне і зварот скрыпкі музею гарантуе Акадэмія музыкі.

Просім Вас паскорыць выдачу інструмента ў сувязі з тым, што рэстаўрацыя зойме не менш месяца, а конкурс адбудзецца ў пачатку чэрвеня 1994г.» І ніжэй подпісы — прарэктара па вучэбнай рабоце і таго, хто рыхтаваў гэты ліст.

Пасля такой змястоўнай просьбы музыкаў падчас было б задаць амаль дылетанцкае пытанне: а ці добра яны ўсведамляюць, чым з'яўляецца скрыпка Маджыні як гістарычная і матэрыяльная каштоўнасць? А якімі сродкамі гарантуецца зберажэнне скрыпкі? І ці памятаюць у былой кансерваторыі сваю ранейшую просьбу наконт нашых скрыпак, у прыватнасці скрыпкі Гальяна, якую яны прасілі прыкладна сем гадоў назад? І чаму не прыйшлі тады, за скрыпкаю, як дамаўляліся?..

Мусіць, будзе тут да месца ўзгадаць амаль неверагодную і не зусім і сёння зразумелую гісторыю, якая адбылася вакол скрыпкі Гальяна тады. Спачатку была таксама просьба з прыкладна такім жа зместам. Быў дазвол на выдачу скрыпкі Гальяна. Я быў сведкам, калі прыйшла па скрыпку Гальяна невядомая жанчына з даверанасцю. Даверанасць была сапраўдная, з пячаткамі і подпісамі, усё як мае быць. Гэта было так проста і будзённа, што мы крыху зніякавелі, асабліва калі даведаліся, што атрымоўваць са спецсховішча музея гэтую унікальную скрыпку будзе кладаўшчыца звычайнага гаспадарчага інвентару. Тагачасны галоўны захавальнік фондаў Р.Доўнар-Запольская і старшы навуковы супрацоўнік музея Л.Александрэнка, якая вывучала і даследавала музычныя інструменты (зараз яны на пенсіі), тады палічылі, што акт прыёму-перадачы будзе няроўназначным — з аднаго боку прафесійныя музейныя супрацоўнікі, а з другога — кладаўшчыца, для якой усе скрыпкі аднолькавыя...

Тады жанчына-кладаўшчыца з кансерваторыі пайшла з фондаў музея без скрыпкі Гальяна. Ёй растлумачылі, хто павінен прыйсці па скрыпку, з якімі паперамі і ў якім, так сказаць, асабова-службовым складзе... Мусіць, жанчына забылася перадаць, што мы ёй наказалі, бо па скрыпку Гальяна да нас тады так ніхто і не прыйшоў.

Я нагадаў гэтую гісторыю сямігадовай даўніны не затым, каб усумніцца ў шчырасці просьбы Беларускай акадэміі музыкі. А таму нагадаў, каб яшчэ раз парадавацца за тую службоўку-кладаўшчыцу, якой не давялося несці без аховы вялізную каштоўнасць, бо, хто ведае, што з ёй магло здарыцца па дарозе. І дасюль не верыцца, як росчыркам пяра гарантуецца тое, што амаль немагчыма гарантаваць, не маючы на тое спецыяльных умоў.

Нагадаю, як аб гэтым клапоцяцца і як гэта робяць прафесіяналы. Некалькі гадоў таму ў Фрунзенскім раёне г.Мінска быў знойдзены скарб сярэбраных рэчаў XVII — пачатку XX ст., частку якога сёння можна бачыць у экспазіцыі нашага музея. Па інструкцыі таго часу (мы яшчэ былі БССР) кіраўніцтва райаддзела міліцыі павінна было перадаць скарб па інстанцыях, а адтуль яго перадавалі ў Маскву. Але тагачасны начальнік райаддзела, парушаючы інструкцыю, пазваніў у музей і паведаміў, што скарб унікальны, ёсць і вырабы беларускіх майстроў, прыязджайце, маўляў, у аддзел і забірайце. А там — што будзе, тое і будзе: калі Бог не выдасць, то і начальства не праглыне.

Везлі мы гэты скарб на спецыяльнай міліцэйскай машыне пад аховаю міліцыянераў з аўтаматамі — аж да дзвярэй музейнага спецсховішча. Мушу сказаць, што скрыпка Гальяна, а тым больш Маджыні, не меншая матэрыяльная каштоўнасць, чымсьці скарб сярэбраных рэчаў...

У кожнай дзяржаўнай установе свае дзяржаўныя інтарэсы. Прызначэнне музея — найперш пошукі, набыццё, зберажэнне і захаванне гістарычных і нацыянальных рэліквій і паказ іх у сценах музея. На жаль, рэзалюцыя дырэктара музея на просьбу аб выдачы скрыпкі Маджыні была паспешлівай і катэгарычнай, як быццам размова ідзе аб інструменце ўмельца з Капыльшчыны, зробленым чвэрць стагоддзя назад: «Тэрмінова сабраць ФЗК, аформіць пратакол аб неаб. рэстаўрацыі і аформіць выдачу інструмента на рэстаўрацыю». Такое ўказанне дадзена адразу двум галоўным захавальнікам фондаў музея, бо зараз якраз ідзе прыём-перадача фондаў.

Дык усё ж чаму такая паспешлівасць? Пэўна, каб не спазніўся канкурсант паехаць на Міжнародны конкурс з унікальнай рэліквіяй? А можа і іншае ёсць вытлумачэнне гэтай паспешлівасці? Скажам, хаця б і такое: ці не мае стасункаў аплата рэстаўрацыі скрыпкі Маджыні з кааператывам альбо гаспадарча-разліковым прадпрыемствам, створаным пры музеі?..

Я не магу не прыгадаць для параўнання (калі можна параўноўваць скрыпку Маджыні з нечым), як адносяцца да захавання і зберажэння даверaных дзяржаваю скарбаў кіраўнікі іншых, роднасных нам устаноў культуры. Скажам, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, куды ў канцы мінулага года мы звярнуліся з просьбаю на імя дырэктара дазволіць выдаваць нам па міжбібліятэчным абанеменце патрэбную навуковым супрацоўнікам літаратуру. Адказ нас не пакрыўдзіў, у тым ліку і мяне, бо я хадзіў і асабіста да Галіны Мікалаеўны Алейнік: «Нацыянальная бібліятэка гатова спрыяць навуковай і выдавецкай дзейнасці Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі ў межах устаноўленых правіл. Па-ранейшаму будзем прадастаўляць паслугі па МБА. На жаль, дарэвалюцыйныя і даваенныя выданні за межы бібліятэкі не выдаюцца ні па МБА, ні па персанальным абанеменце».

А скрыпку Маджыні, аказваецца, выдаць па паперы можна. Пахвальнае жаданне паспрыяць студэнту...

**Віктар РАБКОЎ,**
**старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Рэспублікі Беларусь.**

**P.S.** Пакуль рыхтаваўся гэты матэрыял, скрыпка Маджыні ўсё ж пакінула спецсховішча музея і выдадзена прыватнай асобе. Хто цяпер гарантуе яе захаванасць — музей, Беларуская акадэмія музыкі, прыватная асоба? З гэтым і яшчэ шмат з чым разбярэцца дзяржаўная камісія, якая будзе створана. А такая камісія, здаецца, патрэбна, бо, кажучы амаль выслоўем Шэкспіра, «нешта нядобра ў нашым каралеўстве».

Мяркуйце самі. Толькі ў апошнія гады з музея невядома як, а часам нават і калі, бясследна зніклі унікальныя гістарычныя рэліквіі: масонскія знакі, 10 адзінак зброі (эспантон, пратазан, алебарда і інш.), мушкетон часоў вайны 1812 года, частка скарбу талераў, кішэнны гадзіннік і ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга Беларусі 20-х гадоў, разныя, слановай косці, кітайскія шахматныя фігуркі мінулага стагоддзя, перыядычныя выданні пачатку XX стагоддзя (дарэчы, прыватная ўласнасць калекцыянера, які даверыў іх нам на выставу музея), 3 складні-абразы, найрэдкія кнігі — экземпляр першапачатковага часу еўрапейскага кнігадрукавання «Акулярыя і маніпул малодшых братоў», Парыж, 1582 г. і інш. Ці хаця б самая апошняя страта — найрэдкае беларускае выданне Святочнай Мінеі «Трифологион или Цветослов», Куцейн, 1647 г. Гэта выданне унікальнае: на першай старонцы гравюра (усяго 19 адбіткаў гравюр з 17 дошак) і вершаваны тэкст, пачатак дзяржаўны: «Обитель под знаком сим богоявлениа в Белоросских краинах от заложениа...»

Лічыць, што гэта «сваволяць падлеткі», няма падстаў. Нават па той простай прычыне, што такі экспанат, як першынец Мінскага маторнага завода матор-дызель, вагою ледзь не паўтоны, у кішэню не засунеш непрыкметна ад дзяжурных па экспазіцыі. Ці тыя ж масонскія знакі, забраць якія з вітрыны можна было толькі лязгаючы абцугамі ці гаечным ключом, што абавязкова было б заўважана наглядчыцай па зале...

Як вядома, што мае пачатак, тое мае і канец. Як быць са скрыпкаю Маджыні цяпер? Застаецца адзінае: неадкладна стварыць аўтарытэтную прафесійную камісію, якая б актам прыёму-перадачы пацвердзіла і дакументальна зафіксавала, што з рэстаўрацыі вярнулася менавіта наша, сапраўдная скрыпка Маджыні, 1596 г., аўтарская, а не фабрычны інструмент з маркаю Маджыні. Такое элементарнае патрабаванне, думаецца, анікога з сумленных людзей не павінна пакрыўдзіць. Наадварот, гэта дасць упэўненасць і спакой ад усведамлення, што ў спецсховішчы знаходзіцца сапраўднае тварэнне рук і душы славутага італьянскага майстра XVI стагоддзя Джыавані Паола Маджыні.

**В.Р.**

СЁННЯ — МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ МУЗЕЯЎ

# ДОМІК НА ГАРАДНІЦЫ

Гродна — адзін з нешматлікіх гарадоў Беларусі, які здзіўляе колькасцю гістарычных помнікаў, што захаваліся ў выдатным стане. Некаторыя з іх і сёння жывуць паўнавартасным жыццём. Гэта Стары і Новы замкі, дзе размясціўся Гарадзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей. Яны ўзвышаюцца на высокім беразе Нёмана і прыцягваюць наведнікаў не толькі сваім вонкавым выглядам, але і цудоўнымі экспазіцыямі. Калісьці існавала думка ператварыць Гродна ў горад музеяў, але, на жаль, сродкі, якія выдаткоўвае дзяржава на культурныя запатрабаванні, вельмі маленькія. Аднак мясцовае кіраўніцтва з гэтай думкай не развітваецца. Яскравы прыклад таму — адкрыццё чарговага музея — «Дома рамёстваў», які сёння а 16-й гадзіне гасцінна адчыняе дзверы для першых наведнікаў.

Асноўная частка экспанатаў музея, зрэшты, як і сам будынак, належыць да XVIII стагоддзя, найбольш стваральнага перыяду ў гісторыі Гродна.

У 60-х гадах XVIII ст. гарадзенскі стараста Антоні Тызенгаўз вырашыў ператварыць Гродна ў эканамічна-культурны цэнтр Рэчы Паспалітай і дзеля гэтага запрасіў з Нямеччыны, Францыі, Галандыі рамеснікаў і навуковых дзеячаў, якія павінны былі дапамагчы яму ў выкананні задумы. На працягу пятнаццаці гадоў быў узведзены горадабудаўнічы комплекс, які называўся Гарадніца. У яго ўваходзілі палац Тызенгаўза, разнастайныя рамесныя і гаспадарчыя будынкі, Батанічны сад, медыцынская акадэмія, музычная школа і шэраг жылых домікаў. Былі створаны шматлікія мануфактуры: суконная, палатняная, шкляная, карэтная, шаўковых тканін і іншыя. Час ішоў. Многія планы Тызенгаўза не спраўдзіліся, і ён быў зняты з пасады, аднак гэта ўжо не паўплывала на распачатую ім справу.

З'яднанне нацыянальных асаблівасцяў з заходнімі ўнеслі пэўны каларыт у культуру таго часу. Гэта адбілася, напрыклад, на мануфактуры шаўковых тканін, дзе выраблялі пасы, накшталт слуцкіх. Яны былі настолькі адметныя ў сваім выкананні, што можна смела сцвярджаць аб існаванні гарадзенскай школы паясоў.

Аднак здабыткі мінуўшчыны і талент гарадзенцаў — не толькі атрыбут гісторыі. У пацвярджэнне гэтага стваральнікі музея адну з залаў адвялі творам сучаснага рамяства, якое бярэ свае вытокі ад нацыянальных крыніц. Першая экспазіцыя прысвечана саламяным вырабам. У вестыбюлі музея адчынена выстава-продаж, дзе сабраныя вырабы з дрэва, скуры, саломкі, габелены сучасных майстроў. Так што наведнікі змогуць не толькі сустрэцца з гісторыяй, але і сёе-тое прыдбаць на ўспамін аб гасцінным «Доме рамёстваў».

Узгадваючы пра новы музей, нельга не адзначыць інтэр'еры залаў, распрацаваныя Чэславам Роем, металічную коўку Юрыя Мацко на падворку ды ў фае і, канешне, вялікую працу прывабных супрацоўніц музея Вольгі Чарнякевіч і Таццяны Сухоцкай, якія, нягледзячы на шматлікія цяжкасці і перашкоды, усё ж такі здолелі сёння зрабіць святочны падарунак усім тым, хто цікавіцца даўнінай і сучасным рамяством Беларусі.

**Уладзімір ДАВЫДОЎСКІ.**

*На здымку:* «Дом рамёстваў» у Гродне.



# АЎГУСТ II МОЦНЫ (1670-1733)

## КАРОЛЬ ПОЛЬСКІ І ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ Ў 1697 - 1706 І 1709 - 1733 гг., КУРФЮРСТ САКСОНСКІ АД 1694 г.

### КОЛЬКІ РЫСАЎ ДА ПАРТРЭТА

Ад канца XVII і амаль усю першую трэць XVIII стагоддзя каралём польскім і вялікім князем літоўскім, рускім і жамойцкім быў Аўгуст II з саксонскай дынастыі Вэттынаў (з альберцінскай лініі). З яго імем гісторыкі звязваюць трагічныя для нашай краіны падзеі Паўночнай вайны, актыўнае ўмяшанне Расіі ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай, пастаянную барацьбу паміж рознымі групоўкамі, а таксама спробы ўзмацніць каралеўскую (г.зн. сваю) уладу.

Постаць Аўгуста II неадназначная. Ён і палкаводзец, і дыпламат, і мецэнат, любіў музыку і карціны. Гэта ён пабудаваў у 1710 годзе ў саксонскім горадзе Майсене фарфоравую фабрыку, якая з таго часу выпускае прадукцыю знакамітага саксонскага фарфору. Аўгуст цікавіўся алхіміяй і астралогіяй. Па веравызнанні, як і ўсе прадстаўнікі саксонскай дынастыі, лютэранін, ён па сутнасці быў абыякавы да рэлігіі.

Высокі і прыгожы, Аўгуст вызначаўся незвычайнай фізічнай сілай: мог, узяўшы ў руку падкову і сціснуўшы, зламаць яе. За гэта і атрымаў мянушку Моцны. Асабліва вызначаўся Аўгуст мужчынскім тэмпераментам. Ён не прапускаў ніводнай прывабнай кабеты — ні арыстакраткі, ні прыдворнай служанкі, ні акторкі, ні мяшчанкі, а калі здаралася, то і сялянкі. Яму прыпісвалі больш за дзвесце пяцьдзесят няшлюбных дзяцей, хаця ад жонкі ён меў толькі аднаго сына. Сучаснікі жартавалі, што Аўгуст значна павялічыў колькасць насельніцтва ў Дрэздэне і Варшаве.

Узорам караля для Аўгуста II быў «кароль-сонца» Людовік XIV, абсалютны манарх Францыі. І Аўгуст намагаўся зрабіць сваю ўладу ў Рэчы Паспалітай неабмежаванай — насуперак законам і традыцыям.

### У НЯМЕЧЧЫНЕ

Прынц Фрыдрых Аўгуст быў другім сынам саксонскага курфюрста Ёгана Георга III (1647 — 1691) і Ганны (1647 — 1717), дачкі караля Даніі Фрэдырыка III. Курфюрсты (на той час іх было восем) у Нямеччыне — князі-выбаршчыкі, якія выбіралі пажыццёва імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі германскай нацыі (праўда, гэта была фармальнасць: выбіралі заўсёды главу дынастыі Габсбургаў). Фрыдрых Аўгуст не прызначаўся да трону, бо жывы быў яго старэйшы брат Ёган Георг (1668 — 1694), які і стаўся курфюрстам пасля смерці бацькі пад нумарам IV. Ёган Георг IV быў жанаты, але дзяцей не меў.

Фрыдрых Аўгуст нарадзіўся ў Дрэздэне 12 траўня 1670 г. Ён атрымаў павярхоўную прыдворную адукацыю, якую складалі агульныя звесткі з розных навук. Аднак дадатковыя (і неблагія) веды набыў падчас падарожжаў у Еўропу ("падарожжы вучаць"): у нямецкія краіны, Францыю, Іспанію, Партугалію, Італію. У 1689 —1693 гг. браў удзел у вайне дзяржаў Аўгсбургскай лігі (Галандыя, германскі імператар, Саксонія, Баварыя, Швецыя, Іспанія, Англія) супраць Францыі. Войска пад ягоным кіраўніцтвам разгарнулася ў Нідэрландах і на Рэйне. У студзені 1693 года Фрыдрых Аўгуст ажаніўся з Хрысцінай Эбергардынай (1671 — 1727), дачкой маркграфа Брандэнбургска-Байроцкага. Жонка была лютэранкай, узгадаванай у маральна-рэлігійнай чыстай атмасферы маленькага нямецкага двара. Яна не магла прымірыцца з распустай і нораўамі дрэздэнскага двара, а найбольш яе засмучалі амурныя прыгоды мужа. У 1696 г. нарадзіла сына — Фрыдрыха Аўгуста, кронпрынца, і фактычна з мужам больш не жыла, хаця засталася пры двары.

27 красавіка 1694 г. Ёган Георг памёр, і Фрыдрых Аўгуст стаўся курфюрстам Саксоніі. У 1695 — 1696гг. ён камандаваў імператарскай і саксонскай арміямі ў Венгрыі, дзе вёў барацьбу з туркамі. Смерць караля польскага і вялікага князя літоўскага Яна III Сабескага дала магчымасць Фрыдрыху Аўгусту выставіць сваю кандыдатуру на каралеўскі пасад. Пры гэтым ён дамагаўся дзвюх мэтаў. Па-першае, стварыць моцны саюз эканамічна развітай Саксоніі і Рэчы Паспалітай, а праз гэта дапяць імператарскай кароны для саксонскай дынастыі. Гэтай мэты ён не дасягнуў. Да другой жа імкнуўся ўсё жыццё: усталяваць у Рэчы Паспалітай моцную каралеўскую ўладу.

### АБРАННЕ НА КАРАЛЕЎСКІ ТРОН

Перш за ўсё Фрыдрых Аўгуст (адбылося тое 2 чэрвеня 1697г.) перайшоў у каталіцызм, бо пратэстанта на трон у Польшчы ніхто не выбраў бы. Потым яго агенты пачалі агітацыю, падтрымліваючы грашыма прыхільнікаў саксонскага курфюрста. Больш уплывовым кандыдатам на трон быў французскі прэтэндэнт, якога вылучыла групоўка Любамірскіх і іншых магнатаў у Кароне (Польшчы) і Сапегаў у Беларуска-Літоўскім гаспадарстве. Французскі кароль Людовік XIV падтрымаў сваяка — прынца Франсуа-Луі дэ Канці (1664 — 1709) (па мянушцы Вялікі Канці), французскага палкаводца (з малодшай лініі Бурбонаў). Але супраць «французскай партыі» выступалі пэўныя колы шляхты як у Кароне, так і ў Літве, у тым ліку варожа настроеныя да Сапегаў Рыгор Агінскі з беларуска-літоўскім войскам і шырокія колы шляхты на Беларусі, якім не даспадобы было самаўладнае ўмацаванне Сапегаў.



Кандыдатуру Фрыдрыха Аўгуста падтрымалі Расія і Аўстрыя, якія не хацелі мець саюзніка Францыі пад бокам. Вялікую ролю ў выбарах караля адыграла грамата цара Пятра I да сойму, у якой ён папярэджваў, што абранне французскага прынца будзе парушэннем «вечнага міру» 1686г. (дарэчы, так і не ратыфікаванага соймам Рэчы Паспалітай). Больш таго, Пётр I пагражаў вайной, калі не будзе абраны ягоны кандыдат — саксонскі курфюрст.

27 чэрвеня 1697г. на выбарчым полі ў Варшаўскім прадмесці Воля большасць галасоў была пададзена за прынца дэ Канці, якога і абвясцілі каралём. Меншасць (падкупленая або запалоханая) прагаласавала за Фрыдрыха Аўгуста. Меншасць абвясціла яго каралём. Французскі прынц спрабаваў нават высадзіцца з карабля каля Гданьска. Але Фрыдрых Аўгуст апярэдзіў суперніка і ўжо 15 верасня каранаваўся ў Кракаве на Вавелі і цяпер лічыўся законным каралём — Аўгустам II. Як адзначыў Карл Маркс у сваёй працы «Нямеччына і Польшча»: «Узвядзенне гэтай прылады Расіі на польскі каралеўскі трон — падзея, ад якой пачалося панаванне маскавітаў у Польшчы» (г.зн. у Рэчы Паспалітай — А.Г.).



### ПЕРШЫ ПЕРЫЯД ПАНАВАННЯ

Пачатак панавання Аўгуста II у Рэчы Паспалітай прыпадае на заканчэнне вайны саюзнікаў з Турцыяй і карлавіцкі мір, паводле якога Польшча вярнула сабе Падолію з крэпасцю Камянец-Падольскі.

А ў гэты час у Беларуска-Літоўскай дзяржаве разгарнулася грамадзянская вайна большасці шляхты на чале з Рыгорам Агінскім і Вішнявецкімі супраць тыраніі Сапегаў, у якіх былі найважнейшыя дзяржаўныя пасады. Аўгуст II быццам бы для прымірэння варожых бакоў увёў на тэрыторыю Беларусі і Літвы саксонскія войскі, аднак на самой справе імкнуўся да распальвання барацьбы, каб узмацніць сваю ўладу.

У лістападзе 1700 г. пад Алькенікамі (паблізу Вільні) адбылася рашучая бітва паміж атрадамі Сапегаў і шляхты. Войска Сапегаў было разбіта. Прыхільнікі Аўгуста II на чале з Р.Агінскім, а таксама магнацкія сем'і Радзівілаў, Пацаў і Вішнявецкіх выставілі праект аддзялення Вялікага княства Літоўскага ад Польшчы і стварэння тут спадчыннай манархіі для Аўгуста II і яго нашчадкаў. Аднак гэты план не здзейсніўся.

Яшчэ ў жніўні 1698г. Аўгуст II і Пётр I падчас спаткання ў Раве Рускай дамовіліся аб сумеснай вайне супраць Швецыі. Абодва хацелі далучыць Прыбалтыку (Латвію і Эстонію) — кожны да сваёй дзяржавы. Польскі кароль свой план вайны захоўваў у таямніцы ад сойму і шляхты Рэчы Паспалітай. Саксонскія войскі канцэнтраваліся ў Літве, каб напасці на Рыгу. Аўгуст II (як курфюрст саксонскі), Пётр I і Данія пачалі вайну супраць Швецыі. Войска Аўгуста II пачало аблогу Рыгі. Аднак малады шведскі кароль Карл XII хутка разграміў і вывеў з вайны Данію, разбіў ля Рыгі войска Аўгуста II, а ў лістападзе 1700 года пад Нарвай разграміў расійскую армію. Пётр I выратаваўся і ўцёк аж у Ноўгарад.

### ПАЎНОЧНАЯ ВАЙНА

На тэрыторыю Беларусі, Літвы і Польшчы прыйшла вайна. Тут яна цягнулася дзесяць гадоў, аднак страты былі неймаверныя. Шведская і расійская арміі рабавалі насельніцтва, накладвалі на гарады грашовыя кантрыбуцыі. Расійская армія збірала з насельніцтва прадуктовыя «порцыі» для сваіх салдат, вытрасаючы амаль усё з сялянскіх свірнаў. Вайна прынесла голад, разбурэнне гарадоў і эпідэміі. У выніку насельніцтва Беларусі значна скарацілася. У 1700г. колькасць жыхароў складала 2,2 мільёна чалавек, а пасля Паўночнай вайны — 1,5 мільёна.

Шведскае войска Карла XII рушыла ў межы Рэчы Паспалітай. У пачатку 1702г. шведы прайшлі праз Вільню і Горадню, разрабаваўшы гарады і навакольныя мястэчкі. 24 траўня 1702г. Карл XII авалодаў Варшавай, а потым і Кракавам. Праўда, Кракаў потым быў адваяваны. На Беларусі і Літве арганізаваліся дзве групоўкі. Асноўная маса шляхты на чале з гетманам польным М.Вішнявецкім і Р.Агінскім была за саюз з Пятром I супраць шведаў. Сапегі і меншая частка шляхты — за саюз з Карлам XII супраць Аўгуста II. Вясной 1703г. была склікана генеральная канфедэрацыя Вялікага княства Літоўскага, якая абвясціла саюз з Расіяй. У траўні 1704г. у Польшчы ствараецца Сандамірская канфедэрацыя прыхільнікаў Аўгуста II, якая ў жніўні 1704г. заключыла саюз з Расіяй і абвясціла вайну Швецыі.

Аўгуст II, замест таго, каб з'яднаць грамадства Рэчы Паспалітай, пачаў рэпрэсіі супраць апазіцыі. Баючыся за трон, ён загадаў арыштаваць каралевічаў Якуба і Канстанціна Сабескіх. Гэта выклікала хвалю абурэння, бо ў Рэчы Паспалітай без падставаў нельга было арыштаваць і простага шляхціца, не кажучы ўжо пра сям'ю папярэдняга караля. Стварылася Вялікапольская канфедэрацыя, якая пераўтварылася потым ў Варшаўскую. Аўгуст II быў дэтранізаваны, хоць і не прызнаў гэтага. 13 ліпеня 1704г. пад націскам Карла XII і шведскага войска Варшаўская канфедэрацыя выбрала каралём польскім і вялікім князем літоўскім познаньскага ваяводу Станіслава Ляшчынскага (1677 —1766), які і лічыўся каралём ад 1704 да 1709г. Частка тэрыторыі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага прызнала яго. Цяпер у Рэчы Паспалітай было ажно два каралі. І абодва выбраныя!

І хаця цар Пётр I падтрымліваў свайго караля, Карл XII нанёс некалькі моцных удараў па войсках Аўгуста II і расійскіх войсках у Польшчы. Станіслаў Ляшчынскі каранаваўся і цяпер таксама быў законным каралём. Пасля перамог у Польшчы Карл XII вырашыў нанесці ўдар па Саксоніі, якую страціць Аўгусту Моцнаму было немагчыма, бо гэта было княства, падуладнае яго роду сотні гадоў. Пасля спусташэння шведскім войскам Саксоніі Аўгуст II капітуляваў.

24 верасня 1706г. у вёсцы Альтранштэдт (памылкова называюць Альтранштадт) быў заключаны мір паміж Карлам XII і Аўгустам II. Гэты дагавор пакрыў Аўгуста ганьбай. Ён не толькі выракся польскай кароны (і тытулу вялікага князя літоўскага і рускага), але і абавязаўся абмежаваць дзейнасць каталіцкай царквы ў Саксоніі (хоць і быў католікам). Самае ганебнае было тое, што ён выдаў Карлу XII кіраўніка антышведскай апазіцыі ў Ліфляндыі — Ёгана Рэйнгольда фон Паткуля, цяпер расійскага пасланніка і камандзіра расійскага атрада. Карл XII аддаў Паткуля пад суд як здрадніка, і ў 1707г. Паткуль быў пакараны смерцю. Шляхта асудзіла гэты ўчынак як подласць.

Аўгуст Моцны цяпер скіраваў свае памкненні да Заходняй Еўропы. З часткай саксонскай арміі ён далучыўся да аўстрыйскай арміі прынца Яўгена Савойскага, якая аблажыла Ліль падчас вайны за іспанскую спадчыну. Аўгуст збіраўся стаць бельгійскім, неапалітанскім і нават... іерусалімскім каралём. Але акрамя гэтых фантастычных планаў у яго былі і больш рэальныя. Ён пільна сачыў за падзеямі ў Рэчы Паспалітай, падтрымліваў сувязь з польскімі і беларуска-літоўскімі магнатамі, інтрыгаваў супраць Станіслава Ляшчынскага і рыхтаваўся да вяртання ў Рэч Паспалітую.

Палтаўская бітва (8 ліпеня 1709г. па новым стылі, які тады быў у нашай краіне) зноў вярнула яму каралеўскую карону. Сандамірская канфедэрацыя запрасіла яго зноўку заняць трон. Аўгуст II абвясціў Альтранштэдскі мірны трактат неіснуючым, узнавіў саюз з Пятром I і вярнуўся ў Варшаву, аб'явіўшы сваё былое адрачэнне ад трону вымушаным. Тэрыторыя Рэчы Паспалітай была ачышчана ад шведаў і прыхільнікаў Станіслава Ляшчынскага ў выніку дзеянняў расійскіх войскаў, сандамірскіх канфедэратаў, а таксама саксонскіх войскаў.

### ШЛЯХТА... ПЯРЭЧЫЦЬ КАРАЛЮ!

Неўзабаве пасля вяртання Аўгуста II на пасад Пётр I у 1710г. дамогся, каб урэшце сандамірская канфедэрацыя прызнала ўмовы «вечнага міру» 1686г., што давала права маскоўскаму цару ўмешвацца ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай пад прэтэкстам «абароны правоў» яе праваслаўных жыхароў. Саксонскія войскі (30 тысяч чалавек), таксама як расійскія (60 тысяч чалавек), з тэрыторыі Рэчы Паспалітай не выводзіліся.

У гэты час на тэрыторыі Беларусі і Літвы разгарэлася барацьба паміж прыхільнікамі шляхецкай «залатой вольнасці» на чале з гетманам вялікім літоўскім Людвікам Пацеем, які фактычна сканцэнтраваў у сваіх руках уладу ў Беларусі і Літве, і прыхільнікамі караля на чале з гетманам польным літоўскім Станіславам Дэнгофам. Пацея падтрымлівалі Агінскія і іншыя магнаты, Аўгуста Моцнага — Расія і Прусія. Супраць Аўгуста II у Кароне 26 лістапада 1715 года была ўтворана Тарнагродская канфедэрацыя, якая выступіла супраць прысутнасці саксонскіх войскаў у Польшчы і супраць абсалютысцкіх планаў караля.






Васіль КУПРЭВІЧ

# ДОЎГАЖЫХАРСТВА: РЭАЛЬНАСЦЬ І МАРЫ

*Васіль КУПРЭВІЧ (1897 — 1969) — знаны беларускі біёлаг, акадэмік (семнаццаць гадоў узначальваў Беларускую акадэмію навук) нарадзіўся ў Смалявіцкім раёне Мінскай вобласці. Скончыў вясковую школу, служыў матросам на Балтыцы, прымаў удзел у штурме Зімовага палаца...*

*Зрэшты, не адметны «жыццяпіс» звабіў нас звярнуцца да постаці Васіля Купрэвіча, а ягоная «філасофія вечнага жыцця». Васіль Купрэвіч прыйшоў да высновы, што смерць не была ад пачатку закладзенай у прыроду біялогіі, а выявілася ў працэсе эвалюцыі, з чаго атрымліваецца, што яна можа быць пераадоленай. Пра гэта ён не аднойчы даводзіў у сваіх артыкулах, якія друкаваліся ў расейскіх выданнях (адзін з іх, з «Литературной газеты» за 1968 год, мы перадрукоўваем).*

*Дарэчы, апошняе сталася дадатнай падставай для з'яўлення гэтага тэксту на нашых старонках. Неяк незаўважна Васіль Купрэвіч пачынае замацоўвацца ў коле адметных расейскіх мысляроў, за што сведчыць і не так даўно пабачыўшы свет зборнік «Русский космизм», дзе гэтая праца Васіля Купрэвіча надрукаваная ў адным шэрагу з працамі Уладзіміра Салаўёва, Мікалая Фёдарава, Мікалая Бярдзяева, Канстанціна Цыялкоўскага ды іншых.*

*Увогуле, гэта вельмі добра, што суседняя культура кладзе творчасць Васіля Купрэвіча ў парадыгму адной са сваіх асноўных філасафем. Але, пэўна, наспеў час і нам у сваёй інтэлектуальнай прасторы знаходзіць месца тым, хто быў абазнаны і вылучаны гэтай прасторай.*

У XX стагоддзі homo sapiens увайшоў у пару сваёй касмічнай сталасці, і вось некаторыя яго прадстаўнікі пачынаюць наракаць на цеснату часовых межаў жыцця, што «пазначаныя» для яго віду.

У гэтым няма нічога дзіўнага: бо з той пары, калі чалавек стаў вывучаць сябе і акаляючы свет, думка яго несупынна скіраваная на ўдасканаленне гэтага свету і ўласнай прыроды.

Тое, пра што я буду казаць далей, можа падацца фантазіяй, толькі многія сучасныя рэальнасці яшчэ зусім нядаўна таксама здаваліся фантазіяй.

Але на пачатку колькі слоў аб праблеме, шляхі вырашэння якой пракладваюцца ўжо сёння. Аб праблеме доўгажыхарства. Яе абмеркаванне ў «Литературной газете» (1968, N35), верагодна, сапраўды зацікавіла многіх. Дадаць, скажам, сотню гадоў жыцця чалавеку — пакуль яшчэ не шмат хто падзяляе ўпэўненасць у тым, што гэта магчыма.

Дык ці можа чалавек жыць даўжэй? Я сцвярджаю: так, можа. Мусіць! А ці можа ён жыць вечна? Пытанне здаецца бессэнсоўным. Але ці такое ўжо яно бессэнсоўнае?

«Чалавек не востраў, а паўвостраў. Калі тоне мыс, меншай застаецца Еўропа. Смерць кожнага з нас робіць чалавецтва ніжэйшым, пагэтаму, — працягвае паэт, — не пытайцеся, па кім звоняць званы — яны звоняць па вас...»*

Пайшоў з жыцця А.Эйнштэйн, не паспеўшы завяршыць адзіную тэорыю поля. Памёр стары селянін, не паспеўшы разгадаць таямніцу пладароддзя зямлі. Ці можна змірыцца з тым, што іхняя смерць не была «заўчаснай», а гэтыя праблемы хай вырашаюць наступныя пакаленні? Мяне, старога навукоўца, прыгнечвае той абыякавы фаталізм, з якім многія ставяцца да непазбежнасці смерці.

Смерць ненатуральная сутнасці чалавека. Сваю мару пра вечнае жыццё людзі ўцялеснілі ў міфах пра бессмяротных багоў. Верагодна, чалавек інтуітыўна разумее, што стагоддзі, на працягу якіх доўжылася эвалюцыя, губляюцца дарэмна, калі жыць яму ўсяго 50 — 70 год. Царква абяцала яму бессмяротнасць там, на небе. Затым філосафы пераконвалі яго, што жыць — гэта значыць увесь час паміраць і мара пра вельмі доўгае жыццё — метафізіка. На жаль, да гэтага хору прылучалася большасць медыкаў і біёлагаў. Як тут не ўмацавацца фаталізму!

Скуль вынікае, што кожнай істоце наканавана памерці? Звычайна адказваюць: з назіранняў, вопыту. Але вопыт штодзённа пераконвае нас, што Сонца абарочваецца вакол Зямлі... Маркс пакінуў нам вялікі прынцып: усё падвяргаць сумненню. У дачыненні да навукі гэта значыць — час ад часу пераправяраць тыя агульнапрынятыя «відавочныя» ісціны, на якіх яна палягае.

Яшчэ вядомы генетык А.Вейсман** заначыў, што жыццю кожнага чалавека і расліны характэрна пэўная працягласць не з таго, што вечнае існаванне супярэчыць самой прыродзе жыцця. Арганізмы згубілі здольнасць абнаўляць «зломаныя» клеткі не таму, што ў сілу сваёй прыроды не могуць множыцца бясконца. Проста здольнасць гэтая была згубленай у выніку натуральнага адбору, і жыццё гіпатэтычна бессмяротнай асобнасці скарацілася якраз на той тэрмін, у працягу якога яна ўжо не мае карысці для віду.

Калі я яшчэ быў студэнтам, мяне, будучага біёлага, вучылі, што ўсё жывое старэе і як бы мае ў сабе насенне сваёй непазбежнай смерці. Аднак прафесійнае знаёмства са светам жывёлаў і раслінаў вымушае засумнявацца ў гэтым.

На самой справе, у аснове жыццёвых формаў ляжыць пратапласт — кавалачак рэчыва, складанага, якое ўвесь час імкнецца да абнаўлення, здольнага да неабмежаваных зменаў сваіх якасцяў у працэсе абмену матэрыяй і энергіяй са знешнім асяроддзем. Жывое рэчыва адрозніваецца ад усялякіх іншых высокаскладаных матэрыяльных структур здольнасцю да самаабнаўлення альбо самапаўтарэння. Здольнасць пратапласта да засвойвання толькі пэўных элементаў акаляючага асяроддзя ў працэсе самапаўтарэння, г.зн. пабудовы жывога рэчыва пэўнага тыпу ці віду, — бязмежная.

Жывое рэчыва выключна ўстойлівае і доўгатрывалае. Вядомыя выкапнёвыя прадстаўнікі роду тапаляў з мелавога перыяду, якія практычна не адрозніваюцца ад сучасных відаў. Гэта значыць — на працягу 70 — 80 млн. гадоў таполя з пакалення ў пакаленне перадае драбнюткія прыкметы сваіх продкаў. З іншага боку, вядомыя «особи» дрэвападобных раслінаў, узрост якіх дасягае 10-12 тысяч год. Размова ідзе пра тэрмін жыцця, на працягу якога бурыліся горы, мянялі свае рэчышчы ці знікалі рэкі, узнікалі і гінулі цывілізацыі, мяняўся шматразова клімат вялікіх рэгіёнаў, мяняліся абрысы кантынентаў. Між тым «особь» працягвала жыць, распаўсюджвала вакол сябе патомнасць, нарошчвала ўласную масу.

Няма ў свеце матэрыяльнай структуры, якая магла б спаборнічаць сваёй устойлівасцю і нязменнасцю з пратапластам — носьбітам жыцця.

Не выключана таксама, што ў наш час доўгажыхары існуюць і ў свеце жывёлаў. У друку не аднойчы паведамлялася пра рэліктавых жывёлін, якія быццам жывуць у невялікіх азёрах. Я не збіраюся меркаваць аб праўдзівасці гэтых публікацый, але тое, што істота захавалася, магчыма, на працягу тысячагоддзяў (сумніцельна, каб яно там пладзілася), — зусім верагодная рэч. У прыроды на гэта забароны няма.

Смерць — з'ява гістарычная, яна існавала не заўсёды, а ўзнікла на пэўным этапе развіцця жыцця і адразу сталася галоўным рухавіком эвалюцыі: змена пакаленняў зрабіла магчымым з'яўленне (і захаванне ў выніку натуральнага адбору) якраз тых арганізмаў, якія лепей былі прыстасаваныя да акаляючага асяроддзя. Mors creator vitae est — творцай жыцця з'яўляецца смерць, калі б не было яе, нашы звярыныя продкі так ніколі б і не сталі людзьмі. Разам з тым, ствараючы новыя віды, смерць абазначыла ім «натуральныя» тэрміны жыцця.

Чалавек — істота біялагічная і сацыяльная. Ён непасрэдны нашчадак жывёлаў, для якіх тэрмін жыцця — гэта прыкладна столькі часу, колькі трэба, каб пакінуць пасля сябе жыццяздольных нашчадкаў. Звярыныя продкі пакінулі нам у спадчыну толькі некалькі дзесяцігоддзяў жыцця. У выніку працяглай эвалюцыі фізічнай прыроды продкаў сучаснага чалавека ўзнікла мяжа віду — сярэдні тэрмін яго жыцця.

Але з узнікненнем грамадства чалавек вымкнуў з-пад улады натуральнага адбору. Арганізм яго склаўся ў далёкім мінулым і, верагодна, на доўгія часы. А смерць? Яна зрабілася ў дадзеным выпадку гістарычным анахранізмам. Як фактар, які спрыяе паляпшэнню прыроды чалавека, яна болей не патрэбная. З гледзішча грамадства яна шкодная. Зыходзячы з задач, якія стаяць перад чалавецтвам, яна недарэчнасць. Хто ж захоча замацаваць гэтую недарэчнасць на векі вечныя?

Многія, верагодна, лічаць, што гэтая відавочная мяжа (80 — 100 год) непахісная, абсалютная, як кажуць, ад Бога. Мы ж сцвярджаем, што яна ўзнікла гістарычна, а значыць, можа быць адсунутай у прынцыпе на якую заўгодна колькасць гадоў.

Мы шмат чаго не ведаем, нам невядомы нават той гранічны ўзрост, да якога калі-небудзь дажываў чалавек. Адны герантолагі лічаць, што мяжа гэтая — 120 год, другія дэманструюць нам старога, якому за 150. Ці былі людзі, якія жылі даўжэй, напрыклад 200 — 300 год? На гэтае пытанне цяжка адказаць — правераных звестак у нас няма. Але якімі б фантастычнымі ні здаваліся розныя паведамленні пра доўгажыхарства, я схільны думаць, што, паколькі ў аснове фантазій досыць часта запачаткаваная ісціна, верагодна, замест тэарэтычных спрэчак больш карысна было б, калі знойдуцца рэшткі доўгажыхароў, вызначыць сапраўдны тэрмін іх жыцця.

Хаця ў рэшце рэшт справа не ў тым — зможам мы знайсці пацвярджэнне міфаў пра доўгажыхарства. Істотна іншае. Дзеля таго, каб атрымаць «інструмент» падоўжання чалавечага жыцця, трэба спазнаць прычыны старэння арганізма. Дзеля таго, каб вызначыць мяжу магчымасцяў яе

*(Працяг на стар. 6)*



## ДОЎГАЖЫХАРСТВА: РЭАЛЬНАСЦЬ І МАРЫ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)*

працягласці, трэба зразумець першапрычыну смерці. Той, механізм яе, які, паўтараю, узнік у працэсе эвалюцыі.

Непазбежнасць старэння і смерці жывой істоты не можа быць тэарэтычна абгрунтаванай. І тое, і другое (як і само жыццё) — з'явы не колькасныя, а якасныя, якія маюць сваю асаблівую — не часовую меру.

Што тады адмервае час жыцця вышэйшых жывёлаў? Яшчэ І.Паўлаў змяшчаў сабак у нервуючыя ўмовы, тым самым ламаючы іх псіхічныя стэрэатыпы. Такія жывёліны паміралі раней. Верагодна, працэсы старэння і смерці нейкім чынам звязаныя з нейронам — нервовай клеткай. Ствараецца ўражанне, што важнейшая прыкмета старэння выяўляецца ў прагрэсіруючым зніжэнні ступені ўладкаванасці жыццёва істотных працэсаў і падзення іх інтэнсіўнасці. «Афферэнтыўны» сінтэз, г.зн. імгненны сінтэз усіх наступаючых раздражненняў, якія вызначаюць адваротнае дзеянне арганізма, замаруджваецца, запозніваецца. Старэе, зношваецца нервовая сістэма. Мяркую, што ў недалёкай будучыні навука аб псіхічнай дзейнасці чалавека будзе перастворана на новай аснове, тады, верагодна, з'явяцца новыя метады і сродкі псіхатэрапіі, здольныя абараніць ад зносу і абнаўляць нервовую сістэму.

Значыць, насуперак перасцярогам скептыкаў, няўрымслівы ўсё ж выправіцца на пошукі «эліксіра бессмяротнасці». Удакладнім, што пад бессмяротнасцю мы зусім не разумеем вечнае ў часе жыццё (усе бясконцасці ўмоўныя, нават бачны Сусвет мае свой узрост).

Звернемся за «элексірам бессмяротнасці» да той самай прыроды, якая нас нарадзіла. Нам вядомыя практычна вечныя «особи» у свеце раслін: аднаклетачныя, што перыядычна амаладжваюцца. У чалавека праз пэўны перыяд старыя клеткі таксама амаль цалкам замяняюцца новымі. Чаму «амаль»? А таму, што нервовая сістэма чалавека высока дыферэнцаваная і клеткі яе не мяняюцца ад нараджэння да смерці. Адсюль можа старэнне і смерць чалавека — аплата за яго складаную нервовую арганізацыю? Калі б гэта было менавіта так, то мы б жылі не даўжэй за котку.

Вядомая вялікая колькасць тэорый старэння. У прыватнасці, як на адну з галоўных прычынаў старэння паказваецца на пашкоджанне структуры ДНК і РНК, якія рэгулююць утварэнне новых клетак. Генетыкі лічаць, што ў гэтых структурах запісаны план пабудовы будучых бялковых малекул, а некаторыя «шумы» трапляюць у каналы, па якіх перадаецца інфармацыя, і вось узнікае дэфект — сінтэзуецца не зусім тая малекула, і новая клетка, якая прыходзіць на змену, бывае ўжо іншай.

Але прырода выпраўляе такія дэфекты. Пры зліцці дзвюх дэфектных клетак — бацькоўскай і мацярынскай — звычайна з'яўляецца зародак нармальнага арганізма. Некаторыя генетыкі лічаць, што пры гэтым дэфекты ДНК бацькоў могуць перакрывацца адно адным: пашкоджанні звычайна прыпадаюць на розныя месцы храмасом і пагэтаму не выяўляюцца ў нашчадках. Магчыма, што падобнага кшталту шляхі атрымаецца адшукаць, калі зможам выдаліць дэфекты, якія ўзнікаюць у элементах клеткі ў працэсе іх самаабнаўлення.

Герантолагам трэба прыйсці да агульнай высновы, што гэта такое ў рэшце рэшт старэнне — старасць чалавека. Калі гэта хвароба — то яе можна лячыць. Калі яна запраграмаваная ў гене, то гэтую праграму трэба мяняць.

Праблемы старэння і бессмяротнасці ставяцца на «парадак дня». Наўрад ці работу над імі трэба пачынаць са скепсісу і патрабаванняў ужо сёння пазначыць усе шляхі, якія накіроўваюць да «эліксіра жыцця». Наўрад ці варта пачынаць яе з атак на эксперыментальную біялогію.

Я не сумняваюся, што на шляхах вывучэння працэсаў старэння будуць адкрыты новыя факты, прынцыпова новыя з'явы. Толькі наўрад ці гэта зробяць людзі, якія не здольныя пераадолець элементарных ісцін «школьнай навукі».

---

*·Недакладная цытата з верша англійскага паэта Джона Дона (1672 — 1631).*

*·· Вейсман Аўгуст (1834 — 1914) — нямецкі заолаг і эвалюцыяніст, які стварыў тэорыю «неадарвінізму».*

Пятро ВАСЮЧЭНКА

# ФІЛАЛАГЕМЫ



### 1.

Напачатку было Слова. Слова праказанае, напісанае або вымаўленае ёсць ужо літаратураю. Першае Слова ўяўляецца як Першаслова, Першатвор, Першалітаратура. Архетыповая нашая памяць апелюе да Першакнігі, у якой занатаваны лёс чалавека і чалавецтва, сцэнар сусветнае драмы. Нехта ў шэрым з «Жыцця Чалавека» Л.Андрэева счытвае парадыгму чалавечага існавання са старонак Кнігі Лёсаў. Рукапіс, манускрыпт, скрутак, кніга —найстаражытнейшы з архетыпаў. Канец свету таксама счытваецца анёламі з распячатаных скруткаў у «Адкрыцці Іаана Багаслова». У Першаслове было тое, што было, што ёсць і што будзе. Святло ад Першатвору прайшло праз чорны калодзеж міфалогіі, адбілася ў шматлікіх люстэрках літаратурнага часу — міфалагемах. Філалагемы як адбіткі святла ад Першаслова ствараюцца дагэтуль.

### 2.

Мы раней робімся філолагамі, чымся літаратарамі, бо жывем на паверхні шматвяковага літаратурнага досведу. Нават той палахлівец, што баіцца зазіраць у вочы гэтай бездані, усё адно творыць з аглядкаю на яе. Мы маем звычку выпрабоўваць жыццё на літаратурнасць. Раптоўна адкрываем, што наш сусед на пляцоўцы, які-небудзь смяцяр Бэдзя, упершыню нарадзіўся ў літаратуры і вычытаны намі ў ёй. Марная справа шукаць у шыхце класікаў таго першага, хто ўпісаў у яе тып Бэдзі, або воіна-хвалька, або героя-трыкстэра. Сляды непазбежна павядуць у калодзеж міфалогіі (якая таксама літаратура), і там, ужо ў непрагляднай далечыні, спыняецца ля Першаслова. Пагодзімся, што нас цікавіць не пошук «прататыпу», а пошук аўтара, які апярэдзіў нас, але ў тым і рэч, што папярэднік пакутаваў тым самым пошукам. Аднойчы некаму прыйдзе ў галаву простая думка, што ўсё існае ў літаратуры прачытваецца ў Першаслове. Мы прачытваем самі сябе ў ім. Наша неасэнсаваная туга й трывога — туга па Першаслове, часцінка якога, без сумліву, жыве ў нашае архетыповае памяці.

### 3.

Мы асуджаны на літаратурнасць светаўспрымання. Алесь Адамовіч калісь заўважыў, што «жыццё начыталася Дастаеўскага», маючы на ўвазе пост'ядзернае XX стагоддзе. Але з гэткім самым поспехам можна цвердзіць, што «жыццё начыталася Рабле, Шэкспіра, Ібсана, Кафкі» і г.д. Рэч жа ў тым, што жыццё счытваецца з матрыцаў літаратуры.

Мы асуджаныя не толькі думаць, але й жыць філалагемамі: будаваць сябе «паводле Багдановіча», паводле Караткевіча, «паводле Абдзіраловіча», альбо паводле іншых схемаў, якіх безліч у сферы літаратурна-жыццёвага і якія ад пачатку зашыфраваныя былі ў Першатворы.

### 5.

Літаратура, як і скульптура, ёсць адсячэннем усяго лішняга. Як у кожным камяніску схаваная Венера Мілоская, гэтак у кожным кавалку жыццёвага рэчыва схаваная «Магіла льва» альбо «Ладдзя Роспачы». Лабановіч, Ядвіся, Машэка, Надзея Яноўская, Гервасій Выліваха — яны былі. Былі яны, а не іхнія бляклыя цені, якіх называюць жыццёвымі прататыпамі. Яны былі, як у Борхесавай Бібліятэцы змяшчаліся ўсе кнігі, напісаныя й не напісаныя, тыя, што напішуцца, і што ніколі не напішуцца, і прытым у бясконцай колькасці паасобнікаў.



Самасуй і Мацей Бурачок, шляхціц Завальня і Ігнат Абдзіраловіч — яны зашыфраваныя былі ўжо ў самім Першаслове, адкуль рушыла ўсё існае — літаратурна-жыццёвае. Іхняе «нараджэнне» — вяртанне праз мёртвае рэчыва існавання да Першаслова.

### 7.

З кожным стагоддзем, кожнай новай літаратурнай эпохай колькасць філалагемаў павялічваецца, а гэта значыць, што множыцца не толькі колькасць святла, адбітага



ад Першатвора, але й колькасць жыццёвае матэрыі, народжанае ад літаратуры. Павялічваецца сума літаратурна-жыццёвага. Таму ўражваюць прарывы ў сферы нелітаратурныя, якія ўдаліся Фолкнеру, Кізі, Генры Мілеру. Але гэтыя аўтары мелі справу, думаецца мне, з чымсь другасным. У той час як наскрозь філалагічны Джойс намацаў самы нерв быцця — у ягонай неадрыўнасці ад Першаслова.

### 9.

Літаратура эпохі постмадэрнізму апанаваная комплексам «Deja vu», што я пераклумачыў бы наступным чынам: ужо

Мераб МАМАРДАШВІЛІ

# НІГІЛІЗМ І НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПЫТАННЕ*

Нігіліст — гэта чалавек, які згубіў свой твар, страціў здольнасць думаць і магчы. Іншымі словамі, той, хто мяркуе, што існуе нейкі самачынны механізм (ці то механізм шчасця, сацыяльнага ладу, лёсу і г.д.), які так ці інакш, але абавязкова перадвызначае альбо «ўмешваецца» ў яго жыццё. Але ж чалавек, які думае пра сваё месца ў свеце і ўласную годнасць, наадварот, зыходзіць з таго, што заўсёды ёсць магчымасць самарэалізацыі, што яна залежыць толькі ад яго. Ад яго ўласнай працы і духоўных намаганняў, накіраваных на вызваленне і развіццё ягонай асобы. Паколькі, лічыць ён, толькі так ягоная душа здольная прыняць і прарасціць «вышэйшае» насенне, узвысіцца над сабою і абставінамі, у выніку чаго і ўсё, што адбываецца навокал, робіцца неабарачальным. Ці, прасцей кажучы, небезнадзейным.

Калі ж гэтага не адбываецца, ці кожны раз не ўсталёўваецца нанова, дык усё непазбежна запаўняецца нігілізмам.

Я мяркую, тое, што сказана, мае непасрэднае дачыненне да нацыянальнай праблемы.

Перш за ўсё хоць бы таму, што ў нас па-ранейшаму мала людзей, падобных да А.Сахарава, якія займаюць у адрозненне ад радыкальных дэмакратаў, носьбітаў нігілізму, як, зрэшты, і ад настолькі ж заўзятых прыхільнікаў адраджэння манархіі, пазіцыю так званага сярэдняга шляху. Шляху павольнага стварэння. Якія вымушаюць улады нешта рабіць, і якія, калі яна робіць, успрымаюць гэта як элемент менавіта стварэння, не заплюшчваючы ў той самы час вочы на прыроду, характар і інтарэсы ўлады.

Хоць я тут жа хацеў бы заўважыць, што не лічу нацыянальныя рухі ў нашай краіне нацыяналістычнымі. Больш таго, я гатовы сцвярджаць, што ў Савецкім Саюзе няма нацыяналістычных рухаў. Напрыклад, я, як грузін, унутры грузінскага руху магу каго-нікага з яго ўдзельнікаў назваць нацыяналістам, бо ён займае максімалісцкую, шавіністычную крайнюю пазіцыю. Але сам рух не дае, паўтараю, нікому права называць яго нацыяналістычным. Чаму? З тае простае прычыны, што гэта форма, у якой нараджаецца грамадзянская супольнасць, вырашаюцца праблемы грамадзянскіх свабод. Ці, як казалі рымляне, праблема respublic'і — агульнай справы. Гэта ўнутраны элемент грамадскага жыцця.

Гістарычна даўно прызнана, што прыватная ўласнасць неадчужальная і яна ёсць падмурак грамадзянскай супольнасці. Дык вось, я перавярнуў бы гэты аргумент, каб сказаць наступнае: калі ў цябе мільён, гэта твая прыватная справа. А палітычная справа — на ўзроўні respublicae — гэта значыць, на ўзроўні агульнага, агульных намаганняў, але не ў экспрапрыяцыі мільёна. Такім чынам, палітыка, таксама як і ўлада, і ўласнасць, павінна быць падзеленая. Але ж савецкая сістэма ў тым выглядзе, у якім яна склалася, уяўляе сабой крайнюю форму змешвання таго і іншага, паглынанне аднаго адным, і ўсялякая спроба разарваць гэтую сувязь, натуральна, накіраваная на адраджэнне феномена грамадзянскай супольнасці. Любая праява жыцця ёсць прыватнасць таксама жыцця нацыі, якая з'яўляецца прадуктам канстытуцыйнага працэсу ў тым ліку. У гэтым уся справа. Таму ўнутры нацыянальнага руху могуць быць людзі, што стаяць на канстытуцыйных пазіцыях, якія разумеюць, што тое, што называецца нацыяй, ёсць не этнас, а прадукт работы канстытуцыі ў целе этнасу, што этнас —




напісанае. Ланцужок наследаванняў і пераймання ў у адваротным руху вядзе да Першаслова, а лёс літаратараў эпохі постмадэрнізму — згадванне Першаслова ў бясконцых варыянтах і спробах. Аж пакуль прарыў у іншую культурную сітуацыю не пакажа новы шлях вяртання да Першаслова.

## 14.

У беларускай літаратуры ёсць пакаленне творцаў, названае «філалагічным», — я думаю, не паводле пункту ў жыццяпісе, а дзеля больш глыбінных прычынаў. Рэч ва ўспрыманні гэтымі аўтарамі літаратурна-жыццёвых рэаліяў.

Іх называлі яшчэ «дзецьмі вайны». В.Казько, М.Стральцоў, І.Пташнікаў, І.Чыгрынаў, В.Адамчык убачылі вайну йнакшай, чымсьці іхнія папярэднікі, — праз боль і смутак дзіцяці. Крытыка цвердзіла пра тое, што й пасляваенныя рэаліі гэтае пакаленне бачыла ў асаблівым — болевым — ракурсе. Можна лічыць, што гэтая генерацыя абрала адметную філалагему быцця.

Іхнія папярэднікі арыентаваліся на досвед «Іліяды», на той сюжэтны архетып, які Борхес назваў «гісторыяй умацаванага горада, які штурмуюць і абараняюць героі». Дарма, што грэцкія багі замяняліся пантэонам савецкіх военачальнікаў, а Ахіл і Гектар сталіся Сотнікавым і Рыбаком. Ужываліся архаічныя прыёмы гераізацыі, падвышэння, «пастаноўкі на катурн».

«Дзеці вайны» аддалі перавагу філалагемам пакуты й ахвярнасці — «слязінцы дзіцяці» Ф.Дастаеўскага, маўкліваму дакору ў вачах забітых дзетак Медэі, Макдуфа. Думаю, што гэта быў прарыў у сферу ранейшай — больш архаічнай літаратурнай памяці.

Паміж тым і ўчора і сёння застаецца бездань — паміж тым, што распавядалі пра вайну пісьменнікі ўсіх пакаленняў, і тым, што кажуць пра яе старыя людзі. Рэалісты XX стагоддзя не знайшлі такога промня філалагемы — каб асвятліць гэтую бездань. Былі спробы Алеся Адамовіча, які арыентаваўся на досвед «згубленага пакалення» з ягоным беларускім прадстаўніком у асобе М.Гарэцкага. На падставе гэтага досведу Адамовіч стварыў уражлівыя дакументальныя рэчы, аднак сам марыў пра «звышлітаратуру».

Але я думаю, што праўду пра вайну напіша той, хто разгорне мадэль, прапанаваную К.Чорным у ягоным «Млечным шляху». Чорны не бачыў ні франтавога, ні партызанскага жыцця, але ён уявіў сабе, як гэта магло быць у нас, на Белаурсі, у беларускай літаратуры. Ён не меў перад сабою нічога, апроч уласнага літаратурнага досведу. І, магчыма, пагэтаму «Млечны шлях» — ці не тое самае шчырае, што стваралася беларускімі літаратарамі пра вайну.

## 22.

Бярэм беларускага літаратара А.

Год дзесяць таму ён існаваў як бы ў баракамеры, куды падводзіліся харч, пітво, ганарар, дазіраванае паветра, а ўзамен ад літаратара патрабавалася не дужа думаць пра тое, што за сценамі замкнёнае прасторы. Літаратар А. мусіў мроіць штучную, сканструяваную адмыслова для яго рэальнасць баракамеры. Уласны баракамерны дабрабыт атаясамліваўся для яго з дабрабытам развітага сацыялізму. Праз вузкія вокны-ілюмінатары ледзьве мігцела яму святло Першатвору.

Мройная па змесце, элітарная паводле малога накладу, тварылася літаратура, якая не мела свайго чытача, бо пісаная была моваю, на якой кінулі гаварыць.

А за сценамі баракамеры дзеялася нешта, ад чаго камера ляснула. І літаратар А. упершыню адчуў сябе ў свеце ў жорсткіх, але праўдзівых рэальнасцяў — постмадэрну, постперабудовы.

Постмадэрн: усё, што магло напісацца, напісалася, і сёння засталося жывіцца гульнёй у літаратурныя пацеркі: стылізацыя, кантамінацыя сюжэтаў і міфаў,дэструкцыя, бясплённая эўрыстыка. Пакуль промні Першатвору не збяруцца ў фокус. Пакуль не наспее прарыў у новую культурную сітуацыю.

Постперабудова: замест камфартабельнае камеры — быццё, пабудаванае па сцэнару Апакаліпсіса, зямля, выпаленая Чарнобылем, яна ж Бацькаўшчына, твая зямля, якую, аднак, хтось ужо выцягвае з-пад ног. І літаратару А. прапануецца сутнасны выбар. Можна зарыцца ў пясок быцця, утварыўшы вакол сябе баракамеру свайго «я» — сфармаванага паводле вобразу й падабенству Першатворцы, але вольнага.

Можна ўшчаперыцца рукамі і нагамі за зямлю, як дрэва чапляецца карэннямі. Можна праказаць гучна, як некалі першыя прарокі беларушчыны: «Не аддамо».

Але літаратару А. бракуе жыццёвага клёку на тое, каб крычаць «Дзякуй» або «Ратуйце», наогул каб крычаць. Ён працягвае мроіць філалагемамі баракамернага йснавання: звышганарарамі, літфондамі, лецішчамі на Лысай гары...

## 27.

У час, калі зрок мой заслаўся густым, што малако, туманом, да мяне казаў нябачны ў двух метрах сусед па палаце, Пятрашка. Схаваны ў тумане голас Пятрашкі распавядаў пра Купалу. Кнігі, рукапісы сталіся на той час для мяне недасягальнымі, але я чытаў Пятрашкаў расповяд, як быццам бы гартаў старонкі якогасць звышновага выдання, што магло б называцца «Незнаёмы Купала».

Купалу было за пяцьдзесят, а Пятрашка, карэнны менчук, меў не больш за чатырнаццаць, цыбаты й цікаўны падшпарак. Стаўшы за агароджаю, ён разглядаў свайго знакамітага суседа — стомленага Купалу ў вынесеным пад дрэвы крэсле-качалцы, каля ног — Купалаў сабака.

«Быў Купалаў сабака тоўсты, кашлаты, дабрадушны й надзіва дурны, — перачытваю Пятрашкаў расповяд. — Купала штовечар выводзіў сабаку на шпацыр. Аднойчы ён заўважыў мяне за агароджаю й паклікаў: «Хлапец, хочаш рубель зарабіць?». Вядома, я хацеў.

«Памый майго сабаку», — сказаў Купала й падаў павадок, мыла й шчотку. Дабрадушны сабака паслухмяна пацягнуўся за мною да Свіслачы. Я ведаў, як купаць сабак. Падвёў пад самую раку, даў добрага выспятка — і сабака шабалдыхнуў у ваду. Вылез на бераг, атросся, адфыркаўся, я намачыў у вадзе мыла й шчотку, і мы рушылі да Купалы. Купала паглядзеў, што ўсё мокрае, — і сабака, і мыла, і шчотка, застаўся вельмі задаволены й даў рубель. З тае пары я няраз мыў гэткім чынам Купалавага сабаку й атрымліваў зароблены рубель.

Добры быў чалавек», — закончыў расповяд пра Купалу Пятрашка.

Праз гэтую згадку мне прачытваўся ўжо знаёмы Купала — стамлёны, ужо зламаны бальшавікамі, з безуважным затуманеным позіркам, з нязменнаю тонкай цыгарэтаю ў доўгіх нервовых пальцах. Стамлёны й нямоглы геній. А каля ног — калматы, ляны, дурны сабака, адзіная бясконца адданая істота. Няхай хто-небудзь даводзіць мне з фатаграфіяй у руках, што Купалаў сабака выглядаў траха або зусім не так. Я дам веры таму, што ўжо надрукавалася ў маёй свядомасці. Яно — сапраўднае.



усяго толькі натуральная перадумова фармавання нацыі. Нацыі могуць пры гэтым не падзяляць гэтага пункту гледжання і апынуцца на максімалісцкіх пазіцыях. Інакш кажучы, на пазіцыях нігілізму. Гэта ёсць бездань, у якую вельмі лёгка зваліцца, тым больш ва ўмовах захоўвання таталітарнага ладу. Для Каўказа, у прыватнасці, гэта вяло б да яго непазбежнае «ліванізацыі». Гэта — ірацыянальная бездань, дзе ўсе маюць рацыю.

Любая таталітарная дзяржава мананацыянальная. Яна можа ўключаць у сябе розныя этнасы, але яна мананацыянальная паводле вызначэння.

Напрыклад, кідаецца ў вочы такая рэч. У рускіх дэмакратаў вельмі развітая адчувальнасць да парушэнняў правоў чалавека. І ў той меры, у якой «нацыянальнасць» з'яўляецца адным з такіх правоў, уваходзіць у іх лік, парушэнне гэтага права, натуральна, выклікае рэакцыю з іх боку. Аднак нярэдка мы маем сёння дачыненне з сітуацыямі, калі разуменне правоў чалавека патрабуе яшчэ інтуіцыі нацыянальных рэальнасцяў. Я маю на ўвазе культурна-палітычную традыцыю рускага народа і рускай інтэлігенцыі. Прыкладам, прыводзяцца такія аргументы: добра, Літва мае рацыю, з ёй не заключалі ніякай дамовы — у выніку пакта Молатава — Рыбентропа яна была захоплена і згвалтавана. Але ж мы пражылі столькі гадоў разам, з гэтым трэба лічыцца. Маецца на ўвазе: лічыцца не проста прагматычна, у палітычным сэнсе слова, а тое, што мы ўсё-ткі жылі разам, «мы вас любім і разумеем». І гэта прэтэнзія на любое разуменне высвечваецца нярэдка ў самых дэмакратычных натурах, нібыта ёсць права, якое выцякае з любові і разумення! Між тым «гэткае права» ёсць, па сутнасці, праява таго ж нігілізму. Бо нам зразумела, што мы любім, і таму маем права, нібы герой вядомай аповесці «Масква — Пятушкі», абмяркоўваць пытанне: «З якога боку Пірынеяў больш паважаюць рускага чалавека — з таго ці з гэтага?»...

* * *

... Аналітычна сумнеўны прынцып, які я назваў бы прынцыпам «рускай матрункі». Прынцып просты. Існуе сітуацыя, калі можна вырашыць праблему правоў чалавека і правоў нацыі, надаючы маламу, аточанаму вялікім, сімвалы ці прыкметы вялікага. Напрыклад, ператвараючы вобласць у рэспубліку і распаўсюджваючы сімволіку вялікага на малое. Гэта можа быць добрым рашэннем, прыкладам, ва ўмовах Расійскай Федэрацыі, дзе пэўныя нацыянальныя тэрыторыі ёсць прадукт рускай гісторыі і этнічная меншасць аточана рускім насельніцтвам. Гэта цалкам разумная па сваёй дэмакратычнай арыентацыі пазіцыя.

Але гэты прынцып «матрункі», я лічу, не падыходзіць да ўмоваў Грузіі. Каўказ — гэта Сусвет, які жыве на даўно напрацаваным унутраным падмурку. Ніводная з рэспублік тут (за выключэннем асаблівага выпадку з Нахічэванню і Карабахам) не ўключае ў сябе тэрыторыі, якія былі ў выніку заваяваныя вялікім народам. Думаць такім чынам — гэта значыць уваходзіць у канфлікт з усім палітычным досведам сумеснага жыцця каўказскіх народаў і тых войнаў, якія яны вялі ў сваёй гісторыі. А вайна, як вядома, заўсёды рытуалізаваная, яна мае свае правілы. І ўсе гэтыя правілы і напрацаваныя схемы і механізмы палітыкі і сумеснага жыцця, якія склаліся гістарычна, супярэчаць названаму прынцыпу «матрункі», які ва ўмовах Каўказа можа апынуцца ўсяго толькі мінай запаволенага дзеяння. Іншым разам агульная правільнасць, калі да яе не дадаецца інтуітыўнае разуменне ўнутранай рэальнасці, адчуванне яе знутры, здольная нараджаць толькі хімеры. А такіх хімераў савецкая ўлада нарадзіла нямала. Скажам, калі мы звяртаемся сёння да праблемы аўтаноміі Абхазскай рэспублікі, беручы сам тэрмін «аўтаномія» у адрыве ад яе хімерычнага, псеўдаморфнага зместу, то мы непазбежна трапляем у невырашальную супярэчнасць. Невырашальная хаця б з той прычыны, што тут удзельнічаюць, па-першае, пачуцці народа Грузіі, які помніць сваю гісторыю. І ўдзельнічаюць вельмі проста — я цяпер не бяру пад увагу пытанне аб тэрытарыяльных правах і г.д. — я бяру тое, што ў сапраўднасці працуе ў гісторыі, гэта значыць, узровень страсцей. А ўзровень страсцей — гэта ўзровень гістарычных сімвалаў. Дык вось, на гэтым узроўні слова «Абхазія» ёсць сінонім да слова «Грузія». Гэты сінонім, паўтараю, у межах той сімволікі, у якой нацыя памятае сваё паходжанне, памятае ўмовы, калі ўзнікла дзяржаўнасць і калі, у залежнасці ад цэлага шэрагу гістарычных прычын, той, хто называў сябе абхазам, быў адным з удзельнікаў стварэння грузінскай дзяржаўнасці... Таму сказаць грузіну, што Абхазія можа выйсці з Грузіі (я тлумачу структуру страсці, а не рэальнасць), — значыць, сказаць прыкладна тое самае, што Грузія можа выйсці з самой сябе. Ці скажу яшчэ больш рэзка: гэта тое самае, што быку паказваць чырво- ную анучу, а потым здзіўляцца, што бык такі недэмакратычны.

І па-другое. Вядома ж, што аўтаноміі стваралісся савецкай уладай для рашэння яе ўласных праблем. Гэта значыць, што за гэтым стаіць перш за ўсё сацыяльная праблема, якая, дарэчы, у той самай Абхазіі цудоўна ўсведамляецца. Асабліва тымі, хто працягвае падтрымліваць тую ступень грамадзянскага невуцтва, у якой абхазы знаходзяцца адносна саміх сябе. Яно не вышэйшае і не ніжэйшае за ўзровень грамадзянскага і палітычнага невуцтва грузінаў. І таму, калі чалавек думае ў гэтай сітуацыі, што ён абараняе аўтаномію, ён памыляецца. У рэчаіснасці яго тузае за нітачку савецкая ўлада...

**Пераклад Алены СЦЯПАНАВАЙ.**

* *Два фрагменты з работ «Нігілізм і нацыянальнае пытанне» і «Як я разумею філасофію».*




Барыс ПЯТРОВІЧ

# ШЧАСЬЦЕ БЫЦЬ

(Трызьненьні)



**1.**

Думкі мае, што імклівыя кілімы-самалёты, мае нястомныя падарожнікі, што рабіў бы я без вас, як жыў?

Цела маё, прыкутае да ложка, цела маё — мае кайданы, мае ланцугі, маё ярмо, мая галера... Яно не адпускае мяне, не выпускае з гэтага пакоя, яно не паслухмянае мне і прыналежыць ня мне, а хутчэй — ложку. Я ягоны раб. Я жыву толькі дзеля таго, каб карміць яго і дапамагаць справіць патрэбу. Але яно і не згадваецца нават, што ёсьць нешта непадуладнае яму, тое, перад чым расчыняюцца любыя дзьверы, расступаюцца сьцены. Яно й не здагадваецца, што я, штохвілінна застаючыся тут, пры ім, разам з тым яму не належу, бо вандрую далёка-далёка адсюль, і там я здаровы, роўны ўсім.

Вочы, адныя толькі вочы тут належаць мне і паслухмяныя мне. Вось азіраюць яны маё цела — мае кайданы, вось саскокваюць яны з ног на сьцяну, блукаюць між кветак на шпалерах і выглядаюць за вакно. Там толькі кавалак неба, па якім за ўвесь дзень, бывае, не праляціць ніводная птушка, ніводзін матылёк... Да шыбы, часам, прылятае мая даўняя знаёмая — муха, якую я магу ўжо адрозьніць сярод іншых мух, яе сяброўка. Гэта толькі на першы погляд усе мухі здаюцца падобнымі. Калі ж прыглядзецца, яны — розныя. Розныя, як мурыны альбо в'етнамцы, якія напачатку таксама здаюцца аднолькавымі — усе на адзін твар; розныя, як каровы ў вясковым статку для пастуха...

Мая муха асьмельваецца сядаць мне на нос і казытліва поўзаць па ім. Яна адна не баіцца мяне, і я паважаю яе за сьмеласьць. Думаю, усё ж, яна ўспрымае мяне як чалавека, а не бервяно; думаю, бачыць яна, як я міргаю павекамі, як бегаюць мае зрэнкі, але не палохаецца, у адрозьненьне ад іншых. Мне цяжка назіраць за ёю на носе, яна дваіцца і расплываецца на паўсьціны. І яшчэ яна казыча нос. Нясьцерпна. Я зморшчваю яго, аднак гэта не дапамагае. І тады я зжываю муху: я падціскаю верхнюю губу, выцягваю ніжнюю і скіроўваю струмень паветра на яе. Яна трапеча празрыстымі, рознакаляровымі, нібы мазаічныя вакенцы, крыльцамі, напружана чапляецца сваімі шасьцю ножкамі за нос, і я адчуваю яе такую дужую, жывую, з гэткай прагай да жыцьця, што мяне ажно зайздрасьць бярэ... Але, урэшце, я перамагаю яе, здуваю, і яна ляціць да вакна, бомкаецца ў шыбіну, б'ецца аб яе, кружляе па ёй — і тады я думаю, якія мы падобныя: я зацяты, закуты ў сваім нерухомым целе, яна — у гэтым пакоі. І абое мы ня можам вырвацца на волю, за гэтае вакно. А потым я думаю пра ўсіх людзей, якія, па вялікім рахунку, нават і не задумваюцца над тым, што і яны, як я і муха, жывуць, існуюць у замкнутым асяродку, у — «астрозе». Толькі межы гэтага «астрогу» розныя. У мяне — цела, пакой, у іх, калі абстрактна, то — праца, сям'я, абавязкі перад блізкімі, а калі канкрэтна, прасторава, то — вёска, горад, краіна ці, хай сабе, і ўся Зямля... У гэтакім сэнсе я нават вальней за іх усіх разам узятых. Бо думкі мае вольныя, бо не занятыя яны нікім, апроч мяне, нічыім, акрамя майго, бо яны цалкам належаць мне. І яны, мае імклівыя падарожнікі, пераносяць мяне адсюль, з гэтага прапахлага лекамі пакоя, у высокія горы, на далёкія астравы, туды, дзе не ступала нага чалавека, дзе ня быў да мяне ніхто і дзе магу я дазволіць сабе любую раскошу.

Нехта, зірнуўшы на мяне цяпер, падумае, што я ляжу з заплюшчанымі вачыма альбо сплю. Гэтаксама ў трамваі можна падумаць пра чалавека, які едзе з працы дамоў, што ён едзе з працы дамоў. І тое, і гэтае будзе праўдай, простай канстатацыяй, але... Чалавек і сапраўды едзе ў трамваі дамоў, і гэта аб'ектыўная рэальнасьць, якую іначай ня толькі вы, але і ён сам, ніхто наогул, не ўспрымае. А я... Дзе я? Тут, на ложку, маё цела — мае ланцугі. А я цяпер ня тут. І паверце, тое асяроддзе, тое акаленьне, у якім я цяперака знаходжуся — гуляю, адпачываю — я ўспрымаю як ня меньш аб'ектыўную рэальнасьць, чымсьці той пасажыр трамвая, у якім ён едзе дамоў з працы...

А таму я ніколі, нікому не скарджуся на сваё жыцьцё. Я рады, што я жыву, я ўдзячны Богу, што нарадзіўся, я шчасьлівы. Я самы шчасьлівы чалавек на зямлі. Так, чалавек, а не сьвядомае бервяно, як падумалі пра мяне вы. Я на вас ня крыўджуся. Я спадзяюся, вы разумееце, што ў нас розныя крытэрыі шчасьця, і разумееце, што само шчасьце не залежыць ад таго, багаты ці бедны чалавек, хворы ці здаровы і г.д. Шчасьце, скажу вам, трэба ўмець бачыць нават у няшчасьці. Твае недахопы ёсьць твае перамогі. Бо ў іх, недахопах, твая адметнасьць, непадобнасьць да іншых, выбітнасьць... Такіх, як я, больш няма. А значыць, калі я ёсьць — я ня лішні тут, я патрэбны. Я патрэбны хоць бы дзеля таго, каб муха села на мой нос і адпачыла, я трэба дзеля таго, каб хоць у думках бываць у новых сьветах, у якіх да мяне не бываў ніхто. Аднак, калі там пабыў я, то пабудзе, абавязкова пабудзе, і яшчэ нехта. І яму ўжо лягчэй будзе падарожнічаць па пратаптаных мною сьцежках.

Я гляджу на дадзенае мне цела — маю галеру, і ніколькі не шкадую, што яно — маё... Як шкадуе муха. Абсалютна шчасьлівая муха.

**2.**

Бывае цемра, у якой плаваеш, нібы ў вадзе. У такой цемры жывуць, пэўна, сьляпыя. Таму яны гэткімі запаволенымі рухамі мацаюць паветра перад сабою. Яно для іх тугое, як вада.

Я думаю пра гэта седзячы ў суцэльнай цемры. Я сьляпы цяпер, хоць вочы мае і відушчыя. Відучыя, але бачаць адно толькі — цемру. Я ня ведаю, што вакол мяне. Я ўпершыню ў гэтым пакоі, альбо скляпеньні, альбо проста памяшканьні. Я падымаюся і іду па ім павольна, не адрываючы ногі ад падлогі, а пасоўваючы іх па чарзе на некалькі сантыметраў наперад, бо баюся праваліцца ў нейкую пастку, яміну, альбо зачапіцца за нешта. Рукамі я мацаю паветра. Яно абмывае далоні, пальцы, як вада. Яно пругкае і мяккае, яно лёгка рассоўваецца, але яно адчувальнае. Толькі паветра адчувальнае тут, ды яшчэ падлога...

Я ня ведаю, дзе я. Мяне схапілі на вуліцы трое мужчынаў, уцягнулі ў машыну, завязалі вочы, прывезьлі сюды і кінулі. Кінулі ў гэтую цемру. Падаючы, я аб нешта выцяўся і страціў прытомнасьць. Ачуўся сярод цемрыва і напачатку было такое ўражаньне, што вочы не расплюшчыліся, бо калі я адкрыў павекі, нічога не зьмянілася — вакол тое ж цемрыва. Я памацаў вочы —павекі былі паднятыя і вочы забалелі ад дотыкаў сухіх пальцаў.

Такой цемры на зямлі не бывае. І такой цішыні. І такое роўнае падлогі. І такога бясконцага памяшканьня. Здаецца нават, што хаджу я ў гэтай цемры па нейкім коле: падлога, сьцяна, столь, сьцяна, зноў падлога... Трэба сесьці. І чакаць: нехта ж некалі прыгадае пра мяне. Некаму ж я быў патрэбны, калі мяне схапілі і прывезьлі сюды.

Але, Божа, якая п'янкая цемра! Як кружыцца ад яе галава! Губляецца адчуваньне прасторы і часу. Як добра! Як добра мне тут!

Мажліва, упершыню жыцьцё не падманвае мяне: вакол цемра, вакол цішыня — вакол невядомасьць. Ці ня тое ж вакол нас ад нараджэньня. Нам толькі здаецца, што мы нешта бачым, нешта чуем — усьведамляем, асэнсоўваем, а значыць — ведаем. Бо чым больш мы ведаем, тым хутчэй пагаджаемся з Сакратам і Апосталам Паўлам, што мы нічога ня ведаем... І тым большая цемра акаляе нас.

Мы прыходзім зь цемры і адыходзім у цемру. Дык чаму ж мы гэтак баімся яе? Хто ўнушыў нам, убіў у галовы гэтую боязь? І навошта мы спазнаем сьвет, асьветлены сьвятлом? Хіба дзеля таго, каб зразумець, што спазнаць яго мы ня можам.

... Я сяджу на бясконца-роўнай падлозе ў неабсяжна-вялікім памяшканьні, закаханы ў цемру. Мне ня хочацца вяртацца ў сьвет, у сьвятло, дзе засталіся тыя трое. Мне добра тут. Я шчасьліва ўсьміхаюся. Я адчуваю сваю ўсмешку на вуснах. І мне ня трэба бачыць яе, каб ведаць, што яна ёсьць.

**3.**

*Голас.* Ты усё такі ж... Хіба што палысеў...

*Я.* Хто ты? Дзе ты?

*Голас.* Не шукай дарэмна мяне ў пакоі. Ня мацай позіркам сьцяну. Супакойся. Не панікуй. Ты ня можаш убачыць мяне. Ты здольны мяне толькі чуць. І толькі ў сабе.

*Я.* Я звар'яцеў?.. Я, пэўна, звар'яцеў!..

*Голас.* А ты ўсё ж зьмяніўся. Раней без прычыны ты не нерваваўся.

*Я.* Нічога сабе: без прычыны...

*Голас.* Астынь. Прымі мяне без тлу-

---

# СПЕЎ І БОЛЬ

Склалася гэтая нізка ў выніку сустрэч падчас апошняга наведвання краіны паэтаў, якіх лічу вартымі ўвагі нашых чытачоў. А кампанаваў і эпіграфаваў яеаднарадковік слыннага І.Андрыча:

«На што ні зірну — усё песня, і што ні крану — усё боль».

(Ex ponto)

Матыў пачатку стагоддзя актуалізуецца і развіваецца. Вось як.

І.Ч.



Міларад ДЖУРЫЧ

*ПРОДКІ*

*Мыслю як лісіца — хвастом,*
*мыслю як вада — дном,*

*мыслю як вогнішча — полымем,*
*мыслю як зямля — ворывам,*
*мыслю як лёс — жыццём,*
*мыслю як воўк — клыком.*

*Гэтак і продкі мае мыслілі.*

Радамір АНДРЫЧ

*АДГАДКА*

*У доме насупраць штоночы*
*пяць-шэсць чалавек зацята*
*выламваюць дзверы*
*парог*
*сцяну*
*і ўцягваюць пад дах*
*драўлянага каня*
*зладжанага за дзень*
*сваімі рукамі.*

*Відаць яны хочуць даказаць*
*адзін аднаму*
*ці кожны сабе самому*
*што не памыляўся паэт сляпы*
*напісаўшы быццам бы Троя*
*так і павінна была загінуць*
*ад смерцяноснай хітрай выдумкі.*

*Сталыя людзі*
*ў жоўтым святле ліхтара*
*і смешныя, і жалю вартыя.*
*Нічога не парадзіш*
*патрэба ў іх такая*
*рупліва будаванае гадамі*
*разбурыць раптам*
*у доследзе таямнічым*
*толькі каб пераканацца*
*у адной з самых старадаўніх памылак.*



Любіца МІЛЕЦІЧ

*СМЕРЦЬ НА ВОЛІ*

*Пахавайце мяне*
*З лагерным пылам*
*У горле —*
*Нічым яго немагчыма*
*Выдаліць.*

*Не вядзіце мяне*
*Богу на допыт,*
*Я не прызнаюся.*

*І нічога не буду*
*Перад ім казаць,*
*Падпісваць не буду,*
*Нікога выдаваць..*

*Дарэмна прыслухоўваюцца анёлы,*
*Маўчанне ж звычка*
*Неадвольна трымаецца*
*Ува мне.*

Джока СТОІЧЫЧ

* * *

*Нешта з малюнкаў,*
*нешта з камянёў,*
*два-тры запаветы*
*і магілы.*
*Вось што такое*
*гістарычная эпоха.*

* * *

*Вядома даўно,*
*краю мой:*
*крок,*
*крок*
*і — нож.*



мачэньняў, як нешта незалежнае ад цябе, хоць і ў табе.

*Я*. І сапраўды: трэба быць вышэй усялякіх глупстваў. Я чую цябе — значыць ты ёсьць, я не кірую табой — значыць, ты не я, і нават не мой унутраны голас.

*Голас*. Ну й добра. Я пазнаю цябе. Ты і раней імкнуўся вытлумачыць нешта сабе, перш чымсьці супакоіцца.

*Я*. Хто ты? Адкуль ведаеш мяне? Навошта ты з'явіўся? Што табе трэба ад мяне?

*Голас*. Давай дамовімся: пытаць буду я. А трэба мне ўсяго толькі твой адказ на адное пытаньне. Я, так бы мовіць, праводжу анкетаваньне між людзей.

*Я*. Ці не прасьцей было спытаць па тэлефоне. Без гэткіх жахаў з пасяленьнем у мяне.

*Голас*. Па тэлефоне? А што гэта такое? А, тэхніка... Не, мы лічым, што непасрэдны кантакт значна лепш.

*Я*. Тады пытай. Хутчэй. Не надта ёмка мець цябе ў сабе.

*Голас*. Вось пытаньне. Цытую: «Ты лічыш, што ты ёсьць, што існуеш у гэтым сьвеце?»

*Я*. Калі гэта сур'ёзна, а не зьдзек, то ня ведаю, што і сказаць. Ты сваім пытаньнем заганяеш мяне ў кут.

*Голас*. Ня зьдзек. Мне цікавая твая думка на гэты конт.

*Я*. А ты сам, забраўшыся ў мяне і размаўляючы цяпер са мною, — лічыш, што я ёсьць.

*Голас*. Я не магу адказваць за цябе. Мне трэба менавіта твой адказ.

*Я*. Добра. Я скажу тое, што ведаю дакладна: я быў. І буду, калі зараз не зваліцца мне на галаву столь.

*Голас*. Але — ці ёсьць ты? Тут трэба — «так» ці «не». Адназначна.

*Я*. Я ведаю, што быў, і ведаю, што буду. А «ёсьць» — гэта няўлоўны момант паміж «быў» і «буду». І я баюся табе зманіць, бо ў кожнае імгненьне я ўжо «быў», а не «ёсьць».

*Голас*. Як лёгка, аказваецца, разумнага чалавека паставіць у быццам бы безвыходнае становішча: трэба задаць яму нестандартнае і найпростае пытаньне... Ты ўпэўнены, як бачыш, у тым, чаго ўжо няма, альбо яшчэ няма, але сумняваешся ў тым, што ёсьць, навідавоку. Зірні ў люстэрка і скажы: ты ёсьць ці не?

*Я*. Калі я ёсьць, то чаму ты ў мяне пра гэта пытаеш? Ці не таму, што гэта тое, у чым я магу не сумнявацца ні хвіліны, і разам — сумнявацца вечна... Калі мяне няма, то з кім ты размаўляеш?

*Голас*. Я пазнаю цябе. Ты заўсёды імкнуўся ўскладніць нават самае простае і заблытацца ў ім. Так, гэта ты... Вітаю. Я ўжо й не спадзявалася цябе знайсьці...

*Я*. «Не спадзявалася...» Дык ты — жанчына?

*Голас*. А ты і не пазнаў... Хоць, зрэшты, як ты мог... Так, я жанчына. І ведаю цябе даўно — бясконца доўга.

*Я*. Я не зьдзіўлюся нічому. Але дазволь усё ж спытаць: хто ты і адкуль ведаеш мяне? Мне ня церпіцца ўявіць твой воблік, прыгадаць нашыя сустрэчы.

*Голас*. Сьвяты наіў... Ты ня можаш бачыць далей сябе сёньняшняга, а значыць, і памятаць...

*Я*. Ты пачакай. Не назаляй сваёй перавагай нада мною. А падкажы. Мы з табою вучыліся разам? Ці мо падарожнічалі? Працавалі? А мо хадзілі ў адзін дзіцячы садок?

*Голас*. Які ты сьмешны і зацыклены-заземлены. Хоць іншага і быць ня можа... Дык слухай: ты мой муж...

*Я*. Муж... Вар'яцтва... Я ўжо тыдзень ня п'ю... Алена, дзе ты? Хопіць дурыць галаву, вылазь...

*Голас*. Ха-ха-ха! Ну ты і рассьмяшыў... Твая Алена на працы. Другая зьмена... І адкуль вылазь — са зьвілін? А як яна туды залезла? Заплюшчы вочы. Услухайся ў сябе. Забудзь усё, што навакол. Пабудзь са мною. Але скажы: ты лічыш, што жывеш?

*Я*. Жыву. Я — чалавек. Я — ёсьць. Я — муж... О, Божа, хто мне тлуміць розум? Я не хачу... Я вар'яцею... Я хачу жыць, як жыў дагэтуль. Навошта ты знайшла мяне, калі ты ёсьць?

*Голас*. Я бачу: ты жывеш. І бачу, што нядрэнна. І жоначку займеў, і дзетак, і добры дом, і нават славу: мастак, абстракц... (не выказаць), філосаф... Я ім казала: пакіньце яму памяць, каб ведаў, што губляе, што меў, каб разумеў, што гэта — пакараньне, і каб пакутаваў тут... І вось глядзіце: ён жыве, ён тут шчасьлівы... Ён не ў турме, бо што такое воля?.. Але пра што я? Сама з глуздоў з'яджаю... Уяві: ты ўзяў у рукі мураша і стаў тлумачыць яму, наколькі бедныя ягоныя сьвет і сьветаўспрыманьне... Так і я. Прабач, але без памяці тваёй нам не паразумецца...

*Я*. Мне здаецца, я зразумеў усё, акрамя асноўнага: з-за чаго і чаму я павінен пакутаваць тут. Я што, недзе там быў забойцам, здрайцам, жывадзёрам... І што ты лічыш (ці залічыш) пакутаю, чаму пытаешся, ці я ёсьць? Я думаю: любое існаваньне ёсьць шчасьце. Аднак найвялікшае шчасьце для ўсяго, што існуе, ёсць сьмерць. Дык што тады ёсьць пакараньне? Ага, я, мусіць, зразумеў цябе: вечнае жыцьцё — вось тая кара... Інакш ты не пытала б, ці я ёсьць...

*Голас*. Ого, у якія воблакі ты скочыў і захацеў чаго! Ты — мураш, блыха, гнаявік... кал сьмердзяшчы... Ты ня ведаеш нічога, апроч свайго трыццацітрохгадовага існаваньня, адкуль і пачынаецца твая памяць, а ўжо замахваешся на вечнае жыцьцё! Ды яшчэ сьцьвярджаеш, што гэта — найбольшае пакараньне! Наіў. Сьвяты наіў...

*Я*. Ха-ха-ха! Ты раззлавалася. Ды як! І з-за чаго — з-за развагаў нейкае блыхі...

*Голас*. Прабач. Ты іншы, іншы... Ты ня той... І тым быць ты ня можаш.

*Я*. А хоць бы і той. Але пакуль я тут, мне няма пра што шкадаваць. Ты маеш рацыю: я шчасьлівы. І, адчуваю, ты зайздросьціш мне. Інакш навошта табе на мяне злаваць. Ты радуйся, што я тут жыву ў лайне, у брудзе, што маю толькі шэсьць пачуцьцяў, што не магу лятаць, сяліцца ў нечых думках... Пасьмейся з майго шчасьця. Такога дробненькага, мурашовага шчасьця... Ага, шчасьця — вось што табе не падабаецца. Ты хацела пакутаў. Якіх? Што ты называеш гэтым словам? А можа, мне і пекла не пакута, а мурашом быць, дрэвам ці травою — шчасьце. Любое «быць» мне не пакута, ну а «ня быць» — тым болей...



*Голас*. Ты памыляешся. Ты проста не задумваўся ніколі, што ёсьць і што магло б быць, што маеш і што мог бы мець. Сумліў можа парушыць твой спакой і нарадзіць пакуты. Зь нічога... Бывай, я сваю справу зрабіла: я закінула зернейка сумліву ў тваю душу. Ты ўжо ня зможаш жыць, як жыў... Бывай.

*Я*. Чакай! Скажы хоць: за што ты мне помсьціш?

*Голас*. За каханьне. Я цябе кахала...

*Я*. «Кахала...» Чакай! Не пакідай мяне аднога. Што я зрабіў? За што мае пакуты? Чакай!.. Дзе ты?.. Няма. Няма яе... І хай сабе. Я буду жыць, як жыў. Хай ведае там у сябе: я ёсьць. Я існую. Жыву. У сваім маленькім шчасьці. І мне добра тут. Мне добра... Добра? Хто сказаў, што добра? І што такое шчасьце?

*Неабходнае ўдакладненьне:* у гэтакіх тэкстах немагчыма абысьціся без сьвядомага альбо падсьвядомага цытаваньня Вялікіх. Не бяру цытаты ў двухкосьсе, каб не абцяжарваць тэкст.

*Аўтар.*

---

*Вядома даўно,*
*краю мой:*
*ззяй,*
*ззяй*
*ды — змрок.*

**Адам ПУСЛАІЧ**

*ПЯКЕЛЬНЫЯ ПАКЕТЫ*

*Сербу*

*Нехта нам іх высылае дзень пры дні,*
*а мы іх распакоўваем уночы,*
*калі няма нікога ў нас саміх.*
*Бог сказаў ужо: Хопіць!*
*Тым не меней шлюць нам і шлюць*
*Яны свае парожнія абгорткі,*
*у якіх вырасце толькі пустазёл,*
*чорны певень, буйвал ды сокал.*

*Слухайма, браце, іхнюю песню*
*на нашы словы, наш тэкст.*

**27 лютага 1990.**

**Іван РАСЦЕГОРАЦ**

*КАЛІ ВЕРЫШ ЗЯМЛІ*

*Хоць я верыў болей зямлі,*
*падымаў галаву да гмахаў даху.*
Браніслаў Велькавіч

*Калі верыш болей зямлі,*
*пацвердзі гэтую песню*
*ступакамі сваімі на прыску.*
*У попел пад жар закапай рукамі.*
*Прайграй сваю песню*
*на чэрапе ўласным.*

*Калі верыш болей зямлі,*
*азвіся вулканам*
*у момант належны.*

*Калі верыш болей зямлі,*
*падымі труны сваёй*
*узгалоўе.*

**Момір ЛАЗІЧ**

* * *

*Анічога ад пагоні*
*за караблём,*
*руль якога патанае*
*ў прадонні.*
*Ісціна недасяжная*
*тым зацятым,*
*да курчу ў мускулах,*
*падманутым маракам,*
*што сняць карабель,*
*руль якога патанае*
*ў прадонні.* **25.11.1993.**

**Іван РАЯВІЧ**

*РЭВАЛЮЦЫЯ*

*Ветракі ў мяне ў мезінцы*
*тры дні запар*
*малако п'ю*
*дон кіхота ў зубах нашу*
*чакаю ветру*
*чакаю зімовага ледзянога дажджу*
*каб кінуцца*
*з голымі рукамі*
*з голай барадой*
*на высока ўзнятыя транспаранты*
*з якіх зеўрае*
*бяскроўная пашча*
*ўчарашняга заўтра.*

**Андрэй ЕЛІЧ МАРЫОКАЎ**

*РАСТКА*

*РЦЫ — Пускаюць голуба з вежы*
*АЗ — Выпускаюць за ім сокалаў*
*СЛОВО — У блакіт голуб імкнецца*
*ТВЕРДО — Сокал дагнаць яго не можа*
*КАКО — Агеньчык у змроку дрыжыць*
*ОН — Над Расам прамень лунае*

*У чорную апранаецца рызу*
*Нэманін наймалодшы сын.*

**Мілаван АЛЕКСІЧ**

*ПАРА СПОВЕДЗІ*

*Прысак на далонях*
*дзеля вітання*
*раскрытых*

*пара споведзяў*

*пара красамоўцаў*
*і даносчыкаў*

*пара*
*імкненняў складзеных*
*павешанымі*
*і ахвярнымі жыццямі*

*пара*
*нячысцікаў*
*нагоды абруджвання*
*пара*
*сцірання*
*бясколерных слаёў.*

**Пераклаў з сербскай Іван ЧАРОТА.**



Дзмітрый КАРОЛЬ, Нэлі БЕКУС

# ВОПЫТ РЭ-ПРЭЗЕНТАЦЫІ ТЭКСТУ «ТРАДЫЦЫЯ Й МЕТА-МОВА»

**Эсэ**



*У першых трох выпусках «ЗНО» друкаваўся артыкул Ігара Бабкова (першая частка — «Беларуская традыцыя на зломе сэнсаў», затым — «Традыцыя й мета-мова»). Гэтым разам —"рэ-прэзентацыя" таго тэксту, крытычная рэканструкцыя некаторых яго фрагментаў.*

*«Ён казаў, што космас ніштожыцца, а як — не патлумачыў».*
*Крыніцы пра Парменіда.*

Задача гэтага эсэ — не падвергнуць змястоўнай крытыцы тое, што гэтая крытыка будзе міжволі выбіраць сабе ў якасці аб'екта, а рэканструяваць некаторыя фрагменты таго агульнага і для крытыкі і для крытыкуемага кантэксту, з чым тэкст звязаны стылёва, семантычна, генетычна і да т.п., і дзе развагі аўтара набіраюць сілу, набываючы форму тэзісаў і канстатацый.

Пытанне ўздымае той, хто толькі і можа яго ўзняць. Гэта прымушае таго, хто пытае, рухацца па такой адмысловай траекторыі, якая пагражае яму тым, што магчымасць адказу прама ставіцца ў залежнасць ад таго прочырка, які ўвесь час узнікае на месцы пытаючага: «Той, хто пазначае самога сябе, робіцца прадуктам пазасвядомай замены рэальнасці (абумоўленай гістарычна ды індывідуальна), г.зн. майго **Я**, якое можа быць спасцігнута толькі метафарычна і алегарычна» (М.Мейер. «Рыторыка і інтэлектуальны крызіс нашай эпохі»). Ф.Кафка фармулюе таўталагічны рытм самазапытання больш афарыстычна: «Паміж тым, хто пытаецца, і тым, хто адказвае, няма адлегласці», — і тады паміж імі паўстае тое, што ўмоўна можна пазначыць, як «чыстае адрозненне», якое мае выключна часовую форму. Гэта быццам расколіна ў той няспыннасці запытання і ўзаемаабарочвання прасторы і часу, на аснове чаго ўзнікае ўстойлівы вобраз «Я».

Але што робіцца ўласным месцам тэксту «Традыцыя й мета-мова»? Месцам, дзе ён узнікае, захоўваючы ў сабе канфігурацыю «расколіны»? Верагодна, гэта тое месца, на якім рэфлексіўна выяўляецца страта натуральнасці рэпрэзентацыі. «Страта натуральнасці» распаўсюджваецца па ўсіх экзістэнцыйных накірунках, момант яе асэнсавання «перпендыкулярны» кожнаму з гэтых накірункаў, і скіроўвае на гэтыя перпендыкуляры таго, хто адхіляецца і не супадае са стратай, хто такім чынам трапляе пад уладу «не-натуральнага», знаходзячы існаванне настолькі, наколькі ён робіцца не-прадстаўленым. Уласнае месца тэксту можна абазначыць па сацыяльным, культурным, ідэалектным асаблівасцям, але ў кожным выпадку гэта прывілегіраванае месца, бо ў ім знаходзіцца той, хто стварае адрозненне паміж рэальнасцю і ўяўленнем пра яе спосабам сваіх суадносін з гэтай рэальнасцю. Ён не супадае з рэальнасцю пад прымусам прадстаўлення і, калі апынаецца ссунутым са свайго «натуральнага месца», то мусіць мець справу найперш з уласнай дэрэалізацыяй.

З яшчэ большай дакладнасцю гэтае месца можна было б абазваць як «палітычна прывілегіраванае». Але менавіта гэтае значэнне штораз прамінаецца ў тэксце «Традыцыя й мета-мова», ствараючы ў сукупнасці істотную для тэксту сістэму пропускаў. Гэтая сістэма істотная не самога па сабе, а таму, што з дапамогай яе логікі ў тэксце ўзнікае «натуральны суб'ект», асацыятыўнымі псеўданімамі якога выступаюць «Душа», «Эгос», «Сьвет». Чаму гэта атрымліваецца? Толькі таму, што страту натуральнасці разглядаюць пад такім ракурсам бачання, які стварае магчымасць «прамінуць» гэтую страту да той мяжы, за якой пачынаюць працаваць мета-моўныя заканамернасці, сутнасць якіх у тэксце яшчэ трэба будзе высветліць.

Пошук мета-мовы як прынцыпу зборкі традыцыі — можа быць рэалізаваны адно пры абсалютнай уцялесненасці тэксту ў традыцыю, што ў сваю чаргу патрабуе мець у наяўнасці спосабы выяўлення яе межаў. Дыялектыка «знешняга — унутранага» адносна традыцыі набывае рэальную значнасць пры звароце да механізмаў самаідэнтыфікацыі, рэфлексіі.

Мета-мова зусім не садзейнічае пэўнасці, структурнай асэнсаванасці таго, «правадніком» да чаго яна з'яўляецца.

Гэта хутчэй механізм, які дазваляе працаваць з традыцыяй як з цэласнай, пазбаўленай разрываў прасторай, незалежна ад таго, ці з'яўляецца рэальная прастора такой насампраўдзе. Дасягаецца гэта праз пасрэдства знешніх, не здольных змяніць саму сэнсавую рэалізаванасць традыцыі метадаў. Тут працуе тая знешняя скрань мета-мовы, якая здольная змяніць фокус «бачання», скіраванага на традыцыю ўбок нерацыянальнага, робячы ўсе рацыянальныя спосабы традыцыі лішкавымі. Дзякуючы гэтаму вобразу мета-мовы адносіны чытача і традыцыі ў тэксце пераносяцца ў нейкае ідэальнае месца, дзе асацыяцыі (гл. вышэй — «Душа». «Эгос»...) — ператвараюцца ў метафізічныя імёны саміх суб'ектаў традыцыі (таксама як бы патэнцыяльных чытачоў тэксту), а гэтыя імёны ў сваю чаргу ўваходзяць у працэс самаідэнтыфікацыі традыцыі.

Гэтае ідэальнае месца пачынае працаваць у тэксце як месца неабходнае, значыць, натуральнае для традыцыі. Але атрымана яно ў выніку адчужэння, адсоўвання ад рэальных унутрана (г.зн. сутнасна) асэнсаваных яе межаў і набліжэння да знешніх, уласна мета-моўных ліній вызначэння. Узніклы прамежак паміж двума генетычна адрознымі граніцамі адной з'явы (традыцыі) з'яўляецца,, па сутнасці, ідэальным месцам развіцця «другой натуральнасці». Створаная з акта рэфлексіі і працэсу адчужэння гэтая натуральнасць успрымаецца як «традыцыя сама па сабе», да таго ж працэс адчужэння робіцца як бы ўнутранай падзеяй традыцыі і пагэтаму прынцыпова мяняе ягоны статус і функцыі ў розных знешніх, у тым ліку моўных, сітуацыях. Сапраўды, калі што і характэрна для «другой натуральнасці», дык гэта пазітыўнае пераадоленне кожнай мовы за кошт таго, што з яе вымкнуты сэнс адчужэння, пасля чаго «натуральны суб'ект» набывае немагчымыя раней здольнасці супадаць з мовай, і адасабляцца ад яе, быць максімальна мабільным у культурнай прасторы, бо ён рухаецца тымі ландшафтнымі сіламі, на якія абапіраецца і з якіх ствараецца сама мова і сама суб'ектыўнасць. (Калі кіравацца змястоўнай логікай тэксту, то супадзенне з мовай і аддзяленне ад яе з'яўляюцца метамоўнымі аперацыямі.)

Для вялікай колькасці спробаў рацыянальнага аналізу «натуральнасці» звыклая тая неабходнасць падвоенасці, якую ўсе гэтыя спробы так ці інакш задавальняюць. Істотна зразумець, да якога мысліцельнага кантэксту узыходзіць гэтая спроба: у «падвоенасці» як метадалагічным прыёме закладзена памкненне вярнуць суб'екта ў яго змешаны рух, надаць змяшанасці абарочваемасць, не пускаць таго, хто мысліць за межы яго здольнасці мысліць (што характэрна, прыкладам, для гегелеўскай дыялектыкі). Трымаючыся такой «палітыкі», таго, хто мысліць, змяшчаюць ў такую прывілегіраваную прастору, межы якой пазначаюць «першая» і «другая» прырода. Асновай гэтай «палітыкі» канцэнтрацыі суб'екта ў рэфлектыўным полі з'яўляецца, на наш погляд, невыводная з мыслення тэза, згодна якой «не-натуральнасць» аб'яўляецца негатыўным станам, які падрывае звязаныя па логіцы апрыёрнасці больш фундаментальныя ўяўленні пра чалавека. «Не-натуральнасць» у рэшце рэштаў заўсёды блізкая той магчымасці, у якой зробіцца незваротным працэс разбурэння самога механізма рэпрэзентацыі.

Як можна правесці «палітычную» крытыку гэтага тэксту, каб тэматызаваць згаданыя вышэй развагі? Больш зручна распачаць гэтую крытыку з цытаты Мішэля Фуко (гутарка М.Фуко з Ж.Дэлёзам «Інтэлектуалы і ўлада»): «Інтэлектуал кажа ісціну тым, хто яе яшчэ не чуў, і ад імя тых, хто не мог яе выказаць; ён з'яўляецца Свядомасцю і Красамоўствам». Як уяўляецца, не ў малой ступені менавіта на такую фігуру мусіць абапірацца аўтар тэксту «Традыцыя й мета-мова», і гэта неабходна яму, бо адно інтэлектуал валодае здольнасцю не толькі ўлоўліваць сэнс, але і знаходзіць такія сродкі для яго перадачы, якія дадуць магчымасць арганізаваць культурную камунікацыю. Гэта фігура інтэлектуала прадуманая ў тым, што толькі яна паядноўвае ў сабе Ісціну і Уладу; паўторам гэтага сумяшчэння становіцца перамыканне тэорыі і практыкі. (Заўвага А.Глюксмана з гэтай нагоды яшчэ больш гранічная: «Чалавек, які шукае веды, знаходзіць у чалавеку ля ўлады сваё «альтэр эго».) Няцяжка выснаваць, што ў аснове тэарэтычных пабудоў аўтар тэксту «Традыцыя й мета-мова» закладзена згода з тым, што ўлада — гэта адзіная форма сацыяльнага жыцця, якая працуе, і гэтая пазіцыя дазваляе нам высветліць адносіны аўтара з французскімі мысьлярамі-радыкаламі (на якіх ён часткова абапіраецца).

Для еўрапейскага культургенеза, зварот да якога складае значную частку аргументацый гэтага тэксту, сутнасным уяўляецца такі спосаб функцыянавання культуры, у якім суаднесенасць «тэорыі» і «практыкі» здзяйсняецца непарыўна; заходнееўрапейскі інтэлектуал працуе ва ўмовах настолькі



інтэнсіўнага «ўзаемаабмену» паміж імі, што гэта стварае зусім асобнае поле ідэнтыфікацыі інтэлектуала. Грамадствы і нацыі, якія знаходзяцца ў інстытуцыянальнай сферы расейскай культуры, да гэтага часу не бачаць сэнсавых гарызонтаў таго, што з імі адбываецца. Калі не ацэньваць гэта як паталогію рацыянальнага, а прааналізаваць як дадзенасць, то трэба зрабіць выснову: рэпрэзентацыя гэтых грамадстваў адбываецца без дапамогі і па-за тэарэтычнай, дыскурсіўнай прасторай, абслугоўваннем якой і займаецца інтэлектуал у еўрапейскай традыцыі. Спецыфічная сітуацыя «тэарэтычнай аголенасці» спараджаецца і самапаўторваецца да гэтай пары на аснове больш фундаментальнага прынцыпу функцыянавання нашага грамадства. Каб канспектыўна патлумачыць гэта, звернемся зноў да Фуко: «Пасля апошніх падзей інтэлектуалы заўважылі, што масы не маюць у іх патрэбы дзеля таго, каб ведаць. Яны самі цудоўна ведаюць, ды лепей за інтэлектуалаў, і выдатна ўмеюць гэта выказаць. Але дзеля таго і існуе сістэма ўлады, каб стаяць на шляху гэтага слова і гэтай веды, забараняць іх, рабіць нядзейснымі». Адрозненне нашай сітуацыі несумненна ў тым, што ў нас ад пачатку і заўсёды фундаментальнае веданне прыпісвалася народу, і гэтае веданне з'яўляецца абсалютным гарантам для кожнага іншага тыпу ведання і маўлення. Хаця ўлада па-ранейшаму стаіць на шляху «народнага слова», але адно дзеля таго, каб дакладней запісаць і выказаць «голас народа»; улада ў нас і здзяйсняецца як адзінае і цэлае адлюстраванне самога народа, яна кастытуіруе сябе ў якасці люстэрка, якое цудадзейсным вобразам ператварае маўклівае жаданне народа ў паслядоўнасць моўнай, сімвалічнай практыкі, адзінай і тоеснай, тым самым пазбягаючы неабходнасці «расшчэплiваць» голас народа ў прыватных і няцэласных моўных практыках. З чаго ў валоданне народу даецца цэласны, тоесны вобраз яго самога, у якім нельга не заўважыць вiдавочных элементаў нарцысізму. Мы ўсё яшчэ маем справу з такой формай улады, якая, рэдуцыруючы сістэму прадстаўніцтваў, і значыць свае асновы, якія рацыяналізуюцца, абапіраецца на нейкую інтымную сувязь з народам, спадзеючыся непасрэдна ўлоўліваць, схопліваць энергію масаў, адсюль сама ўлада робіцца няўлоўнай; ніхто не можа ўдзельнічаць у «стасунках» улады і народа, усе моўныя практыкі і тыпы культурнай дзейнасці, што перасякаюць лінію гэтых «стасункаў», старанна элімінуюцца са сферы «народнай улады», акрамя тых, якія кананізуюцца. Такім чынам, інтэлектуал у гэтым рэгулятыўным полі адносінаў Ісціны і Улады ўвесь час выпрабоўвае на сабе тую сілу, якая «выціскае» яго на культурную перыферыю, надаючы ягонаму веданню і ягонаму ідэялекту статус выпадковага, палітычна незабяспечанага.

Калі ўвогуле пагадзіцца з логікай, якая прапануецца ў гэтым кароткім экскурсе, то больш яснай становіцца логіка аўтара тэксту «Традыцыя й мета-мова», яго імкненне выпрацаваць такую тэорыю традыцыі, якая інтэгравала б у сабе два розных тыпы ўлады як два вопыты сацыяльнага і культурнага жыцця. У самім пафасе адкрыта ўтрымліваюцца прыкметы таго, што застаецца лішнім у адносінах да тэксту, але нязменна вызначае тую ўпэўненасць, з якой у тэксце выкладаюцца досыць рызыкоўныя пастулаты: маецца на ўвазе тая мета-тэарэтычная аўра тэксту, якую можна пазначыць як яшчэ непраясненую інтэгральную тыпалогію ўлады, і якая з роўнай верагоднасцю можа стацца як «новай эпістэмалогіяй» (чаканне апошняга мы ўсе ў роўнай меры падзяляем), так і мадэрнізаваным архаічным міфам (што, зрэшты, не адмаўляе магчымасці іх перамыкання, якое створыць той кентаўрападобны аб'ект, з якім мы звыкліся).

Непраясненасць інтэгральнай тыпалогіі



ўлады дадаткуецца і непраясненасцю дыскурсіўнай тыпалогіі метаду (ці метадаў) у рэ-прэзентуемым тэксце. У чаканні новай тэорыі тэкст стварае напругу — гэта напруга паміж двума скранямі інтэрпрэтацыі таго, што чакаецца — «новай эпістэмалогіяй» і «мадэрнізаваным архаічным міфам». Сваім узнікненнем гэтая дылема абавязаная моўнай сітуацыі, якая складваецца ў тэксце па меры аддаленасці, адмаўлення ад уласна дыскурсіўнай рэфлексіі.

Уласная метадалогія тэксту напраcткі звязаная з яго натуральным месцам, пунктам гледжання, на якім знаходзіцца рухаючы яго аналітычны механізм. Менавіта метадалогія, калі яе абазнаць, дазваляе рабіць жэсты па абсячэнню (замалёўванню) непрынцыповых, «недасяжных» і г.д. ліній сэнсавай інтэрпрэтацыі аб'екта, у нашым выпадку — традыцыі. Размова ідзе пра свайго роду метадалагічны рэлятывізм, які натуральна трапляе ў шэраг няпісаных правілаў аналітыкі. Калі той ці іншы аналіз

карыстаецца адной пэўнай стратэгіяй, то рэлятывізм бывае значным хіба што ў выглядзе ідэалагічнай зададзенасці аналітыка. У тым выпадку, калі размова ідзе пра сінтэз розных метадалагічных стратэгій (як семантыкі і герменеўтыкі ў тэксце «Традыцыя й мета-мова») — пытанне пра ўлік метадалагічнай адноснасці робіцца прынцыповым.

Цікава, што тэкст «Традыцыя й мета-мова» актыўна працуе з повядам тэмпаральнай адноснасці, слушна адзначаючы, што «культурны рэлятывізм як пэўны прынцып і пэўная стратэгія чытання зусім не адмаўляе універсальнасці, але толькі пераменьвае, пераносіць яго месцазнаходжанне». (Хаця не выключаная і такая логіка ўспрыняцця культурнага рэлятывізму, пры якой ён бывае не адной са стратэгій чытання, але следствам і вынікам сустрэчы і ўзаемадзеяння многіх (некалькіх) падзей інтэрпрэтацыі-чытання.) Не адмяняе універсальнасці і метадалагічная адноснасць у інтэрпрэтацыі традыцыі. Пераўтварэнні, што адбываюцца ў выніку паслядоўнага развою аналітыкі па адной зададзенай стратэгіі, з'яўляючыся ў прынцыпе зваротнымі, атрымліваюць статус аб'ектыўных у рамках гэтага аналізу. Аднак як толькі стратэгіі выходзяць у сферу злучэння і сінтэзу розных зададзенасцяў, пачынаюць працаваць іншыя заканамернасці ў вылучэнні аб'екта. Галоўная праблема, якая ўзнікае ў выпадку сінтэза герменеўтыкі і семантыкі ў рамках аднаго аналізу традыцыі, — гэта неабходнасць рассоўвання сэнсаў розных повядаў з прычыны рознасці іх семантыкі. Метадалогія ў звязку з натуральным ёй дыскурсам складае выпадковы для аналізу механізм, што ў роўнай ступені стасуецца і да семіотыкі, і да герменеўтыкі. Да таго ж гэтая іх дастатковасць не з'яўляецца гіпатэтычнай, але адносіцца да катэгорыі здзейсненых. Безумоўна, гэта не выключае самых розных спробаў новага скарыстання семіотыкі і герменеўтыкі ў даследчай традыцыі. Таму вопыт здзейсненага хаця б аднойчы аналізу не дазваляе ігнараваць вобраз (уяўленне аб) традыцыі, атрыманы ў выніку гэтай работы. Зрэшты, у тэксце «Традыцыя й мета-мова» гэты вобраз не мае прынцыповага значэння, праблема толькі ў канстатацыі таго факта, што культурная традыцыя, калі яна знаходзіцца ў вобласці семіатычнага аналізу, карэнным чынам адрозная ад свайго герменеўтычнага «двайніка». Гэтак жа, як асобныя катэгорыі ў розных метадалагічных кантэкстах набываюць розную семантыку. (Напрыклад, катэгорыя «аўтамадэль», якая актыўна працуе ў тэксце, не заўсёды пазначана, выдзелена ў сваім функцыянальным выкананні, паколькі семіатычная аўтамадэль не супадае з герменеўтычнай ні ў функцыянальнай тапалогіі, ні ў скіраванасці дыскурсіўнага аналітычнага руху ў агульным кантэксце аналітыкі, і г.д.). Такім чынам, аналітыка, якая карыстаецца адначасна некалькімі стратэгіямі інтэрпрэтацыі-успрымання аб'екта — трапляе ў жанр, які замест асэнсавання рэальнасці, прадмета, традыцыі мае магчымасць адно тэксталагічнай работы з аб'ектам. Гаворка ідзе пра тое, што калі ў тэксце, які сінтэзуе розныя аналітыкі, не агаворваюцца дадатковыя кантэкстуальныя значэнні, тэкст губляе здольнасць да паслядоўнага пошуку сэнсавых траекторый, якімі разгортваецца і ў якіх уласна і адбываецца аналагічнае канструяванне аб'екта — традыцыі.

Можа, зусім слушна, скласціся ўражанне, што і «палітычная крытыка» і «метадалагічная крытыка» тэксту штурхае нас да высновы: «уласным месцам» тэксту «Традыцыя й мета-мова» з'яўляецца «утапічнае» месца; але прымальная ў якасці вузкажанравай, гэтая ацэнка, гэтая выснова з непазбежным поспехам можа быць спрацыраванай на ўсялякі тэкст, які мае ў сабе адзнакі «праграмнага» альбо «праектнага». У гэтым сэнсе абазначэння выснова хутчэй характарызуе нашу аналітычную рэакцыю на тэкст, чым дазваляе наблізіцца да разумення таго, што ім рухае і што яго натхняе.

Аспрэчыць выснову пра «утапічнасць» гэтага тэксту неабходна не толькі таму, што выснова прэтэндуе зрабіцца знакам заканчэння чытання і, адпаведна, рэфлексіі, але і таму, што тэкст не аднабаковы: ён не проста прапануе рашэнні той праблемы, што тут фармулюецца, але і сам з'яўляецца істотнай часткай гэтай праблемы. Тэкст рэалізуе тое, што з'яўляецца прадуктам дэрэалізацыі таго, хто піша тэкст, ён тэкстуальна кампенсуе страту і адначасна з'яўляецца запісам гэтай кампенсацыі.

Каб патлумачыць канкрэтны ход гэтай праблематызацыі, звернемся да такой тэорыі тэксту, у якой сцвярджаецца, што тэкст — гэта працэс наладжвання адносінаў паміж чытачом і аўтарам, які набывае ў адносінах да гэтых суб'ектаў самастойны характар. Што здаецца характэрным для тэксту «Традыцыя й мета-мова», гэта пастаяннае «ўбудаванне» чытача ў аўтара; тэкст увесь час прымыкае да такіх дыскурсаў, якія робяць мову чытаючага (тую мову, якая складае выразную канфігурацыю ўласнага вопыту чытаючага) другаснай, нават другараднай. З'яўленне такіх магутных дыскурсаў, абумоўленых тэарэтычным пафасам тэксту, мае, як падаецца, і больш істотную матывіроўку: іх актуалізуемы змест недвухсэнсоўна паказвае на аўтара, як на тую псеўда-рэальную фігуру, якая гарантуе рэалістычнасць гэтага зместу. Свядомасць чытача, яго здольнасць аналітычна (поведна) кантраляваць чытанне-разуменне дапускаецца ў той меры, у якой яны адмыкаюць тэксту экзістэнцыйны вопыт чытаючага. Значыць, у задуму тэксту пакладзена не «эксклюзіўнае» разуменне, а болей прынцыповая для тэксту падзея, вакол якой вагаецца той, хто чытае, — прызнаваць ці не прызнаваць уяўную логіку тэксту, якая перастварaецца не столькі тэкставай асновай, колькі пазатэкставай дзейнасцю. У гэтым сэнсе тэкст выбудоўваецца канструкцыямі дыскурсіўных накіроўваючых, сэнсавая стылёвая «архітэктура» якіх уздымае чытача да таго месца, дзе чытач трапляе ў фігуральную залежнасць ад аўтара. (Гэта значыць унутры сябе тэкст стварае такую прастору разумення, ідэальную для гэтага тэксту, дзе фігуральны двайнік чытача, якога штурхае энергія паразумення, імкнецца зліцца з аўтарскай фігурай, бо толькі гэтая таясамасць дае яму шанц зняць дыскурсіўнае супрацьстаянне).

Інтрыга такога роду тэкстаў, як «Традыцыя й мета-мова», у тым, што яны ўнутрана трансгрэсіўныя: задуманы як тэарэтычны, такі тэкст ніколі не задавальняецца мэтай высвятлення «нечага», ён абавязкова скарыстоўвае гэтую мэту (ператвараючы яе тым самым у фармальнасць), каб паказаць, «як» і «што» павінна адбывацца. Увогуле адрозненне «што» і «як» з'яўляецца сутнасным для аналітыкі якога заўгодна тыпу, а тут яно папярэднічае і арганізуе падвоенае запытанне: «што са мной адбываецца» і «як са мной адбываецца»? Той, хто пытае, заўсёды знаходзіцца ў залежнасці ад выбару «што» і «як», з якім звязаныя дзве розныя стратэгіі самарэферэнцыі. Рэ-прэзентуемы тэкст не пераадольвае гэтую залежнасць, але даволі майстарскі яе абыгрывае, робячы складаныя цытатныя і алюзіўныя манеўры паміж дзвюма скранямі. Кажучы інакш, тэкст надзелены такой «самасвядомасцю» (тэрмін П. дэ Мана), якая вызначае гэтую залежнасць, і, значыць, гэтыя стратэгіі як прыватныя выпадкі, што не патрабуюць актуальнага вырашэння ў рамках тых мэтаў, якія тэкст дэкларатыўна выконвае. Але, як здаецца, менавіта на аснове гэтага прыёму «крызіс залежнасці» метанімічна пераносіцца на чытача і чытач змушаны «ўваходзіць» у тэкст і паводзіць сябе ў ім «дыялектычна», здзяйсняючы вынік «сінтэзы» ў тых выпадках, калі тэкст «маўкліва»-канцэптуальна акумулюе гэтую здзейсненасць. Праз значымыя элементы «паводзін» чытача мы даведваемся пра «сімпатыі» тэксту да дыялектыкі досыць традыцыйнага гегелеўскага выканання: там, дзе тэкст жадае быць аналітычным, ён робіцца дыялектычным.

Адсюль тыя натуральныя тэксту «ўнутраныя перамены» трансгрэсіі, паколькі тое, чаму было назначана выказваць пэўны змест, калі вылучаецца, то знаходзіць сабе новы змест, які ўжо не патрапляе пад юрысдыкцыю заяўленай логікі праблематызацыі. І чытач, і аўтар праходзяць праз выпадковасць сваіх адносінаў да тэксту, і гэтага нельга не заўважыць: тэкст «не ўспрымае» чытача як перашкоду, ён вызначае яго як элемент таго абсалютнага зместу, да выяўлення якога ён імкнецца.

Вяртаючыся да месца ў развагах, дзе з'яўляецца цверджанне пра тэкстуальную вытворчасць таго, што тэкст, які падпарадкоўваецца волі аўтара, толькі плануе вытварыць, мы жадаем сфармуляваць гэтае цверджанне трохі інакш: тэкст не з'яўляецца праектам «нечага», што яшчэ не адбылося; хутчэй тэкст дэманструе паказальнік ужо прапрацаванага вопыту ўваходжання ў традыцыю. Менавіта гэтая прычына і «замінае» супярэчыць тэксту, бо вопыту ў прынцыпе нельга запярэчыць, яму можна толькі супрацьпаставіць другі вопыт. І тут звяртае на сябе ўвагу тая асаблівасць тэксту, якая робіць тэкст выяўленнем уласнага, прыватнага вопыту ўваходжання ў традыцыю. Калі патрэбна было б паказаць на адну з самых прывабных для нас асаблівасцяў гэтага тэксту, яна нам бачыцца ў неабавязковасці, прыватнасці, і ў гэтым сэнсе выпадковасці таго, што тэкст выказвае досыць імператыўна.

У эвалюцыі тэксту мы назіраем распад «усеагульнага» (повяднага), і логіка гэтага распаду зусім не становіцца логікай знікнення таго, хто гаворыць, яна толькі пазначае яго ссоўванне «туды», дзе ён адкрывае для сябе ісціну чужароднасці гэтага свету, і дзе той, хто гаворыць гэтым тэкстам, недасягальны для кожнага з нас, і толькі на гэтых умовах у яго нарэшце з'яўляецца магчымасць зрабіцца «блізкім» і «зразумелым». Апавядаючы пра «будучыню» і «мінуўшчыну», тэкст адначасна роўніць будучыню і мінуўшчыну; тое, чаго няма, аднолькава належыць як будучаму, так і мінуламу. Тэкст укладае будучае ў мінулае, і наадварот, ён — тэмпаральная складка, «чыстае адрозненне», адначаснасць — запіс адсутнасці адлегласці паміж тым, хто пытаецца, і тым, хто адказвае.

## Ганс Глорг ГАДАМЕР




/.../ Досвед... ёсць допыт чалавечай канечнасці. Мае досвед, уласна кажучы, той, хто памятае пра гэтую канечнасць, той, хто ведае, што час і будучыня яму не падуладныя. Дасведчаны чалавек ведае межы любога прадбачання і ненадзейнасць усіх нашых планаў. Досвед дасягае ў ім сваёй найвышэйшай ісціны, найвышэйшай вартасці. Калі кожная фаза ўсяго працэсу атрымання досведу характарызавалася тым, што той, хто набываў досвед, набываў таксама і новую адкрытасць для новага досведу, дык у першую чаргу гэта мае дачыненне да ідэі дасканалага досведу. Досвед тут не канчаецца і не пераходзіць у вышэйшую форму ведаў (Гегель), але менавіта тут упершыню досвед па-сапраўднаму прысутнічае. Любы дагматызм, які выцякае з чалавечай апантанасці жаданнямі і скіраванасцю да іх ажыццяўлення, натыкаецца тут на сваю канчатковую мяжу. Досвед вучыць прызнаваць сапраўднае. Пазнанне таго, што ёсць у рэальнасці — такі адсюль сапраўдны вынік любога досведу — як і любога імкнення да ведаў наогул. Аднак тое, што ёсць, — гэта ў дадзеным выпадку не тое ці гэтае, але тое, «што ўжо не можа быць скасавана» (Ранке).

Сапраўдны досвед — гэта той досвед, у якім чалавек усведамляе сваю канечнасць. Магутнасць і самаўпэўненасць яго плануючага розуму знаходзяць тут сваю мяжу. Перакананасць у тым, што ўсё магчыма перарабіць, што на ўсё ёсць час і што ўсё так ці іначай паўтараецца, выходзіць, з'яўляецца простай бачнасцю. Хутчэй наадварот, чалавек, які жыве і дзейнічае ў гісторыі, паступова пераконваецца са свайго досведу, што нічога не паўтараецца. Прызнанне таго, што ёсць, абазначае тут не пазнанне таго, што ўжо ёсць цяпер, а ўсведамленне тых межаў, паміж якімі будучыня яшчэ мае перспектыву чакання і планавання, — альбо яшчэ ў больш агульнай форме: усведамленне таго, што ўсе чаканні і планы канечных істот самі маюць свой канец і сваю мяжу. Такім чынам, сапраўдны досвед — гэта досвед уласнай гістарычнасці. Праз гэта абмеркаванне паняцця досведу вядзе да выніку вельмі плённага да нашага пытання пра сутнасць дзейсна-гістарычнага спазнання. У ім, як у сапраўднай форме досведу, павінна адлюстроўвацца ўсеагульная структура досведу...

**Гадамер Г.Г. Праўда і метад // Gadamer H.G. Wahkheit und Methode. Tubingen, 1960. S.170. (4).**

## Марцін ХАЙДЭГЕР

*«Што ёсць метафізіка?»* — Пытанне абуджае чаканне, ідзе размова пра метафізіку. Мы ад гэтага адмаўляемся. Замест гэтага мы абмяркоўваем пэўнае метафізічнае пытанне. Праз гэта мы непасрэдна перамяшчаемся ў метафізіку. Мы гэткім ствараем ёй толькі сапраўдную мажлівасць рэпрэзентаваць сябе самую. Нашая задума пачынаецца з *разгортвання* метафізічнага апытання: мы спрабуем пасля гэтага *распрацаваць* пытанне, і яно сканчваецца *адказам* на яго /.../.

Чалавечае існаванне можа суадносіцца толькі з Існым, калі яно пераносіць сябе ў Нішто. Выхад праз Існае *адбываецца ў быцці існавання.* Гэты выхад і ёсць *сама метафізіка.* Тут маецца на ўвазе: метафізіка належыць да «прыроды чалавека». Яна не ёсць прадмет школьнай філасофіі, ні сфера адвольных фантазій: яна ёсць асноўная падзея *ў існаванні і як само існаванне.*

Паколькі ісціна метафізікі жыве ў гэтай бяздоннай аснове, яна мае пастаянна напагатове магчымасць самай вялікай памылкі за *найбліжэйшае суседства.* Адсюль ніякая дакладнасць нейкай навукі не дасягае сур'ёзнасці метафізікі. І філасофія ніколі не можа вымярацца маштабам ідэі навукі...

Філасофія — тое, што мы так называем, — гэта толькі прывядзенне ў рух метафізікі, у якой яна прыходзіць да самой сябе і да сваіх *дакладных і выразных задач.* А філасофія прыходзіць толькі ў рух праз своеасаблівы ўвод уласнай экзістэнцыі ў галоўныя магчымасці быцця ў цэлым. Для гэтага ўводу ёсць вырашальнае: спачатку стварэнне прасторы для існага ў цэлым; пасля адпусканне сябе ў Нішто, г.зн. вызваленне сябе ад божышчаў, якія мае кожны і да якіх ён мае звычку непрыкметна ўцякаць; і, нарэшце, — затуханне гэтага лунання, пасля чаго ён увесь час вяртаецца ў зыходнае становішча — у галоўнае пытанне метафізікі, якое само змушае да ўзнікнення Нічога.

Чаму ўвогуле гаворка ідзе пра Існае, а не, галоўным чынам, пра Нішто?

**Хайдэгер М. Што ёсць метафізіка // Philosophen-Lesebuch. Bd.3. Berlin, 1991. S.508, 520. (4).**

**Пераклад з нямецкай Лявона Баршчэўскага.**

ІНФАРМАЦЫЯ

## СЕМІНАР

На працягу апошняй паловы года ў Еўрапейскім Гуманітарным Універсітэце на філасофскім факультэце працуе пастаянна Семінар «Сучасныя філасофска-культуралагічныя даследаванні». Дзейнасць Семінара найперш звязана са спробай выявіць такія спосабы мыслення ў канкрэтным культурна-гістарычным ландшафце, якія, з аднаго боку, не былі б генеалагічна залежнымі ад папярэдняй мыслярскай традыцыі, што прывязвала сябе да гісторыясофскай схемы ментальнага супрацьстаяння Усходу і Захаду, а з другога — аналізавалі ўзнікненне самой інтэнцыі мыслення там, дзе яно яшчэ не падверглася культурнай фармалізацыі. У межах гэтай задачы памкненні ўдзельнікаў Семінара да спазнання непазбежна набываюць форму аналізу тых стратэгій «чытання» і «пісьма», на аснове якіх узнікаюць пэўныя філасофскія і літаратурныя практыкі; цэнтральнымі фігурамі такога аналізу становяцца Пісьменнік, Філосаф, Інтэлігент, у якіх фігуральна персаналізуюцца практыкі Культуры, Гісторыі, Улады, Ісціны...

Усведамленне крызісу гуманітарнай веды, страта яе ўнутранай іерархічнасці і цэласнасці, памкненні развітацца з вопытам інтэрпрэтацыйнага рэжыму разумення культуры набліжае аўтараў Семінара з тымі інтэлектуальнымі персанажамі культуры, што імкнуцца выпрацаваць такія формы гуманітарнага ведання, якія выяўляюць логіку крызісу.

Апошняя па часе тэматычная серыя Семінара была прысвечана праблемам так званага «топалагічнага аналізу» і ягоным праявам у асобай філасофскай дыскурсіі. Тэкставым апірышчам гэтай тэматычнай серыі сталі работы маскоўскага філосафа Валерыя Падарогі (у прыватнасці ягоная манаграфія «Метафізіка ландшафту. Камунікатыўныя стратэгіі ў філасофскай культуры XIX — XX стст.») і тыя працы расейскіх і заходніх філосафаў, якія апынаюцца блізу праблематыкі «топалагічнага аналізу». Былі прачытаныя даклады «Праблема мовы і цялеснасць у працах В.Падарогі» (Андрэй Горных), «Ліст Таццяны да Анегіна. Метанімія чытання В.Падарогі» (Уладзіслаў Сафронаў), «Крытыка антaлагічнага вопыту. Экалогія метафізічнага ландшафту» (Сяргей Шылаў), «Чытанне і логіка какафоніі. Вопыт рассяроджанага чытання» (Арсэн Мелікян), «Анатомія чытання В.Падарогі» (Юры Баранчык), «Праблематызацыя прачытання Кіркегара ў В.Падарогі» (Таццяна Шытцова).

Супрацоўнікі і студэнты ЕГУ, БДУ, якія ўдзельнічаюць у рабоце Семінара, карыстаюцца ў абмеркаванні самымі рознымі падыходамі, што бачна ўжо з пераліку дакладаў...

Паколькі ўнутраны расклад работы Семінара не спланаваны на выяўленне і замацаванне ў якасці ісціннага нейкага аднаго падыходу, то вынікі работы Семінара трэба бачыць перш за ўсё ў стварэнні няспыннага ў часе і прасторы тэкстуальнамоўнага поля, гэта значыць нейкага культурнага топасу ў інтэлектуальнай прасторы Мінска, горада, які нарэшце пачынае набліжацца па інтэнсіўнасці культурных падзей да еўрапейскага ўзроўню.

***(Пасяджэнні Семінара праходзяць у Нацыянальным інстытуце гуманітарных навук, вул.Маскоўская, д.15).***

**Зміцрок ЧЫЖ.**



23 сакавіка 1716г. у Вільні была створана канфедэрацыя беларуска-літоўскай шляхты, якая выступала супраць абсалютысцкіх планаў караля і патрабавала вываду саксонскіх войскаў з Беларусі і Літвы. Да патрыятычнай паставы беларуска-літоўскай шляхты далучыліся беларуска-літоўскае войска, беларуска-літоўскія магнаты, якія і да гэтага выступалі за абмежаванне ўлады караля. Атрады канфедэратаў змагаліся з каралеўскімі войскамі на тэрыторыі ўсёй Рэчы Паспалітай і мелі поспехі. Тады пасрэднікам выступіў расійскі цар Пётр I, абапіраючыся на расійскія войскі ў Рэчы Паспалітай. Пасля доўгіх, з перапынкамі, перамоў пад націскам расійскіх дыпламатаў 3 лістапада 1716 года было падпісана пагадненне паміж каралём і Тарнагродскай канфедэрацыяй.

1 лютага 1717г. у Горадні на «нямым» сойме (без спрэчак) пад націскам расійскіх дыпламатаў было зацверджана гэтае пагадненне. На яго падставе саксонскія войскі выводзіліся з Рэчы Паспалітай, улада гетманаў абмяжоўвалася, забараняліся канфедэрацыі, каронная армія скарачалася да 18 тысяч, а беларуска-літоўскае войска — да 6 тысяч. А ў гэты ж час суседзі мелі войскі з многіх дзесяткаў і сотняў тысяч салдатаў. Такім чынам, Пётр I дамогся аслаблення абароннай моцы федэратыўнай дзяржавы. Гэта яшчэ больш аблегчыла ўмяшанне ва ўнутраныя справы дзяржавы з боку Расіі, Прусіі і Аўстрыі. Адначасова расійскі пасол князь Р.Далгарукі дамогся захавання права ліберум вета (аднагалосся) у сойме і гарантыі Расіі захавання гэтага анархічнага правіла. Каб аслабіць апазіцыю Аўгусту II, расійскія дыпламаты дамагліся ад сойму абмежавання правоў дысыдэнтаў (г.зн. некатолікаў, у тым ліку і праваслаўных!). Некаталіцкай шляхце было забаронена будаваць новыя храмы на ўласнай зямлі.

## АПОШНІЯ ГАДЫ ПАНАВАННЯ

Толькі цяпер Аўгуст II канчаткова зразумеў, што ён замест саюзніка стаўся васалам цара. Адразу, з уласцівай яму энергіяй, ён спрабаваў вярнуць суверэнітэт і спрабаваў утварыць саюз з Аўстрыяй і Англіяй супраць Пятра I. У 1719г. Аўгуст II падпісвае з Аўстрыяй і Англіяй Венскі трактат, у якім гаварылася пра абарону незалежнасці Рэчы Паспалітай. У адказ на гэта Расія і Прусія заключылі паміж сабой у 1720 годзе дагавор, які гарантаваў захаванне слабога існуючага дзяржаўнага ладу ў Рэчы Паспалітай, а расійская дыпламатыя дамаглася адмовы ратыфікацыі Венскага трактата на сойме. Але шляхта ў Польшчы і Беларуска-Літоўскай дзяржаве не давярала каралю, які цынічна не адзін раз яе ашукваў, і таму не падтрымала яго. Тым не менш Аўгуст II яшчэ спрабаваў правесці рэформы, каб узмацніць цэнтральную, перш за ўсё каралеўскую, уладу. Дзеля гэтай мэты ён быў гатовы нават на ўступку часткі тэрыторыі, напрыклад Прусіі, абы толькі на астатняй тэрыторыі ўсталяваць уладу сваёй дынастыі. Праўда, тады пытанне аб падзеле тэрыторыі Рэчы Паспалітай яшчэ не стаяла ў парадку дня еўрапейскай палітыкі, бо суседнія дзяржавы не згадзіліся, каб якая-небудзь з іх выключна адна займалася падзелам тэрыторыі Рэчы Паспалітай.

Так, яшчэ ў 1709г. кароль Прусіі Фрыдрых I выпрошваў у Пятра I тэрыторыі Каралеўскай Прусіі (у складзе Польшчы), Жмудзь і Курляндыю, але Пётр I пераканаўча яму адмовіў. Цар быў супраць узмацнення якой-небудзь нямецкай дзяржавы за кошт польскіх і літоўскіх земляў. Ягонай палітыцы лепей адпавядала слабая і залежная ад Расіі Рэч Паспалітая.

Аўгуст Моцны ў 1726 годзе спрабаваў пасадзіць на курляндскі герцагскі трон у Мітаве (цяпер Елгава) свайго няшлюбнага сына, графа Морыца Саксонскага (пазней маршала Францыі). Аднак планы не ажыццявіліся. Расійскія войскі выгналі яго адтуль, хоць Курляндыя была васалам Варшавы. Адначасова кароль рыхтаваў глебу да выбару пасля сябе на каралеўскі трон у Варшаве адзінага законнага сына, таксама Фрыдрыха Аўгуста (1696 — 1763), імкнуўся прадухіліць вяртанне на трон Станіслава Ляшчынскага. А ў гэты час, паколькі стан здароўя Аўгуста II пагоршыўся, замежныя дзяржавы пачалі шукаць сваіх кандыдатаў на каралеўскі пасад у Варшаве. Францыя падтрымала кандыдатуру Станіслава Ляшчынскага, які знаходзіўся ў эміграцыі ў Францыі і з дачкой Марыяй (1703 — 1768) якога быў жанаты (ад 1725 года) малады французскі кароль Людовік XV (1710 — 1774). Расія і Аўстрыя ўжо ў 1730г. заключылі патаемна дагавор аб супрацьдзеянні кандыдатуры С.Ляшчынскага і мелі на ўвазе выбранне каралём і вялікім князем саксонскага наследнага прынца (на ўмовах гэтых дзвюх дзяржаў) альбо каго-небудзь з польскіх шляхціцаў ці нават нямецкіх прынцаў. А няўрымслівы Аўгуст II працягваў спробы рэфармавання дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай. У чэрвені 1730г. ён сустрэўся з прускім каралём Фрыдрыхам Вільгельмам I і прыняў разам з ім парад войскаў. Мэтай сустрэчы была падрыхтоўка саюза Саксоніі і Рэчы Паспалітай з Прусіяй.

У 1732 і 1733гг. Аўгуст II зноў спрабаваў правесці рэформу дзяржаўнага ладу, абапіраючыся на моцную групоўку магнатаў, якую ўзначалілі князі Чартарыскія. Але на сойме 1732г. супраць рэформаў выступіла апазіцыя, у тым ліку Гурко і Тадэвуш Агінскі, віцебскія дэпутаты,



Сапега і Бужынскі, смаленскія дэпутаты, Рудаміна, браслаўскі дэпутат. 2 кастрычніка 1732г. сваім воклічам «Не дазваляю!» сойм сарваў дэпутат з Польшчы Дунін. Пасля гэтага «супраць» сойм быў распушчаны. Аднагалосся не атрымалася. На гэтую дзейнасць апазіцыі пайшлі грошы расійскага ўрада, якія былі перададзены праз Патоцкіх і Юзэфа Мнішка, маршалка вялікага каroннага. На пачатку 1733 года Аўгуст II прыехаў з Саксоніі ў Варшаву, дзе быў скліканы надзвычайны сойм. Хадзілі чуткі, што кароль зноў хоча змяніць дзяржаўны лад, узмацніўшы ўладу караля, і захаваць трон за сваёй дынастыяй. Але Аўгуст II моцна захварэў і ў ноч на 1 лютага 1733 года памёр у варшаўскім каралеўскім замку. Апошнія ягоныя словы: «Усё маё жыццё было адзіным неперарыўным грахом». Так скончылася доўгае і неспакойнае панаванне караля Саса, як яго называлі, з саксонскай дынастыі.

Аўгуст II пакінуў шматлікіх дзяцей. Некаторых з іх (ад больш-менш пастаянных каханак) ён узвысіў. Так, ягоны сын ад графіні Аўроры Кёнігсмарк — граф Морыц Саксонскі (1696 — 1751) быў нейкі час герцагам Курляндыі, а потым маршалам Францыі. Ён нарадзіўся праз 11 дзён пасля нараджэння кронпрынца Фрыдрыха Аўгуста. Няшлюбная дачка Морыца Саксонскага — Марыя Аўрора — была маткай Дзюпэна дэ Франсэйля (бацькі французскай пісьменніцы Жорж Санд). Другі няшлюбны сын Аўгуста Моцнага — Еган Георг (ад Уршулі Любамірскай) стаў саксонскім фельдмаршалам. Фельдмаршалам быў і граф Фрыдрых Аўгуст Рутоўскі (ад турчанкі Фацімы). Сваіх няшлюбных дачок кароль павыдаваў замуж за польскіх і нямецкіх арыстакратаў, а адну — графіню Ганну Ажэльскую — за герцага галштэйн-бенскага. Дачка ад графіні Ганны Канстанцыі Козэль была выдадзена замуж за Яна Машынскага, вялікага падскарбія кароннага.

Пасля Аўгуста II засталіся помнікі архітэктуры ў Дрэздэне і Варшаве, дзе былі пабудаваны Саскі палац, палац Бруля, перабудаваны Уяздоўскі замак і пасаджаны Саскі парк. Цікавыя архітэктурныя пабудовы ўпрыгожвалі ў той час і землі Беларусі.

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ.**

*На здымках:*
1. Аўгуст II Моцны.
2. Палац Бруля ў Варшаве.
3. Нясвіж. Слуцкая брама. XVIIIст.
4. Полацкая Сафія. Ляпны дэкор. XVIII ст.
5. Кармеліцкі кляштар у Мядзелі. XVIIIст. Архіўны здымак.

ЭКСКЛЮЗІЎ

# «ШЧАСЦЕМ БЫЛО ЎЖО ДАКРАНУЦЦА ПАДЭШВАМІ ДА ТОЙ ЗЯМЛІ, ПА ЯКОЙ ХЛОПЧЫКАМ ХАДЗІЎ МОЙ БАЦЬКА»

*У красавіку Мінск наведала ў складзе дэлегацыі польскіх мастацтвазнаўцаў дачка вядомага авангардыста беларускага паходжання Уладзіслава Стрэмінскага. Паміж шматлікімі візітамі ды імпрэзамі Ніка СТРЭМІНСКАЯ знайшла час сустрэцца і з нашым карэспандэнтам.*

**— Спадарыня Ніка, ці лёгка быць дачкой знакамітага чалавека?**

— Цяжка, але прыемна. Я не чакала, што ў Беларусі столькі людзей цікавяцца творчасцю майго бацькі. Літаральна за некалькі дзён мы разам з Зянобіяй Карніцкай (дарэчы, яе бацька таксама нарадзіўся ў Беларусі) сустрэліся з сотнямі цікавых суразмоўцаў. Пабывалі ў мастацкім музеі на адкрыцці выставы ў гонар Вызвольнага паўстання 1794 года і ў філармоніі на канцэрце, прысвечаным Касцюшку і Манюшку.

**— Я ведаю, што ў Дзяржаўным мастацкім музеі адбыўся семінар па творчасці Стрэмінскага з Вашым удзелам.**

— Так, але не толькі там. У Акадэміі навук мы паказалі тры відэафільмы пра маіх бацькоў (адзін я здымала сама, другі — мастацкі музей у Лодзі, а трэці — лодзінскае тэлебачанне). Я вельмі ўдзячная супрацоўніцы Інстытута мастацтвазнаўства Людміле Налівайка за тое, што пазнаёміла нас з тузінам невядомых у Польшчы фактаў творчай біяграфіі майго бацькі, якія яна расшукала ў архівах Мінска і Смаленска. Мы таксама наведалі вашу Нацыянальную бібліятэку, каб перадаць факсімільныя выданні кніжак Стрэмінскага і Кобра, каталогі іхніх выставаў ды іншую літаратуру пра бацькоў, у тым ліку мой нарыс «Каханне, мастацтва і нянавісць». Затое ў энцыклапедычным выдавецтве, дзе мы сустракаліся з Барысам Сачанкам, гару кніг падаравалі ўжо нам (асабліва ўразіў Скарынаўскі слоўнік). Магчыма, калісьці з'явіцца выданне і пра Стрэмінскага.

Апрача Мінска, мы пабывалі ў Вілейцы, дзе бацька працаваў на пачатку 20-х і ў 1939 годзе. На сустрэчы з мясцовымі ўладамі і дырэкцыяй краязнаўчага музея нам паабяцалі збіраць матэрыялы пра яго і нават абмеркаваць магчымасць назваць у гонар Стрэмінскага адну з вуліц горада. Вялікі дзякуй хачу сказаць Яўгену Шунейку, які паўсюль нас суправаджаў і дапамагаў знайсці зацікаўленых людзей.

**— Калі не памыляюся, менавіта ў Вілейцы Стрэмінскі найбольш плённа працаваў у вынайдзенай ім манеры «уністычнага мастацтва»?**

— Не толькі там. Уністычныя кампазіцыі, што грунтаваліся на антычнай еднасці твора, бацька маляваў пераважна ў 1928 — 1934 гг. Кожны з іх пакрывае аднародная фактура, якая стварае аднолькавую напружанасць колеру па ўсёй паверхні. З гэтага вынікае, што аднолькава важныя ўсе часткі палатна — і цэнтр, і «ускраіны».

**— Штосьці падобнае я чуў ад знаёмага гісторыка: няма больш ці менш значных фактаў, бо толькі ўсе разам яны складаюць гісторыю.**

— Гэта вельмі цікавая і слушная думка. Сярод сучасных мастакоў, канешне, ёсць паслядоўнікі майго бацькі, хаця іхнія творы цяжка назваць строга уністычнымі. Напрыклад, у Германіі Юкер набівае ў пэўнай паслядоўнасці на палатно цвікі, а іншыя скарыстоўваюць алоўкі, шалупінне арэхаў і г.д. Можна таксама прыгадаць польскага мастака Рамана Апольку і беларусаў з Беласточчыны Лявона Тарасевіча і Міколу Давідзюка.

**— Дзе Стрэмінскага лепш ведаюць або разумеюць: у Польшчы, Францыі, іншых краінах?**

— Быў час, калі яго лепш ведалі ў Францыі, чым у Польшчы, мастацтва якой было заняволена сацыялістычным рэалізмам. На пачатку 50-х імя Стрэмінскага ха- целі ўвогуле выкрасліць з памяці.

(Заканчэнне на стар. 14)

# «ШЧАСЦЕМ БЫЛО ЎЖО ДАКРАНУЦЦА ПАДЭШВАМІ ДА ТОЙ ЗЯМЛІ, ПА ЯКОЙ ХЛОПЧЫКАМ ХАДЗІЎ МОЙ БАЦЬКА»

*(Пачатак на стар. 13)*

Дзякаваць Богу, што яго памяталі ў Парыжы па публікацыях і выставах у міжваенны час. Ідэалагічнае кіраўніцтва не магло ігнараваць цікаўнасці да Стрэмінскага на Захадзе і напрыканцы 50-х дало дазвол на перавыданне ягоных кніг і на адзіную выставу ў Варшаве. Ягоную творчасць і цяпер не вельмі ў нас разумеюць. Анджэй Вайда збіраецца здымаць фільм пра жыццё Стрэмінскага і Кацярыны Кобра, але, баюся, за інтымнымі падрабязнасцямі сутнасці іхніх мастацкіх пошукаў будзе не бачна.

**— Таму Вы й заняліся прапагандай творчай спадчыны бацькоў?**

— Я вывучаю яе ўжо гадоў дзесяць. Кнігу напісала, калі яшчэ працавала псіхолагам на караблях польскага флоту. У мінулым годзе пайшла на пенсію, бо псіхолагаў цяпер замянілі ксяндзамі (многія маракі, дарэчы, былі супраць гэтага) і цяпер выключна займаюся творчасцю бацькоў і яшчэ аднаго маладога мастака. Многія не ўсведамляюць, што мая маці, Кацярына Кобра, была не менш таленавітым скульптарам, чым бацька — мастаком. У некаторых творах яна, напрыклад, апярэдзіла пошукі такога геніяльнага скульптара, як Генры Мур. На жаль, яе талент не раскрыўся да канца, бо мела вялікі клопат догляду за маім скалечаным на Першай сусветнай вайне бацькам ды мусіла вырашаць іншыя побытавыя праблемы. Але «ценем генія», ва ўсялякім разе, яна не была.

**— Летась у лістападзе мы адзначалі 100-годдзе з дня нараджэння Стрэмінскага. На жаль, ягоных твораў «жыўцом» мы тут яшчэ не бачылі...**

— Перамовы аб выставе ў Мінску яшчэ не скончаны. З нагоды 100-годдзя адбылася выстава ў Лодзінскім музеі; цяпер яна экспануецца ў Іспаніі, а потым пераедзе ў Германію. У Італіі павінна неўзабаве выйсці кніга пра маіх бацькоў.

**— Як Вы, спадарыня Ніка, ацэньваеце свой першы візіт на Беларусь? Ці ёсць падставы меркаваць, што спадчына Стрэмінскага зойме паважнае месца ў беларускай культуры?**

— Мяне надзвычай уразіла добразычлівасць і духоўная цеплыня ўсіх людзей, з якімі я тут сустрэлася. Шчасцем было ўжо дакрануцца падэшвамі да той зямлі, па якой хлопчыкам хадзіў мой бацька. Канешне, мне было б вельмі прыемна, калі б ягоныя ідэі, ягоная творчасць — хай сабе пакуль у выглядзе інфармацыі — вярнулася да першавытокаў, на радзіму мастака.

**— Каб замкнулася чароўнае кола мастацтва?**

— Можна і так сказаць. Я пабывала ў касцёле святога Роха, дзе быў ахрышчаны бацька. На жаль, не захавалася магіла дзеда, які быў пахаваны паблізу касцёла ў 1919 годзе. Яўген Шунейка правёў нас па раёне былой Гарбарнай вуліцы, дзе стаяў дом маіх продкаў. Усё гэта дапаможа мне самой лепш асэнсаваць лёс і творчасць бацькі. У Вілейцы добра захаваліся будынкі перадваеннага часу, паўз якія ён хадзіў на працу ў гімназію, як і яна сама. Дзіўна, але я ўбачыла, наколькі трапна Стрэмінскі адлюстроўваў гэтае мястэчка ў цыкле уністычных, надзвычай лаканічных малюнкаў «Заходняя Беларусь». Дарэчы, адзін са студэнтаў вашай Акадэміі мастацтваў (Андрэй Букач) зрабіў праект помніка Стрэмінскага для Вілейкі, і мне прыемна ведаць гэта, нават калі самога помніка не будзе.

**— І апошняе пытанне. Вы па адукацыі псіхіятр: ці можна вылечыць грамадства або асобнага чалавека мастацтвам?**

— Безумоўна, стасункі з мастацтвам дапамагаюць людзям выправіць свой псіхічны стан, палепшыць настрой, а галоўнае — навучаюць іх жыць прыгожа. Польшча цяпер таксама мае вялікія праблемы ў эканоміцы, але артыстычнае жыццё ў нас квітнее. Напэўна, многія людзі знаходзяць у мастацтве сховішча ад надзённых праблем. Калі я працавала псіхіятрам, дык часта звярталася да хворых (асабліва на шызафрэнію) з прапановай намаляваць альбо апісаць словамі на паперы тое, што іх засмучае і непакоіць. І ведаеце, тыя, хто гэта зрабіў, пэўны час адчувалі сябе значна лепей.

**— Будзем спадзявацца, што мастацтва дапаможа і нам пасярод звар'яцелага часу заставацца паўнавартаснымі людзьмі.**

**Размову вёў Юрась БАРЫСЕВІЧ.**

## ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі /пераадрасоўкі/ без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі /пераадрасоўкі/.

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі «ПВ-МЕСЦА» робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

# У ВІХУРЫ САМАБЫТНАСЦІ

НЕ ТОЛЬКІ на вялікі жаль, але і на вялікі здзек з працоўнай большасці, інтэлігенцыі і народнай культуры стварыліся сённяшнія жыццёвыя ўмовы. Абвальная інфляцыя, разбуранасць, неўладкаванасць жыцця прыводзяць людзей да разгубленасці і зласлівасці. Выхаваныя і прывучаныя за перыяд пралетарскага яднання клапаціцца ў асноўным толькі пра сярэднюю частку цела, народныя масы,



натуральна, сёння стаяць на каленях перад яе каралеўскай вялікасцю каўбасою, якая не па днях, а па гадзінах набірае кошту і недаступнасці. У такіх абставінах думаць пра культуру не тое, што складана, але амаль немагчыма. І тут, калі ласка, — вялікае раённае свята мастацкай самадзейнасці і народных майстроў з кірмашом у Барысаўскім раёне. Дзякаваць Богу, ёсць яшчэ людзі, якія разумеюць, што менавіта культура можа і павінна быць у гэтым цёмным царстве імклівага збяднення большасці народа светлым промнем жыцця, быць тым асяродкам і сродкам, які дае магчымасць чалавеку заставацца чалавекам.

Барысаўскі раённы аддзел культуры на чале з загадчыкам Юрыем Баранцовым і пры непасрэднай падтрымцы старшыні райвыканкама Георгія Кібермана ўскалыхнулі ўвесь раён. Яны вырашылі правесці конкурсны агляд раённай самадзейнасці і народных мастацкіх промыслаў. Чатыры месяцы доўжыўся гэты культурны марафон. Была праароблена тытанічная праца па падрыхтоўцы калектываў мастацкай самадзейнасці калгасаў, саўгасаў, культурных устаноў. Журы прагледзела 116 калектываў, у якіх удзельнічаюць каля дзвюх з паловай тысяч аматараў самадзейнага мастацтва, пачынаючы з дзяцей і заканчваючы пенсіянерамі. Яны выяўлялі свае артыстычныя здольнасці і мастакоўскае ўмельства ў фальклорных гуртах, музычных ансамблях, самадзейных калектывах драматургічнага, паэтычнага, танцавальнага, гумарыстычнага і іншых накірункаў. На канцэртах перабыло больш за дзесяць тысяч гледачоў.

Шэсць тыдняў крочыў па раёне гэты агляд самадзейнага мастацтва. Шэсць тыдняў жыхары вёсак, пасёлкаў, калгасных і саўгасных цэнтраў захапляліся прыгажосцю вырабаў народных майстроў, якія прадэманстравалі сваё ўмельства ў ручніках, посцілках, дыванах, вырабах з лыка, саломкі, кераміцы ды іншых творах народных промыслаў. Шэсць тыдняў Барысаўскі край віхурыў у танцах, песнях, карагодах, даючы творчую асалоду не толькі самадзейным артыстам, але і шматлікім гледачам. Пра ўсё гэта з гонарам і захапленнем гаварылася на падвядзенні вынікаў раённага конкурсу перад заключным канцэртам у Лошніцкім доме культуры каля Барысава.

Але перад гэтым, ад світанку і да абеда, Лошніца весялілася на дзвюх канцэртных пляцоўках — адна пад адкрытым небам, на прыступках ДК і, можна сказаць, на ўлонні вялікага кірмашу, а другая — у фае. Паўсюль дзеяліся жарты, віхурылі полькі, чуліся песні, прыпеўкі, дэкламацыя вершаў. Усё гэта пераносіла людзей ад цяжкіх будняў цяперашняга жыцця ў святочна-карнавальны свет. Захапіў гэты настрой і нас. Вельмі спадабалася, як мажны дзяцюк у вышыванцы пеў пра тое, як ён раніцай з бацькам касіў сена маладое. А колькі было жартаўлівых, смешных, з'едлівых прыпевак! І кожны з выканаўцаў быў непаўторны, асабліва дзеці. А як шчыравала вакальная група школы мастацтваў з в.Лошніцы! Іх змяняе дуэт гарманістаў (Генадзь Ярус і Уладзімір Вайтовіч), а потым гучыць жартоўная беларуская народная песня «Сямёнаўна» ў выкананні фальклорнага калектыву в.Вяляцічы. Яшчэ гараць далоні ад апладысментаў, а ў залу нясецца беларуская народная песня «Ой, бяда» ў выкананні дырэктара Хоўхаліцкага СДК Марыі Дубоўскай. А потым ледзь не задымілася сцэна ад прытанцовак з прыпеўкамі больш чым сяміпудовых выканаўцаў, на дзіва рухавых і галасістых. А колькі пачуцця і харэаграфічнай вытанчанасці падараваў гледачам фальклорны калектыў в.Азяцічы, выконваючы беларускую народную песню «Ручнічок» у адмысловых, з блакітным арнаментам строях, з ручніком на ўсю сцэну! Таленавіта «ўспамінала даўніну» мужчынская вакальная група з в.Кішчына Слабада ў суправаджэнні барабана. А фальклорны калектыў гэтай вёскі гарэзліва выканаў беларускую народную песню «Каля кузні шла». Карагод са стужкамі выконвае танцавальны ансамбль в.Ухалода. Таленавітыя ў нас людзі і дай ім Бог здароўя на весялосць, а не толькі на працу...

Падарылі радасць салісты Васіль Солапаў з в.Забалоцце, Людміла Сталькевіч і Таццяна Тарко з в.Вяляцічы, Святлана і Аляксей Чэрнікавы з в.Неманіца, Таццяна Дуброўская з в.Касцюкі, Наталля Семянец і Сяргей Бранавец з Лошніцкай школы мастацтваў. Дружным «Малайцы!» было ацэнена майстэрства Інгі Крыловай і Дзімы, якія паказалі нам лацінаамерыканскія танцы. Павесялілі гледача і тэатр мініяцюр в.Ганцавічы, і фальклорны калектыў з в.Лаўніца, які выканаў прыпеўкі.

Зноў угіналася падлога сцэны ад зладжаных з прыпеўкамі прытанцовак. Фальклорны калектыў в.Вяляцічы дружна агалошваў: «Расступіся, зямля-маці, пойдзем «барыню» гуляці!» І пайшлі горача, тэмпераментна, зухавата. Нехта ўслых заўважыў: «Здароўе ёсць!» А на заўвагу сцвярджальнае: грук, грук, грук! Вельмі цёпла сустрэла публіка пяцікласніка з в.Весялова Сяргея Юзафовіча ("Аляксандравіча", — з гонарам дадала маці), а ён выразна, прыемным чыстым галасочкам сыпануў прыпеўкі з прытанцоўкамі.

Шчыра пляскалі ў далоні і артыстам з в.Ачысце, і дзецям — выканаўцам «Юрачкі» — беларускага народнага танца. Таленавітыя растуць у нас дзеці, але сёння становіцца сумна і страшна за іхнюю будучыню... Вельмі стараліся юныя артысты, выконваючы «Карабейнікаў» на цымбалах. Гераіняй агляду стала вучаніца 4-га класа Лошніцкай школы мастацтваў Святлана Савіцкая. Выступаў і тэатр адной актрысы, якая выдатна справілася з ролямі дзвюх суседак у вясёлай, але і з'едлівай, і здзеклівай гумарэсцы на антыалкагольную тэму. Усіх развесяліла гумарыстычна-сатырычная сцэна «На прыёме ў паліклініцы» ў выкананні драмтэатра Забалоцкага ДК. Адзін артыст цікава выканаў ролю хворага, а другі ў характарах пацяшаўся з тэрапеўта, хірурга, акуліста, неўрапатолага.

З поспехам выступілі гарманісты Жабанінскія — бацька з сынам — з в.Кемля. Ролю вядучай канцэрта выконвала Галіна Паўлоўская — метадыст драматычнага жанру, а дапамагаў ёй у вобразе знакамітага Цярэшкі настаўнік Кішчына-Слабадской СШ Аляксандр Паляшчук. Яны з імпэтам



выконвалі гумарыстычныя мізансцэны. Цярэшка добра бачыў, што робіцца на кірмашы і экспромтам жартаваў, спалучаючы кірмашовыя падзеі з канцэртам. Адзін глядач задаволена бурчэў: «Зноў клоуны паявіліся».

На высокім уздыме прайшлі ўсе тры канцэрты. Асабліва заключны. Ён запомніўся ўвесь, цалкам. І не дзіўна, бо на ім выступілі ўжо прызнаныя строгім прафесійным журы лаўрэаты, дыпламанты, прызёры. Адным словам — прызнаныя лепшымі артысты раённай самадзейнасці, ад дашкольных і школьных устаноў і да калектываў і гуртоў бацькоў і дзядоў. Вось гэта і ёсць сапраўднай пераемнасцю пакаленняў!

Свята ўдалося. Яго арганізатары сышліся на тым, што былі ў іх удалыя святы, але такое адбылося ўпершыню. І, канешне, поруч з заслугамі іншых — вялікая заслуга ў гэтым Галіны Зянонаўны Мяцеліцы, галоўнага рэжысёра свята, рэжысёра РНМЦ. У выніку гэтай тытанічнай працы раённага аддзела культуры і ўсіх, хто гэтаму садзейнічаў, раённая самадзейнасць пабагацела на пяць новых вакальна-фальклорных гуртоў, чатыры вакальныя ансамблі, два тэатры, два танцавальныя калектывы і інш.

Пётр Гуд, загадчык кафедры рэжысуры народных святаў Беларускага універсітэта культуры, прапанаваў заключыць творчае пагадненне кафедры з аддзелам культуры Барысаўскага райвыканкама, каб гэты раён стаў вытворча-эксперыментальнай базай універсітэта. Такое спалучэнне тэорыі і практыкі абавязкова дасць добры плён. З гэтым пагадзіліся ўсе.

**Яўген АДАМОВІЧ,**
**дацэнт Беларускага універсітэта культуры.**

Фота У.КРУКА.




## з 18 па 22 мая

## Серада, 18 мая

### Беларускае тэлебачанне

**8.00** Раніца рэспублікі.
**8.10** Пад купалам Сусвету.
**8.20** Надвор'е.
**8.30** Пяць хвілін на жарты.
**8.35** Ане Вескі. Фільм-канцэрт.
**9.00** Тэлебачанне — школе. Характэрныя асаблівасці джаза.
**9.40** «Семнаццаць імгненняў вясны». 11-я серыя.
**10.45** Аэробіка.
**13.30** Навіны.
**13.40** «Зноў чую голас твой». Фільм-канцэрт.
**14.20** Відзьма-нявідзьма.
**15.20** «Зубраня» запрашае на юбілей. Пра дзіцячы Узорны ансамбль танца Палаца культуры МАЗа.
**16.30** Еўрапейскі калейдаскоп.
**17.00** Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. «Незабыўнае». Успаміны П. У. Іванова.
**17.30** Навіны (з сурдаперакладам).
**17.40** Якія мы гаспадары? Брэсцкі завод газавай апаратуры і Акцыянернае таварыства «Брэсцкія дываны».
**18.10** Абласныя навіны (Гомель).
**18.25** Навіны Бі-бі-сі.
**19.00** «Пяць зорак». Тэлегульня.
**20.00** «Малюем далягляд». Сацыяльна-эканамічнае развіццё народнага прадпрыемства «Бабруйскдрэў».
**20.30** Кантакт.
**20.35** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.35** Пад купалам Сусвету.
**21.45** Пяць хвілін на жарты.
**21.50** Рэклама.
**22.00** «Семнаццаць імгненняў вясны». 12-я серыя.
**23.05** «Дзесяць хвілін плюс стагоддзе». Перадача 3-я.
**23.15** Надвор'е.
**23.25** НІКа.
**23.40** «Камаедзіца-94». Фестываль сатыры і гумару.

### Канал «Астанкіна»

**5.15** Ранішняя размінка.
**5.30** Раніца.
**7.45** Агляд рынку нерухомасці.
**8.00,** 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 23.15 Навіны.
**8.20** Сарока.
**8.40** «Бераг яго жыцця». Маст. фільм. 2-я серыя.
**9.45** Канцэрт народнай музыкі.
**10.00** Клуб падарожнікаў (з сурдаперакладам).
**10.50** — 23.55 Прэс-экспрэс.
**14.25** Прадпрымальнік.
**15.20** «Прыгоды Тома Соера».
**15.50** Лялька маёй мары.
**16.20** Адказы.
**16.50** Загадка СБ.
**17.25** Тэлерадыёкампанія «Мір», «Дзень добры, гэта я».
**17.50** Дакументы і лёсы.
**18.00** «Раскол». Маст. фільм. 5-я серыя.
**18.55** Новыя людзі. Генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання АўтаВАЗ В. Каданікаў.
**19.40** Добрай ночы, малышы!
**20.45** Парыжская вясна расійскіх музеяў.
**21.05** Футбол. Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў. «Барселона» (Іспанія) — «Мілан» (Італія). У перапынку (21.55) — Вагон 03.
**23.25** Акадэмія.

### Канал «Расія»

**6.00,** 10.00, 15.00, 22.20 Весткі.
**6.20** Патрабуюцца...
**6.30** Формула-730.
**7.00** Час дзелавых людзей.
**7.30** Добрай раніцы, Еўропа.
**8.00** Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
**8.30** Ранішні канцэрт.
**8.45** «Санта-Барбара».
**9.35** Тэлегазета.
**9.40** Сялянскае пытанне.
**15.20** Студыя «Рост».
**15.50** Там-там навіны.
**16.05** «Далёкі Усход».
**16.55** Руская віза.
**17.25** Свята кожны дзень.
**17.35** Панове-таварышы.
**17.55** Футбол. «Дынама»(Масква) — «Тарпеда» (Масква). У перапынку — Весткі.
**19.55** Падрабязнасці.
**20.05** «Санта-Барбара».
**20.55** «Аграбленне па...» Мультфільм для дарослых.
**21.20** Знянацку, ці Газетныя гісторыі.
**22.40** Аўтаімгненне.
**22.45** Зоркі гавораць.
**22.50** Спартыўная карусель.
**22.55** «Спартак» (Масква) — ЦСКА. 2-гі тайм.
**23.45** «Джын Харлоў». Дак. фільм.

### Санкт-Пецярбург

**7.45** Чароўная лінія.
**8.05** «Дзявочыя ўзоры». Мультфільм.
**8.20** Залаты ключ.
**8.30** «Майская вясёлка». Канцэрт харэаграфічнага ансамбля «Юны ленінградзец».
**9.00** Нямецкая хваля.
**9.30** «На парозе ночы». Маст. фільм.
**10.15**, 11.40, 15.40 Музычны момант.
**10.20** Тэлемагазін.
**10.30** Хуткая дапамога.
**11.00** Канцэрт па заяўках.
**11.30**, 15.30, 18.30, 21.45 Інформ ТБ.
**11.45**—12.00 Чароўная лінія.
**15.45** «Павел Корын. Русь адыходзячая».
**16.05** Крыжыкі-нулікі.
**16.45** Вялікі фестываль.
**17.00** «Летні сад». Тэлефільм.
**17.10** Армія Расіі.
**17.40** «На парозе ночы». Маст. фільм.
**18.50** Спорт.
**19.05** Будні.
**19.20** Тэлемагазін.
**19.25** «Трава зялёная». Маст. фільм.
**21.30** «Падсякай». Перадача для рыбаловаў.
**22.00** Спартыўныя навіны.
**22.10**—22.20 Ваш стыль.

### 8 канал

**18.00** «Карусель».
**18.25** Музычная праграма.
**18.50** Журфак БДУ прадстаўляе...
**19.00** Паліцэйскі серыял «Хіл Стрыт Блюз», «Бацькі і дзеці».
**19.45** «Навіны».
**20.00** Мультсерыял «Вальтрон».
**20.30** Тэлесерыял «Марэна Клара».
**21.20** «Мілавіца».
**21.45** Маст. фільм «Закон ёсць закон».

## Чацвер, 19 мая

### Беларускае тэлебачанне

**8.00** Раніца рэспублікі.
**8.10** Надвор'е.
**8.20** Пад купалам Сусвету.
**8.25** «Дзесяць хвілін плюс стагоддзе». Перадача 3-я.
**8.30** Пяць хвілін на жарты.
**8.45** Рэклама.
**8.55** «Семнаццаць імгненняў вясны». 12-я серыя.
**10.10** «Камаедзіца-94». Фестываль сатыры і гумару.
**11.15** «І вечны будзе май». Дак. фільм.
**11.35** «Жыла-была мара». Фільм-канцэрт.
**12.30** Студыя «Тэлесябрына». Велікоднае рэха.
**13.30** Навіны.
**15.15** Тэлебачанне — школе. Помнікі культуры на Беларусі.
**15.45** І. Брамс. «Нямецкі рэквіем».
**17.30** Навіны (з сурдаперакладам).
**17.40** «Узлёт Сіняй птушкі». Штрыхі да партрэта народнай мастачкі Г. У. Навасельцавай.
**18.10** Абласныя навіны (Гродна).
**18.25** Навіны Бі-бі-сі.
**19.00** Зачытайце маё пісьмо...
**19.05** Дзедка за рэпку. Парады агароднікам.
**19.35** Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. «Так гэта было...» Расказвае Д. А. Іваноў, былы падпольшчык і партызан.
**20.10** Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
**20.25** Пяць хвілін на жарты.
**20.30** Кантакт.
**20.35** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.35** Пад купалам Сусвету.
**21.45** Студыя «Формула»: «Дзверы», «Арт-Крок», «Мужчынскі клуб».
**23.15** Надвор'е.
**23.25** НІКа.
**23.40** «У джазе толькі дзяўчаты». Маст. фільм (ЗША).

### Канал «Астанкіна»

**5.15** Ранішняя размінка.
**5.30** Раніца.
**7.45** Агляд рынку нерухомасці.
**8.00,** 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 22.55 Навіны.
**8.20** «Чужыя вокны». Мультфільм.
**8.25** «Бераг яго жыцця». 3-я серыя.
**9.30** У свеце жывёл (з сурдаперакладам).
**10.10** ... Да 16 і старэйшым.
**10.50**, 23.45 Прэс-экспрэс.
**14.25** Прадпрымальнік.
**15.10** «Прыгоды Тома Соера».
**15.40** Музыканты. Вядучы — А. Агаміраў.
**16.10** ... Да 16 і старэйшым.
**16.50** Тэхнадром.
**17.25** За кулісамі. Федэралізм. Вопыт Расіі і СНД.
**17.45** Дакументы і лёсы.
**17.50**, 20.35 Надвор'е.
**17.55** «Раскол». 6-я серыя.
**18.55** «Споведзь абачлівага чалавека». Яўген Габрыловіч аб часе і аб сабе. Частка 3-я.
**19.40** Добрай ночы, малышы!
**20.45** Лато «Мільён».
**21.15** Маст. фільм «Бедны багач» (Італія).
**23.05** Музагляд.

### Канал «Расія»

**6.00,** 10.00, 15.00, 19.00, 22.20 Весткі.
**6.20** Патрабуюцца...
**6.30** Формула-730.
**7.00** Час дзелавых людзей.
**7.30** «Настальжы».
**8.00** Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
**8.25** Антракт. К. Шаўрына.
**8.35** Паехалі.
**8.45** «Санта-Барбара».
**9.35** Тэлегазета.
**9.40** Сялянскае пытанне.
**15.20** Студыя «Рост».
**15.50** Там-там навіны.
**16.10** Новая лінія. «Еўропа--Азія».
**16.40** Конны спорт. «Кентукі дэрбі».
**17.40** Свята кожны дзень.
**17.50** Экспацэнтр прадстаўляе.
**17.55** У свеце аўта- і матаспорту.
**18.25** Свая гульня.
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** «Санта-Барбара».
**20.25** Ніхто не забыты.
**20.30** Рэпарцёр.
**20.45** Правінцыяльныя пісьмы.
**21.20** Чароўны свет балета. «Фарух Рузіматаў».
**22.40** Аўтаімгненне.
**22.45** Зоркі гавораць.
**22.50** Спартыўная карусель.
**22.55** Экран крымінальных паведамленняў.
**23.05** Вячэрні салон.

### Санкт-Пецярбург

**7.45** Чароўная лінія.
**8.05** «Школа памочнікаў». Мультфільмы 1-ы і 2-гі.
**8.20** Казка за казкай.
**9.00** Нямецкая хваля.
**9.30** «На парозе ночы». Маст. фільм.
**10.20**, 11.40, 15.40 Музычны момант.
**10.30** Хуткая дапамога.
**11.00** Сямейная праграма.
**11.30**, 15.30, 18.30, 21.45 Інформ ТБ.
**11.45**—12.00 Чароўная лінія.
**12.00** Урок нямецкай мовы.
**15.45** Падарожжа па Усходзе.
**16.10** Музыка — дзецям.
**16.25** Тры колы, фаліянт і ...
**16.45** Вялікі фестываль.
**17.00** «Ветразь, вецер і мы». Тэлефільм.
**17.10** Рэформа і ўлада.
**17.40** «На парозе ночы». Маст. фільм.
**18.50** Спорт.
**19.05** Будні.
**19.20** Тэлемагазін.
**19.25** Улада і права. Прамы эфір.
**20.25** «Фраганар». Тэлефільм (Францыя).
**20.55** «Доктар Бартак і смерць». Мультфільм для дарослых. Фільм 2-гі.
**21.05** Блеф-клуб.
**22.00** Спартыўныя навіны.
**22.10** Ваш стыль.
**22.20**—23.35 «Вячэрні звон».

### 8 канал

**18.00** «Карусель».
**18.20** «Часопіс падарожжаў»: Аўстралія, Англія.
**19.00** Тэлесерыял «Лабірынт правасуддзя», «Горад сусветнага класа».
**20.00** Мультсерыял «Вальтрон».
**20.30** Тэлесерыял «Марэна Клара».
**21.20** «Навіны».
**21.35** «Файт». Кіксбоксінг.
**21.55** «Дэтэктыў... Баявік ...».

## Пятніца, 20 мая

### Беларускае тэлебачанне

**8.00** Раніца рэспублікі.
**8.10** Дзелавая хроніка.
**8.20** Пад купалам Сусвету.
**8.30** Надвор'е.
**8.40** Пяць хвілін на жарты.
**8.45** «Спявае Герард Васільеў». Фільм-канцэрт.
**9.00** Тэлебачанне—школе. Помнікі культуры на Беларусі.
**9.30** «У джазе толькі дзяўчаты». Маст. фільм (ЗША).
**12.15** «Пяць зорак». Тэлегульня.
**13.15** Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
**13.30** Навіны.
**15.30** Для школьнікаў. Ці любіце вы тэатр?
**16.10** Педагагічны экран. Нарыс пра Народнага настаўніка Беларусі Ф. Ф. Аскерку.
**16.30** «На крылах кажана». Пазнавальна-забаўляльная гульня для старшакласнікаў.
**17.30** Навіны (з сурдаперакладам).
**17.40** Шукаем ініцыятыўных. Новыя экалагічна чыстыя матэрыялы.
**18.00** Дзелавая хроніка.
**18.10** Абласныя навіны (Магілёў).
**18.25** Навіны Бі-бі-сі.
**19.00** Рок-айленд-шоу. Музычная праграма з удзелам груп «ДДТ», «Мясцовы час», «Рабл зон» і іншых.
**20.00** Рэйтынг.
**20.15** Студыя «Тэлесябрына». Падарункі на добры настрой.
**20.30** Кантакт.
**20.35** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.35** Пад купалам Сусвету.
**21.45** Пяць хвілін на жарты.
**21.50** Фільмы кінарэжысёра К. Занусі. «Дакрананне рукі».
**23.35** Надвор'е.
**23.45** НІКа.
**24.00** «Я + Я». Мужчына і жанчына.

### Канал «Астанкіна»

**5.15** Ранішняя размінка.
**5.30** Раніца.
**7.45** Файнэншыял таймс.
**8.00,** 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 23.20 Навіны.
**8.20** У гасцях у казкі. «Пудзіла з паддашкавага акна».
**9.55** Дні армянскай культуры ў Маскве.
**10.25** Каму жывецца весела.
**10.50**—24.00 Прэс-экспрэс.
**11.20** «Хадж». Паломніцтва ў Меку.
**14.25** Прадпрымальнік.
**15.00** Бізнес-клас.
**15.15** «Пудзіла з паддашкавага акна».
**16.50** Азбука ўласніка.
**17.25** Навіны культуры.
**17.40** Чалавек і закон.
**18.15** Дыялог з Еўропай. Вядучы — Д. Кісялёў.
**18.45** Поле цудаў.
**19.40** Добрай ночы, малышы!
**20.45** Чалавек тыдня.
**21.05** «Дэн Огаст». Маст. фільм.
**22.05** Том Джонс у Маскве.
**23.20** Аўта-шоу.
**23.35** Праграма «Х».

### Канал «Расія»

**6.00,** 10.00, 15.00, 19.00, 22.20 Весткі.
**6.20** Патрабуюцца...
**6.30** Формула-730.
**7.00** Час дзелавых людзей.
**7.30** Рэк-тайм.
**8.00** Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
**8.25** Антракт. Н. Каралёва, І. Нікалаеў.
**8.35** Паехалі.
**8.45** «Санта-Барбара».
**9.35** Тэлегазета.
**9.40** Сялянскае пытанне.
**15.20** Суседзі па планеце.
**15.50** Там-там навіны.
**16.05** Ваенны кур'ер.
**16.20** Новая лінія.
**16.50** Дысней па пятніцах. «Прыгоды марскога коціка Сэмі».
**17.45** Свята кожны дзень.
**17.55** Экспацэнтр прадстаўляе.
**18.00** Тэлеконкурс юрыстаў.
**18.45** «Чалавек у рамцы». Мультфільм.
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** «Каханне — гэта весела, каханне — гэта сумна». Маст. фільм (Францыя).
**21.25** Абзац.
**22.40** Аўтаімгненне.
**22.45** Зоркі гавораць.
**22.50** Спартыўная карусель.
**22.55** «Чалавек з Карлеона». Маст. фільм (Італія).

### Санкт-Пецярбург

**7.45** Чароўная лінія.
**8.05** Еўрапейскі калейдаскоп.
**8.35** Музыка — дзецям.
**8.50** Па сакрэту ўсяму свету.
**9.00** Нямецкая хваля.
**9.30** «На парозе ночы». Маст. фільм.
**10.20**, 11.40, 15.40 Музычны момант.
**10.30** Хуткая дапамога.
**11.00** «Сярэбраная ніць».
**11.30**, 15.30, 18.30, 21.45 Інформ ТБ.
**11.45** Чароўная лінія.
**12.00**—12.15 Паломніцтва ў Меку.
**15.45** Наўздагад.
**16.05** Кідайка.
**16.45** Вялікі фестываль.
**17.00** «Адлюстраванне». Тэлефільм.
**17.10** Новы Пецярбург.
**17.40** «На парозе ночы». Маст. фільм.
**18.50** Спорт.
**19.05** Будні.
**19.20** Тэлемагазін.
**19.25** Тэатральная правінцыя.
**19.55** «Марыца». Маст. фільм.
**21.00** «Густаў». Мультфільм для дарослых. Частка 8-я.
**21.15** «О-ля-ля» прадстаўляе: «Уся справа ў капелюшы».
**22.00** Спартыўныя навіны.
**22.10** Ваш стыль.
**22.20**—24.00 Анталогія замежнага кіно. «Усяго за долар» (ЗША).

### 8 канал

**18.00** Шматсерыйны фільм «Карусель».
**18.25** Музычная праграма.
**18.50** «Дорэміфасолькі».
**19.00** Тэлесерыял «Лабірынт правасуддзя», «Парука».
**20.00** Мультсерыял «Вальтрон».
**20.30** Тэлесерыял Марэна Клара».
**21.20** Час мясцовы.
**21.45** «Нардэм». Маст. фільм.

## Субота, 21 мая

### Беларускае тэлебачанне

**8.00** Раніца рэспублікі.
**8.10** Пад купалам Сусвету.
**8.20** Пяць хвілін на жарты.
**8.25** Урокі здароўя.
**8.50** Футбол. «Дынама-93»—ФК «Маладзечна».
**9.35** Здароўе. Тэлечасопіс.
**10.05** Паказвае Гомель.
**11.05** Тыдзень планеты.
**11.20** Фільмы кінарэжысёра К. Занусі. «Дакрананне рукі».
**13.05** Мультфільмы.
**13.15** «Сталіца». Тэлечасопіс.
**13.35** ТА «Рэха». 20 хвілін рэдактара.
**13.55** «Мой маленькі поні». Мультфільм (ЗША).
**14.25** «Адзінццатага ліпеня». Маст. фільм (1937 г.) Уступнае слова доктара мастацтвазнаўства А. В. Красінскага.
**15.55** «Усе мы родам з дзяцінства». (Магілёў і Магілёўская вобласць). Частка 1-я.
**17.25** «Случанка». Сустрэча з паэтэсай В. Аколавай.
**18.25** «Гінес-шоу».
**18.55** «Чарапашкі ніндзя».
**19.30** «Нов і К» — топ-10.
**20.30** Пяць хвілін на жарты.
**20.35** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.35** Пад купалам Сусвету.
**21.45** «Зоркі» на экране: «Гонар сям'і Прыцці» (ЗША).
**23.55** НІКа.
**0.10** «Каскад».
**0.25** Хакей. «Цівалі» (Мінск) — «Хімік» (Наваполацк).
**01.00** Відзьма-нявідзьма.

### Канал «Астанкіна»

**6.20** Ранішняя размінка.
**6.35** Суботняя раніца дзелавога чалавека.
**7.05** Спорт-шанц.
**7.30** Покліч джунгляў.
**8.00** Курбан-Байрам. Свята ахвярапрынашэння.
**8.40** Тэлерадыёкампанія «Мір», «Цік-так». Праграма для дзяцей; «Май—месяц веснавы»; «Галерэя першых персон». Фільм 4-ы; «Прэзідэнт Манголіі»; іншыя. «Расія. Нацыянальныя меншасці».
**10.05** Ранішняя пошта.
**10.35** Смак.
**10.50** Дапамажы сабе сам.
**11.20** Дак. фільм «Яго вялікасць футбол».
**11.50** Маст. фільм «Тайна рукапіснага Карана».
**13.20** Тэлескоп.
**14.00** Навіны.
**14.25** Вагон 03.
**14.35** Тэлемультфільм «Таямнічы свет Ог» (Аўстралія) 1-я серыя.
**15.05** Сацыял-дэмакратыя Захаду: дасягненні і перспектывы.
**15.35** Служэнне муз не церпіць мітусні.
**16.05** Тайны Старой плошчы: вайна ў Карэі (1950—1953 гг.). Аўтар — Д. Валкагонаў.
**16.35** «Жыццё заапаркаў» (ЗША).
**17.15** Каханне з першага погляду.
**17.55** Да і пасля.
**18.45** Маст. фільм «Месца, дзе табе добра» (ЗША). 3-я серыя.
**19.40** Добрай ночы, малышы!
**20.00** Навіны плюс.
**20.35** Надвор'е.
**20.45** Маст. фільм «Месца, дзе табе добра» (ЗША). 4-я серыя.
**21.40** Што? Дзе? Калі?
**22.45** Пад знакам «Задыяка. Цялец. У перапынку (23.15) — Навіны; Надвор'е.

### Канал «Расія»

**7.00,** 13.00, 19.00, 22.20 Весткі.
**7.25** Мульці-пульці. «Прыгоды пінгвіняняці Лало.
**8.00** Студыя «Рост».
**8.30** Парламенцкі тыдзень.
**9.00** Вялікі хакей.
**9.30** Пілігрым.
**10.15** Як жыць будзем?
**11.05** «Вёска Рутка». Маст. фільм.
**12.30** Мульці-пульці.
**12.40** Сялянскае пытанне.
**13.20** «Дарогу адолее той, хто ідзе». Фільм 1-ы.
**13.50** Ізабэль.
**14.35** «І помніць нездарма ўся Расія». Дак. фільм.
**15.35** Футбол без граніц.
**16.10** Магія Дэвіда Коперфільда.
**17.00** Валейбол. Сусветная ліга. Расія — Японія.
**18.15** Свята кожны дзень.
**18.25** Вуснамі дзіцяці.
**19.25** «Раганосца». Маст. фільм.
**20.55** «Гарадок». Забаўляльная праграма.
**21.25** Зусім сакрэтна.
**22.40** Аўтаімгненне.
**22.45** Зоркі гавораць.
**22.50** Спартыўная карусель.
**22.55** Праграма «А».
**23.55** «Тры дні Віктара Чарнышова». Маст. фільм.

### Санкт-Пецярбург

**7.30,** 11.45 Чароўная лінія.
**7.45** «Наваселле-ў браткі Труса». Мультфільм.
**8.05** «Пяць сустрэч на арэне».
**9.00** Нямецкая хваля.
**9.30** «Вячэрні звон» у ранішнім эфіры.
**10.00** «Падзорная труба». Маст. фільм.
**10.15** «Нехачуха». Мультфільм.
**10.30** Хуткая дапамога.
**11.00** Канцэрт па заяўках.
**11.30** Тэледоктар.
**12.00** «Бывайце, галубы». Маст. фільм.
**13.40** «Мільён прыгод. Востраў Іржавага генерала». Маст. фільм.
**14.45** Спартыўны агляд.
**15.15** «Кінаўспаміны. Спадчына». Тэлефільм (Францыя).
**16.00** Зебра.
**16.45** Вялікі фестываль.
**17.00** Аўтапілот.
**17.15** Крымінальнае дасье.
**17.35** «Вечная памяць». Вяртаючыся да вытокаў.
**18.10** Экспрэс-кіно.
**18.30**, 21.45 Інформ ТБ.
**18.55** «Слова Андронікава». Фільм 2-гі.
**20.00** Спявае Яўгенія Смальянінава.
**20.15** «Соф'я Пятроўна». Маст. фільм.
**22.00** Ваш стыль.
**22.10** Адам і Ева +.
**22.40** «Фатаграфіі на сцяне». Маст. фільм. 1-я серыя.

### 8 канал

**15.00** Мультсерыял «Тралафорнеры».
**16.00** «Роздумы аб джазе».
**16.50** Сямейны экран... «Жыццё па ліміту».
**18.00** Бізнес-план.
**19.00** Прыгодніцкі серыял «Заліў Небяспечны», «Каварная рака».
**19.30** «Давайце патанцуем».
**20.00** Мультфільмы.
**20.30** «Зорныя дзеці» з цыкла «Пані Удача».
**21.00** САЛТЭК, «Спартыўная мазаіка».
**21.30** Сем хвілін з «Хрыстафорам».
**21.40** Тэлесерыял «Кветка страсці».

## Нядзеля, 22 мая

### Беларускае тэлебачанне

**7.55** Праграма перадач.
**8.00** Раніца рэспублікі.
**8.10** Пад купалам Сусвету.
**8.20** Пяць хвілін на жарты.
**8.25** Слова да чалавека.
**8.55** Кампанія «Рамас» для дзяцей і дарослых: «Чарапашкі ніндзя». Мультфільм.
**9.30** Нядзельная пропаведзь ксяндза Уладзіслава Завальнюка.
**9.40** Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. Справы вайсковыя.
**10.25** «Каралеўства алмазаў». Маст. фільм (Індыя).
**12.20** Мультфільм.
**12.35** Аэробіка. Урокі Наталлі Наважылавай.
**13.10** Белыя і чорныя. Тэлевізійны шашачны клуб.
**13.40** MTV. Лепшыя хіты.
**14.10** ABC-клуб. Англійскую мову вучым самі.
**14.25** «Мульт-хіт-парад.» Уручэнне прызоў пераможцам.
**14.45** Вяскоўцы. Парушанае супрацоўніцтва. Перадача з Гомеля.
**15.15** «Усе мы родам з дзяцінства». І Рэспубліканскі тэлевізійны фестываль юных талентаў (Магілёў і Магілёўская вобласць). Частка 2-я.
**16.45** «Гінес-шоу».
**17.15** Кампанія «Рамас» для дзяцей і дарослых: «Чарапашкі ніндзя». Мультфільм.
**17.50** Тэлекрама.
**18.05** Настальгічны дывертысмент.
**19.10** Брама. Права на любоў.
**20.00** Панарама.
**20.35** Пад купалам Сусвету.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Пяць хвілін на жарты.
**21.05** Рэклама.
**21.10** «Пан Валадыеўскі». Маст. фільм (Польшча). 1-я і 2-я серыі.
**23.40** Незабудзьцеся ўключыць тэлевізар.
**23.50** «Гонкі для Беларусі» (Формула-3, Формула-Юніёр).

### Канал «Астанкіна»

**6.45** Ранішняя размінка.
**7.00** Гадзіна сілу духу..
**8.00** Без паўзы.
**8.30** Раным-рана.
**9.00** Палігон.
**9.30** Спортлато.
**9.45** Пакуль усе дома.
**10.15** Разумнікі і разумніцы.
**10.55** Марафон-15.
**11.40** Карэйскі эфюд.
**12.00** Ведзі.
**12.30** Дзень добры!
**13.00** «Піф і Геркулес».
**13.10** «Падводная адысея каманды Кусто».
**14.00**, 22.50 Навіны.
**14.20** Дыялог у прамым эфіры.
**15.00** Клуб падарожнікаў.
**15.50** Шпаргалка.
**16.00** «Кот Фелікс», «Сапраўдныя паляўнічыя на прывіды».
**16.50** Жывое дрэва рамёстваў.
**16.55** Футбол. Кубак Расіі. Фінал. «Спартак» (Масква)—ЦСКА.
**18.50** Тэлелоцыя.
**19.00** Маст. фільм «Прафесіянал».
**21.00** Нядзеля.
**21.45** Спартыўны ўік-энд.
**22.00** Вялікі тэатр. Дні і вечары.
**23.00** Вялікая прагулка.
**23.35** Начное жыццё гарадоў свету. Парыж.

### Канал «Расія»

**7.00,** 13.00, 19.00, 22.20 Весткі.
**7.25** «Любоў». Дак. фільм.
**7.55** Студыя «Рост».
**8.25** «Снеданне для чэмпіёнаў».
**8.55** Лепшыя гульні НБА.
**9.55** Аты-баты...
**10.25** «Дэ факта». Міжнародная праграма.
**10.55** «Дарагі мой чалавек». Маст. фільм.
**12.40** Сялянскае пытанне.
**13.20** Не высечы...
**13.35** «Дарогу адолее той, хто ідзе». Фільмы 2-гі і 3-ці.
**14.35** Сусветная вёска.
**15.05** Белая варона.
**15.50** Расійская энцыклапедыя. «Сталіца дваранскай рэспублікі».
**16.20** Залатая шпора.
**17.00** «Гуфі і яго каманда», «Чорны плашч».
**17.55** Свята кожны дзень.
**18.05** Валейбол. Сусветная ліга. Расія — Японія.
**19.25** «Доказ». Маст. фільм.
**21.15** Кіно ў чэрвені.
**21.30** У Ксюшы.
**22.00** Каробка перадач.
**22.40** Аўтаімгненне.
**22.45** Зоркі гавораць.
**22.50** Спартыўная карусель.
**23.00** «Прывід замка Марысвіль». Маст. фільм.

### Санкт-Пецярбург

**7.30** «Гаючае слова». Праграма-набажэнства.
**8.00** Маст. фільм. «Усяго за долар» (ЗША).
**9.40** Куток Расіі. «Фарбы Шыкатана».
**10.00** Экспрэс-кіно.
**10.15** Сам-насам з музыкай.
**11.00** Нядзельны лабірынт.
**12.30** «Сабака, які спыніў вайну». Маст. фільм для дзяцей (Канада).
**13.50** Этнасы Зямлі.
**14.15** Гістарычны альманах.
**15.00** «Тайна рэчыва». Навукова-папулярны фільм.
**16.25** Дж. Вердзі. Опера «Аіда».
**18.55** Інформ ТБ.
**19.20** Наша кіно. «Забіць дракона».
**21.20** Ваш стыль.
**21.30** «Дом кіно». У пошуках страчанага часу.
**22.30**—23.55 «Фатаграфіі на сцяне». Маст. фільм. 2-я серыя.

### 8 канал

**15.00** Мультсерыял «Тралафорнеры». 8, 9 серыі.
**16.10** Спартыўная паралель.
**17.00** Нямецкая гарэлка.
**17.30** Кароткаметражны фільм «Ускосныя ўлікі» з цыкла «Зігзагі жыцця».
**18.00** САЛТЭК, «Тэлефэн». «Вуліца».
**18.30** «Дзікая Амерыка».
**19.00** «Зводныя дзеці» з цыкла «Пані Удача».
**19.30** Спорт-сакрэт.
**20.00** «Скрытая камера». Камедыйнае шоу.
**20.20** Тэлесерыял «Кветка страсці».
**22.40** Музычная праграма.




# НЯЧЫСЦІК

Асаблівасці ўяўленняў беларусаў аб міфалагічных вобразах раскрываюцца на прыкладзе аналізу аднаго з найбольш пашыраных у міфалогіі і фальклоры славянскіх народаў вобраза хтанічнага свету — чорта (д'ябла, нячысціка, Люцыфера, Ніцыпара, сатаны, шатана і інш.). У этыялагічных міфах і легендах чорт часам паўстае як памочнік і адначасова антаганіст Бога ў стварэнні свету, раслін, жывёл.

Паходжанне чорта ў легендзе, запісанай Ч.Пяткевічам у Рэчыцкім Палессі, тлумачыцца так: стары анёл узбунтаваўся і хацеў «пабратацца з Богам», а Бог яго «піхануў» так, што той «паляцеў сторч галавою проста ў пекла» і там зрабіўся чортам Люцыферам, а за ім «чорнаю хмараю» пасыпаліся «чэрці з яго дружыны». Пабачыўшы ў возеры сваю «паганую морду», чорт ускаламуціў ваду і з возера ўзнікла балота, дзе ён і пасяліўся. У легендзе, запісанай А.К.Сержпутоўскім, вобраз д'ябла паўстае ў выглядзе нікчэмнай, шкоднай істоты.

«Бачыце, якая тут нетра, якая тхлань: цэлы тыдзень ідзі, та да краю не дацягнешся. Даўней тут была чыстая вада, усё лялело да блішчала на сонейку, бы шкло. Бог ездзіў па вадзе ў чоўне да аглядаў, гдзе зрабіць землю. От раз плыве Бог у чоўне да мяркуе, як і гдзе што ўрондзіць; а тым часам чорт закмеў Бога ды й паплыў за ім назіркам: падплыве к чоўну да ат страху нырне ў воду, бы нырэц, і зноў плыве. Вельмі яму хочэтца пранюхаць, што Бог мае рабіць. Бачыць Бог, што чорт прэтца следам, як тая мара, бачыць, да ўсё маўчыць. От пасеяў Бог землю, — сыпануў жменю зямлі, а тут разам расступілася вада, й высунулася сухая зямля з лесам, з полем да с сынажацямі», — расказваў А.К.Сержпутоўскаму казачнік з в.Чучавічы Слуцкага павета П.Грыцкевіч, паляшук, чым галоўным чынам і абумоўлены тыповыя для Палесся малюнкі прыроды ў яго творах, г.зн. месцам жыхарства.

Нацыянальныя рысы выяўляюцца не толькі ў карцінах роднай прыроды, але і ў абмалёўцы міфалагічных вобразаў, напрыклад, чорта: думкі, дзеянні і паводзіны яго перадаюцца эмацыянальна насычанай мясцовай гаворкай. Пазайздросціўшы Богу, чорт падумаў: «Ото ж, каб мне дастаць гэтага насення, — нарабіў бы я мудрэй Бога, нарабіў бы так, што сам Ніцыпар пазавідуваў бы». Бог дазволіў чорту ўзяць насення: той ухапіў яго жменю, кінуў у горла і глынуў. Ствараецца камічная сітуацыя: чорт раней часу абрадаваўся, што ўдалося ўкрасці насенне. Аднак яму не толькі не давялося «нарабіць мудрэй», чым Бог, ён нават знявечыў сябе: пачало расці яго чэрава, «бы на дрожджах, расце, аж бокі распірае. Расце чэраво ўсё больш і больш, расце так, што чорту нельга й дыхаць. Давай гэто ён бляваць ды выплёўваць тое насенне. Куды плюне чорт, дак там і вырасце корч або куст лазы. Прэтца чорт па вадзе да так блюе, што аж з яго вантробы выпірае. А тым часам усё больш і больш па вадзе заплёўваецца чортава балота. Моташна чорту, хочэтца яму ўсё насенне з жывата выкінуць, от ён снуе па вадзе, бы павук, да усё блюе. Па немалум часе ўся вада закрылася лазою да ракітаю. Зачапіўся чорт за лозу да як рыгне, дак усё насенне і выскачыло з жывата ў воду, й пачала з яго расці ўсялякая непатрэбная трава».

Так паказваецца ў народным творы ўдзел чорта ў стварэнні зямлі, расліннага свету, а праз яго ўчынкі раскрываецца яго воблік. Цікава, што Бог, як пабачыў, што нарабіў чорт, аж «за голаў схапіўса», але і ён не здолеў перарабіць — вымушаны быў пакінуць лазу і ўсё балота такім, якім зрабіў яго чорт. Чалавек жа не разгубіўся, наздзіраў з лазы кары і пачаў віць вяроўкі, а пасля абхітрыў дурнога чорта: прывязаў яго да «таўшчэразнага дуба» і пагразіўся скастрыраваць. Спалохаўся чорт, выврваў дуб з коранем і «сунуў наўцекача з дубам разам». Чалавек сеў на рала дуба і «пакрыквае на чорта: «вяртай налево, вяртай направо!» — Бегаў, бегаў чорт, узвярнуў усё балото. От ат таго да тых час яшчэ стаяць па балоце выжары, азярыны да выскаці».

Ва ўяўленні старажытных палешукоў і ўсіх беларусаў чорт — звышнатуральная істота, здольная нарабіць нямала бед; адначасова — гэта істота слабая розумам. Чорт у міфалагічна-фальклорных творах амбівалентны: валодаючы магутнай звышнатуральнай сілай, значна большай, чым чалавек, ён бяссільны ў супрацьстаянні чалавечаму розуму. У народных творах адбілася думка палешукоў, існаваўшая ў далёкім мінулым, што чорт жыве ў ім жа створаным балоце ("дзе балота, там і чорт"), а раней нават вада «кішэла чарцянятамі». І толькі на Вадохрышча чэрці «таўкліся ў паветры», калі іх выганялі з вады. Яны ж і паднімалі «такую хвілю, што ні пі, ні еж і з хаты не лезь. Затым-то на Вадохрышчы заўжды бываюць ганебные мяцеліцы. Часам усходзіцца такая круцель да завіруха, што спрэсу пазаносіць вёскі. Бяда тагды ў полі: свету Божага не бачно. Пападуцца ў полі людзі, дак нячысцікі закруцяць іх кале самаго сяла й загубяць», — апавядаў той жа П.Грыцкевіч у казцы «Паляшук і чорт» і зазначаў, што цяпер зменшылася чарцей: «іх пабіў громам Ільля, а другіе не раджаюцца», таму што «Палешук перахітрыў і чорта».

У казцы ў высокамастацкай форме адлюстроўваецца побыт палешукоў, іх працавітасць, дойлідская таленавітасць, надзвычайная мудрасць, якая ярка выяўляецца ў процістаянні нячысцікам. Калі Паляшук пасяліўся паміж балотамі каля ракі, чорт з усіх сіл імкнуўся нашкодзіць яму, «рабіць яму ўсялякую пакасць, каб выгнаць яго з тае сядзібы». Не здолеў чорт загубіць чалавека ў лесе, калі той выбіраў дрэвы на будоўлю, не спалохаў яго, а больш напалохаўся сам, калі Паляшук сказаў, што хоча забудаваць усё Палессе. Больш таго, чалавек выкарыстаў велізарную сілу чорта для сваіх мэт: прымусіў чорта расчыніць пушчу для будоўлі ("слухае чорт Паляшука: выдзірае таўшчэразнае дуб'ё з карэннем да сцягае ў балото, або ў возеро. Кудэю чорт цёг дуб'ё, там да тых час яшчэ е равы да выскаці").

У камічным паказе ўзаемаадносін Палешука і чорта выяўляецца неразуменне апошнім рэальнасці, непрактычнасць, дурасць. Для Палешука чорт нястрашны, ён яго лае, як звычайнага чалавека, «на чом свет стаіць: — Дзеля якого ты, — кажа, — чорта нарабіў брадоў да брадзянят? — Рад чорт, што нарабіў чалавеку ліха, рад, аблізваецца да толькі ціхенько хвастом круціць». Паляшук паехаў на чорце аглядаць дарогі праз брады і брадзяняты: «Бяжыць чорт на брадох у вадзе да ў гразі па самае горло, а Паляшук сядзіць на карку, падгібаўшы ногі да толькі кіруе. Ездзіўездзіў Паляшук на чорту, здаволіўса да й вярнуўся да гасподы. — Бачыш, добрые дарогі, — кажэ чорт. — Добрые та добрые, — адказвае Паляшук, — да чорт бы іх пабраў разам з табою». Так тлумачыцца паходжанне дарог на Палессі.

Прыродныя ўмовы ўплывалі на фармаванне пэўнага спосабу жыцця. Асваенне зямлі і прыроды, характар працы і стварэнне жыццёвых умоў паказваецца праўдападобна. «Збудаваў сабе Паляшук усялякі будынак, ускарпаў палянку зямлі, расчысціў лапікло сынажаці да й зажыў добрым хаджайнам... От абжыўса Паляшук, нагадаваў гаўяда, нажаў збожжа, налавіў вьюноў — жыве й ліха не знае».

Чорт жа асеў у балотах і нетрах і заўсёды пры сустрэчы з чалавекам трапляў у камічнае становішча: ён нават паверыў Палешуку, што стане мацнейшым, калі яго скастрыруюць. Гэты эпізод вельмі дынамічны, насычаны дасціпным народным гумарам. Чорт сам просіцца ў чалавека вылегчаць яго. Паляшук згаджаецца пры ўмове, што звяжа яго. «От узяў Паляшук ліну, што цягаюць улье на дзераво, скрампаваў ею чорта, прывязаў яго к тоўстаму дубу, узяў серп і давай лягчаць. Крычыць чорт, раве немым голасам, а Паляшук пілiць сярпом. Цярпеў, цярпеў чорт да як рванецца, дак перш дуба вырваў з карэннем, а потым і ліну разарваў, бо павуценне. Вылегчаў Паляшук чорта да й кажэ: — Ну, цяпер будзеш дужы, як і я. — Пацягся чорт у балото, ужэ не бяжыць, а паўзе чуць не ракам. Пасядзеў ён там — няма рады: кроў льецца, бы з вапрука». Паляшук і тут абхітрыў чорта: калі чорт прыйшоў скардзіцца, што рана не зажывае, замест сябе падставіў жонку. Асноўны змест казкі падводзіць да разумення, чаму цяпер нячысцікі не множацца.

У беларускай міфалогіі і фальклоры вобраз чорта надзвычай шматгранны: ён гаспадарыць у хтанічным свеце, карае грэшнікаў, кіруе рознымі хваробамі, паморкам і да т.п. У гэтых адносінах вялікую цікавасць мае казка «Хвароба над хваробамі», у якой раскрываецца іерархія хтанічнага свету, пераканаўча паказваецца шкоднасць п'янства. Сюжэт яе цікавы.

Селянін Семко быў добрым гаспадаром, але пасля смерці адзінага сына Янкі запіў. Аднойчы ішоў ён з карчмы «падвыпіўшы», падышоў да крыжа каля дарогі, спатыкнуўся і ссунуўся ў канаву, дзе вады не было, толькі трохі гразі. Ноч была цёплая, палажыў галаву Семко на траву і глядзеў на зорнае неба, а калі адна зорка пакацілася і патухла, падумаў, што магчыма гэта душачка яго Янкі. Як раптам перад ім з'явіўся Янко, узяў яго за руку, і яны паляцелі на гару, спусціліся ў склеп. Семко апынуўся ў хаце, Янко дзесьці прапаў, а ў яго «душа ў пяткі схавалася, чуць з цела не выскачыць... Але ось расступілася зямля, й выйшлі дзве якіесь нечысці ў постаці чалавека, толькі вельмі касматыя й з рагамі; паскладвалі яны ў кучу чалавечыя чарапы, паветрылі насамі, бы сабакі, ці няма непатрэбнага, й леглі кале кучы. Па немалум часе трэснула сцяна й нарабіла такога гуку, што ў Семкі дух сперло й у вачу пацямнело. Ачухаўся ён трохі, бачыць, ажно з дзіркі вылазіць такая страшная нечысь, што не можна й сказаць. А чэрці ўсялякаго калібру вядуць гэтую нечысь пад рукі, шапкуюць, услугоўваюць, от не раўнуючы, бы архірэя. Дагадаўса Семко, што гэто, мабыць, самы старшы чорт — Ніцыпар. Хацеў перахрысціцца, дык пад лаваю так цесно, што нельга рукі пашавяліць. Ось Ніцыпар узабраўся на кучу з чалавечых касцей ды й усеўса, бы пан на крэсле. Сядзіць, а чэрці стаяць па бакох да зубы скаляць. Трэснула й яшчэ адна сцяна, й пачалі вылазіць аттуль, — напярод смерць з касою (от акурад, як малююць), а за ею ўсялякія хваробы. Налезло гэтае пошкудзі поўна хата.

— Ну, — кажа Ніцыпар, — ты, смерць, садзіса кале мяне, а вы, мае пахолкі, кажэце, што вы зрабілі, ці много людзёў перабавілі з таго свету».

Своеасаблівую справаздачу рабілі перад Ніцыпарам розныя хваробы: хондзя, або трасца, якая дрыжала, бы асіна, і пісклявым голасам скардзілася, што людзі знайшлі многа зёлкаў, і яна нічога «не парадзіць»; сухоты, якія пахвалілі п'янства, быццам добра дапамагае ("пры гэтых славах ана пакланілася якойсьці бочцэ, а з тае только тырчыць аблезлая галава с сінім носам"); воспа, разачка, халера, гарачка, адзёр і шмат іншых хвароб, якія таксама хвалілі п'янства. Дзякавала п'янству і смерць: «...п'янство верно мне служыць: яно робіць больш, чым усе хваробы разам. А колько яно яшчэ прыгатаўляе... После п'янства возьме й трасца, й пухліна, й разачка, й усялякая хвароба. Не, а то ты папробуй к здароваму прыступіцца! Калі ты сунешся к яму ў жывот, а ён цябе давай варыць; круцішся, круцішся да й вон скарэй бяжыш, бо ён і камень зварыць.

— Хвалю п'янство! — закрычаў Ніцыпар. — Раблю цябе самым старшым, хваробаю над хваробамі. Цяпер усе цябе будуць слухаць. Хадзі, каханае п'янство, ка мне, садзіся кале мяне».

Зусім інакш Ніцыпар ставіўся да хондзі. Ён на яе закрычаў і прыгразіў, што дасць такога дыхту, што з яе і духі «выпрэ».

Казка заканчваецца вяртаннем Семкі ў канаву, адкуль ён пацёгся «да гасподы» ("сунуў, бы хорт"). «Але мабыць с тае пары Семко больш не пойдзе ў карчму й не будзе піць», — гаворыць казачнік Савіцкі з в.Чудзін.

... Казкі трэба чытаць уважліва, і яны шмат што раскажуць пра светасузіранне людзей і фармаванне ў іх маральна-этычных і сацыяльных ідэалаў, нормаў жыцця, псіхічнага складу, характару, самасвядомасці.

**Анатоль ФЯДОСІК,**
**доктар філалагічных навук.**


КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП,
Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ,
А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ,
В. СКВАРЦОЎ, К. ГАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ,
В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра
газеты «Культура»

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.

Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©
Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 8000
Замова 50
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

